РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №22 (131), 1 ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



TV-ПРАГРАМА:

БТ, «Астанкіна», канал «Расія», Санкт-Пецярбург, 8-ы канал.

Стар.15.

# АД ЗАБЫЦЦЯ — ДА КОЖНАГА СЭРЦА



НЕ хацелася б успамінаць (ды як не ўспомніць?) падзеі дваццацігадовай даўнасці, калі пры дапамозе галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Алеся Асіпенкі была надрукаваная мая аповесць пра Еўфрасінню Полацкую — «Прадыслава». Па разгромнай рэцэнзіі «патрыярха беларускай гісторы» Абэцэдарскага, па спецыяльным паседжанні сектара атэізму пры ЦК КПБ ды бясконцым лістам абражаных пенсіянераў у самыя розныя інстанцыі —ад ЦК КПСС да КДБ і «Праўды» — можна было падумаць, што аўтарка замахнулася не меней як на асновы імперы. Толькі праз гады я добра зразумела — самая маленькая драбінка праўды аб нашай самастойнай гісторыі, пра нашых асветнікаў, святых, каралёў і г.д. здавалася пэўным сілам, што свядома пагружалі ў гістарычнае бяспамяцтва цэлы народ, небяспечнай. Цікава — калі ў 1991 годзе мы, некалькі чалавек ад Славянскага фонду Беларусі (Алесь Петрашкевіч, Ніна Загорская і іншыя) як бы ўдзельнічалі ў абмеркаванні некаторых дакументаў Фонду і Славянскага Сабора ў Маскве і звярнулі ўвагу на тое, што першадрукаром славян быў не Іван Фёдараў, а Францішак Скарына, што побач з імёнамі дарагіх для славян імёнаў Серафіма Сароўскага і Сергія Радонежскага добра было б паставіць і імя першай святой на ўсходнеславянскіх землях Еўфрасінні Полацкай, «сабаране» гэта проста праігнаравалі... Вось так — «наша дарагое павінна быць дарага і вам, а ваша нам — не абавязкова»... На тым і скончыліся нашы агульныя кантакты... Успамінаю пра гэта таму, што, нягледзячы ні на што, праўда аб Еўфрасінні Полацкай з гадамі прабілася ў нацыянальную свядомасць з кнігі У.Арлова, артыкулаў Г.Штыхава, С.Тарасава. Але, як нядаўна гаварыла ў адной з радыёперадач Ніна Загорская, дзень 5 чэрвеня — дзень святой Еўфрасінні — яшчэ не стаў нацыянальным святам беларусаў. А варта было б — ды, папраўдзе кажучы, даўно наспеў час падняць слаўнае імя беларускай асветніцы на тую вышыню, якой яно вартае. Магчыма, гэта ўдасца Усебеларускаму жаночаму фонду Еўфрасінні Полацкай (інтэрв'ю з яе прэзідэнтам пісьменніцай Валянцінай Коўтун мы даем у сённяшнім нумары) сумесна з Праваслаўнай і уніяцкай цэрквамі на Беларусі.

Прынамсі, сёлета дзень 5 чэрвеня будзе адзначаны, дзякуючы стварэнню гэтага Фонду і дапамозе Фонду Сораса, асабліва ўрачыста. І аб тым, як гэта будзе адзначацца ў Полацку, мы раскажам вам у наступных нумарах.

А заканчваю я гэтую кароткую нататку шчаслівым для мяне, як для пісьменніцы, эпізодам — нядаўна ў беларускім ліцэі мастацтваў цудоўны энтузіяст беларускай гісторы Паліна Рыгораўна Наскова правяла вечарыну па аповесці «Прадыслава», і вучні падрыхтавалі для яе некалькі сваіх работ, з якіх найбольш цікавымі былі карціны Каці Пашкевіч, Ганны Ціханавай, Вікі Каваленчыкавай. І хочацца даць магчымасць перад днём Еўфрасінні Полацкай і з яе імем дэбютаваць у друку дзесяцікласніцы Каці Ахрэмчык з яе карцінай «Еўфрасіння і Іаан». Хай будзе і яе лёс, і лёс нашых беларускіх дзяцей пад ахoвай і апекай святой патронкі Беларусі...

**Вольга ІПАТАВА, пісьменніца.**



На здымках:
Медаль Усебеларускага жаночага фонду Еўфрасінні Полацкай.
Кацярына Ахрэмчык «Еўфрасіння і Іаан».
Фота Г.Жынкова.

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

- 30 мая з Парыжа вярнуўся намеснік міністра культуры і друку Генадзь Бураўкін, які браў удзел у канферэнцыі міжурадавага камітэта ЮНЕСКО па вяртанні культурных каштоўнасцяў, якія незаконна былі вывезены за межы краін-уладальніц.
- 31 мая ў мінскім Доме літаратара прайшоў урачысты вечар, прысвечаны 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Наладзілі сустрэчу Саюз пісьменнікаў Беларусі і дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў.
- 31 мая ў Мастацкай галерэі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава твораў жывапісцаў Ірыны і Анатоля Кузняцовых.
- З 30 мая па 1 чэрвеня працягваўся сімпозіум Рады Еўропы па праблемах старажытных гарадоў. Беларусь на ім прадстаўляў начальнік Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў гісторыі і культуры Рэспублікі Беларусь Дзмітрый Бубноўскі.
- 31 мая ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі адбыўся штогадовы традыцыйны справаздачны канцэрт навучэнцаў Беларускай дзяржаўнай харэаграфічнай вучэльні.
- 1 чэрвеня ў Мінскім раёне пройдзе свята, прысвечанае Міжнароднаму году сям'і, якое арганізаваў аддзел культуры Мінгарвыканкама. На ім выступяць самадзейныя калектывы і выканаўцы раёна.
- 2 чэрвеня ў Мінску ў скверы тэатра оперы і балета ля помніка паэту Максіму Багдановічу Дзяржаўны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга ўрачыста адкрые другі Нацыянальны фэст беларускай сучаснай музыкі і паэзіі. У канцэрце на свежым паветры выступяць вядомыя эстрадныя спевакі, маладыя выканаўцы.
- 2 чэрвеня ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета адбудзецца канцэрт дэбютантаў, выпускнікоў Беларускай акадэміі музыкі.
- У мінскім кінатэатры «Кастрычнік» праходзіць дэманстрацыя фільмаў беларускіх рэжысёраў, прымеркаваная да 70-годдзя кінастудыі «Беларусьфільм». Паказ, які быў урачыста адкрыты 26 мая новай стужкай паводле рамана Элізы Ажэшка «Франка», завяршыцца 5 чэрвеня.
- У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі працягвае работу выстава «Наіўнае мастацтва Беларусі» ("Мастацтва infitus Беларусі"), якую падрыхтаваў Беларускі інстытут праблем культуры.
- Мастацкая галерэя Рэспублікі Беларусь да 12 чэрвеня прадоўжыць паказ выставы «Сіняя прастора» жывапісца Є.Кірушчанкі і скульптара Т.Сакаловай.
- 3 — 5 чэрвеня ў Паставах Віцебскай вобласці пройдзе сёмы традыцыйны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Ён збярэ лепшыя калектывы і выканаўцаў з усёй Беларусі. Сюды завітаюць госці з Польшчы, Украіны, Расеі.

# ТВОРЧАСЦЬ ЮБІЛЯРА

Споўнілася 25 гадоў з дня адкрыцця Гомельскага Дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны. Гэтую святочную падзею шырока адзначыла грамадскасць горада. На адрас юбіляра прыйшлі віншаванні ад кіраўнікоў нашай рэспублікі, ад многіх навуковых устаноў, у тым ліку з Кітая, Англіі, Францыі. Увесь гэты час побач з навукай заўсёды ішло развіццё мастацкіх талентаў студэнтаў. Ва універсітэце існуюць выдатныя творчыя калектывы, многія з якіх выступілі перад удзельнікамі юбілейнай імпрэзы. Гэта, перш за ўсё, лаўрэат II Міжнароднага фестывалю харэаграфічных калектываў і II Рэспубліканскага фестывалю студэнцкай моладзі, удзельнік фестывалю ў Францыі народны фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Радзімічы», мастацкім кіраўніком і харэографам якога з'яўляецца Аляксандр Лысянкоў. А напярэдадні юбілею універсітэта тут было шырока адзначана 20-годдзе студэнцкага тэатра «Люстэрка». Самадзейны калектыў, вельмі папулярны ў горадзе, віншавалі калегі па творчасці, у тым ліку прафесіяналы: акцёр Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Генадзь Давыдзько і галоўны рэжысёр Гомельскага абласнога тэатра Уладзімір Караткевіч. Ва універсітэце не бракуе і аматараў выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, аб чым ярка засведчыла нядаўняя выстава іх работ «... І майстэрства, і натхненне», на якой свае творы паказалі выкладчыкі і студэнты.

**Уладзімір ГЛАДЫШАЎ.**

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# СІНДРОМ САБАКІ НА СЕНЕ

Лідэр Народнага фронту і адзін з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Зянон Пазьняк выказаўся, што ў беларускім друку ды на радыё-тэлебачанні скрозь пануе песімістычны настрой, а духу беларускаму сёння найбольш адпавядае аптымізм, бо менавіта аптымізм — з'ява стваральная, якая дазваляе спадзявацца на будучыню, дасягаць лепшага.

Бездакорнае, трэба адзначыць, выказванне, з якім можна і трэба згаджацца. Каб толькі не адно «але»...

Так, назіраючы за агоніяй наменклатуры, за гэтымі бясконцымі ваяжамі «самага рэальнага з кандыдатаў», за гэтымі віншаваннямі маладых сержантаў у Печах ("ніколі беларускія хлопцы не будуць ваяваць на чужой зямлі" — заяўляе заўзятар калектыўнай бяспекі), за гэтымі ліслівымі прамовамі ("дарагія клірыкі" — звяртаецца былы член ЦК да царкоўнікаў), за гэтымі пустымі абяцанкамі ("зарплаты павялічым, а цэны замарозім" — а адначасова згвалцім Прэзідыум ВС на чарговыя нічым не забяспечаныя 500 млрд. рублёў) — назіраючы за ўсім гэтым, нельга не прасякацца аптымізмам.

Зразумела, што кіраўнічае спадарства прайграла і прайграла капітальна. Нават калі «найбольш рэальнаму» з кандыдатаў і ўдасцца ў выніку займець 25 працэнтаў плюс адзін голас, у перспектыве яму «не свеціць» анічога. Крах палеглай эканомікі, ігнараванне і перашкоды замежным інвестыцыям, няўменне і нежаданне скарыстоўваць перавагі геастановішча, неразуменне геапалітычных інтарэсаў Беларусі, гіперінфляцыя і гіпержабрацтва, «кончаная» вёска з калгасамі-банкрутамі і галодны пралетарыят у гарадах шанцаў нават пераможным кіраўнікам даюць мала.

Нерэальныя і спадзяванні на дагавор з Расіяй як на выратаванне і вызваленне ад адказнасці. Бо дагавору гэтаму здзейсніцца не наканавана з адной самай трывіяльнай прычыны: усе невідушчымі быць не могуць. А калі хочуць прадаць Беларусь, дык непрафесійна і некампетэнтна. Вось ужо не вытрымаў Багданкевіч, які спачатку сказаў усё, што думае з гэтай нагоды, а пасля аб'явіў беларускага зайца адзіным плацёжным сродкам. Не вытрымае, урэшце, і найбольш цвярозая частка Вярхоўнага Савета, якая заблакаваць скасаванне беларускай дзяржавы ўсё ж здолее.

Так што праўду Пазьняк пра аптымізм казаў.

Яго можа спарадзіць і тое, што камуністычная ідэя ў беларускім грамадстве паціху пачынае займаць належнае ёй месца —г.зн. нязначнае і нічога не вырашальнае. Камуністы гэтага яшчэ не зразумелі, але з цягам часу іхні пячорны інтэрнацыяналізм, які выліваецца ў беларусафобію, адбярэ ў іх тры чвэрці магчымага электарату. Але нават і сёння шанцаў на выйгрыш у таварышаў чырвоных і аграрыяў зусім мала.

Дык што, удвая праўду казаў Пазьняк?

Безумоўна. Толькі ёсць усё ж тыя самыя «але»...

І «але» гэтыя крыюцца ў амбіцыях асоб і партыйных гульнях сіл, так бы мовіць, «нашага» лагера (чытач, спадзяюся, мяне зразумее).

Ва ўмовах несфармаванай партыйнай сістэмы, ва ўмовах палітычнай нестабільнасці і жорсткага эканамічнага крызісу партыйныя босы нацыянальных партый пачалі паводзіць сябе так, быццам вырашана ўсё, акрамя як «хадэкі» ці «эсдэкі» возьмуць большасць міністэрскіх партфеляў. Усе дэмакратычна-патрыятычныя сілы не забываюцца прадэклараваць, што дзяржаўнасць, незалежнасць і дэмакратыя — іхнія прыярытэтныя задачы. Забываюцца толькі пра адно — менавіта супраць беларускай дзяржаўнасці і дэмакратыі яднаюцца іхнія апаненты. Высокапастаўлены чыноўнік абяцае прыслухоўвацца да кожнага слова Кангрэса народа Беларусі і клянецца наведаць другі сход антыбеларускіх сілаў, у так званым Народным руху поруч сядзяць камуністы з манархістамі, прэс-сакратары найгоршымі ворагамі народа аб'яўляюць нацыянал-радыкалаў — а ў гэты час беларускія дэмакратычныя міні-партыі (толькі прашу нікога не крыўдаваць!) ладзяць міжпартыйныя разборкі на тэму «хто больш сумленны, шчыры і паслядоўны!»

Асабіста мне, па вялікім рахунку, усё роўна, хто стане прэзідэнтам маёй краіны — Пазьняк, Шушкевіч, Карпенка альбо Лугін (апошні, на жаль, з барацьбы выбыў), хоць некага я магу паважаць болей ці меней. Я проста хачу, каб перамог хоць хто-небудзь з іх, бо іхняя перамога паспрыяе майму аптымізму і надзеі на Будучае.

Супраць Народнага руху павінен паўстаць іншы народны рух, а ўжо пасля перамогі ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе ў сваёй моцнай і дэмакратычнай дзяржаве можна будзе рабіць выбар паміж тонкасцямі ліберальнага, сацыял- або хрысціянска-дэмакратычнага мыслення.

Але імкнення да стварэння такога народнага руху, Нацыянальнага фронту Беларусі якраз і няма. Лідэр БСП не набраў ста тысяч галасоў — і яго партыя раптам заяўляе пра тое, што яна не падтрымае нікога, а будзе толькі галасаваць СУПРАЦЬ пэўных сілаў. Франтаўцы, прагназуючы другі тур прэзідэнцкіх выбараў без свайго лідэра, але з Шушкевічам, таксама не збіраюцца аказваць апошняму дапамогу. Далібог, нейкі сіндром «сабакі на сене»!

Дык хай перамагае Народны рух! Хай застаецца ў апазіцыі БНФ, хай мае жменьку дэпутатаў у ВС БСДГ, хай надалей лічыцца перспектыўнай АДПБ, хай паўлегальна пашырае шэрагі фермераў БСП, хай хвалюецца за сцэнай палітычнага жыцця пра маральнасць нацыі БХДЗ, хай махае крыламі НДПБ — кіраваць на гэтай зямлі будзе іншы. А мы будзем заставацца аптымістамі.

Найцяжэй будзе толькі Статкевічу і ягоным хлопцам з БЗВ, ці сябрам ТБМ, альбо згуртаванцам з «Бацькаўшчыны», якія, урэшце, ставяць на Беларусь, а не на кандыдата. Найцяжэй будзе беларусам, якія, па выразу Сакрата Яновіча, «пра свае справы хацелі гаварыць самі», толькі іх, свядома альбо не, такога права пазбавяць.

І менавіта таму ў другім туры выбараў (а першы, я ўпэўнены, МЫ выйграем), павінна перамагчы Беларусь, а не сабака... на сене.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**

# З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СВЯТАМ, ІТАЛІЯ!

Скончылася вайна, канчаткова разгромлены фашызм з ягонымі завадатарамі. Мусаліні быў схоплены партызанамі ў той час, калі спрабаваў дасягнуць швейцарскай мяжы ў форме нямецкага афіцэра. Пакаранне смерцю Мусаліні і ягоных падручных было здзейснена на плошчы ў Мілане 28 красавіка 1945г., і яго цела было выстаўлена на плошчы разам з целам каханкі Кларэты Петачы, што не захацела з ім расставацца . Па ўсёй Італіі расшукваліся фашысты, якія засталіся на волі і маглі ўзяцца за зброю ў хуткім часе. Таму 2 чэрвеня 1946 года былі прызначаны выбары ў Канстытуцыйны Сход, які павінен быў ухваліць новую дзяржаўную Канстытуцыю, і адначасова быў праведзены рэферэндум пра выбар народа паміж Манархіяй і Рэспублікай.

Большасць выказалася за Рэспубліку, і ў выніку такога рашэння Умберта II, прызначаны каралём Італіі 9 мая гэтага ж года пасля адмены кіравання Віктара Эмануіла III, раніцай 13 чэрвеня пакінуў Італію на ваенным самалёце і паехаў у Партугалію ў пажыццёвае выгнанне.

Канстытуцыйны Сход 25 чэрвеня 1947г. у Палацы Монтэчыторыя (рэзідэнцыя Палаты Дэпутатаў) абраў часовага главу дзяржавы Энрыка Дэ Нікола. Новая Канстытуцыя была прынятая 27 снежня і ўступіла ў дзеянне 1 студзеня 1948г. Першым Прэзідэнтам Рэспублікі стаўся Энрыка Дэ Нікола.

У пасляваенны час Італія перажывала вялікія цяжкасці. Урад і парламент пачалі вялікую работу па ўзнаўленні эканамічнага патэнцыялу краіны, аздараўленні яе маральнага стану. У той час усе дэмакратычныя партыі супрацоўнічалі ў духу нацыянальнай згоды: спачатку ў распрацоўцы новай Канстытуцыі, а потым — у хуткім эканамічным аднаўленні.

Больш дакладнае ўяўленне пра той час дае, прынамсі, фільм Раберта Раселіні. Карціна «Рым, адкрыты горад», пачынае школу італьянскага неарэалізму, як і фільм «Пайза», які працягвае гэтыя традыцыі. Тут мы ўбачылі і непераўзыдзеную Анну Маньяні ў галоўных ролях. Спроба дакладна адлюстраваць Італію і яе народ у той перыяд была натуральнаю для мастацтва. Аплаквалі загінуўшых, чакалі вяртання тых, хто прапаў без вестак, робячы высновы з тых пакутаў, што прынесла фашысцкая дыктатура. Рабочыя, інтэлігенцыя, сяляне маглі выбіраць паміж барацьбой і прымірэннем, якое ўвасоблена ў вобразе беспрацоўнага — галоўнага героя фільма «Выкрадальнікі ровараў» Віторыа Дэ Сіка.

Аднак гэтыя часіны ўжо далёка, і зараз мы набліжаемся да XXI стагоддзя. Але цэлае пакаленне было сведкам тых трагічных падзей і памылак, і, вядома, нельга глядзець ў будучыню, не ведаючы свайго мінулага.

Сёння італьянцы глядзяць з надзеяй у будучыню і маюць вялікае жаданне жыць і ўсміхацца. У дзень свята адбываюцца ваенныя парады і былыя салдаты праходзяць па вуліцах, залітых сонцам.

У Рыме, калі я быў хлопчыкам, мне падабалася хадзіць на вуліцу Форы Імпер'ялі і памятаю, як праходзіў атрад «берсальераў» і ў калоны гараджане кідалі апошнія кветкі вясны.

Мае віншаванні са святам, я няспынна думаю пра цябе, Італія!

**Асвальда ЛЕУЦЫ,**
**аташэ па культуры Амбасады Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь.**

**Ад рэдакцыі:**

**Мы віншуем народ Італіі з яго нацыянальным святам!**

ЧАС ВЫБАРАЎ

*Галоўнаму рэдактару газеты «Культура»*
*сп. Іпатавай В.М.*

*Паважаная Вольга Міхайлаўна!*

*Гэты артыкул быў напісаны для газеты «Свабода» па просьбе яе галоўнага рэдактара. Аднак днямі сп.Германчук адмовіўся яго друкаваць, бо тут ёсць крытыка ў бок ягонае газеты. Прашу Вас надрукаваць гэтыя развагі ў «Культуры», бо, на жаль, не ўсялякая «свабодная» прэса з'яўляецца такой на самой справе.*

*З павагай Алег ТРУСАЎ.*

# ЧАМУ ГРАМАДА ПАДТРЫМАЛА СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА

Чаго толькі не пісала беларуская і замежная прэса пра Станіслава Шушкевіча пасля таго, як наменклатурная бальшыня ў Вярхоўным Савеце разам з некаторымі «дэмакратамі»-кан'юнктуршчыкамі нарэшце зламіла амаль гадавое супраціўленне нешматлікай апазіцыі і з вялікай радасцю адправіла яго ў адстаўку.

Адзін з перабежчыкаў у наменклатурнае балота, які некалі, дарэчы, прайшоў у Вярхоўны Савет па спісах БНФ, з гонарам заявіў адной беларускай рускамоўнай газеце: «Пал первый беловежский зубр». Праўда, наменклатура не захацела аддзячыць за такую адмысловую паслугу і неўзабаве з трэскам «пракаціла» ягоную кандыдатуру спачатку на выбарах новага спікера беларускага парламента, а потым і падчас выбараў у склад Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь.

Спачатку перамогу над былым «зубрам» святкавалі камуністычныя і праўрадавыя газеты разам з адпаведнымі расійскімі выданнямі. Радасць іх зразумелая, і таму на іх віскат няварта звяртаць увагі.

Аднак адразу пасля прыняцця новай Канстытуцыі за Шушкевіча ўзяліся раптам тыя выданні, якія лічаць сябе незалежнымі і свабоднымі. У чым жа справа?

Наменклатура з Вярхоўнага Савета і Саўміна, якая вырашыла насаліць розным БНФаўцам і грамадоўцам, прыняла ім насуперак новую Канстытуцыю і, каб не праводзіць датэрміновыя выбары ў Вярхоўны Савет, аб'явіла ўлетку 1994 г. прэзідэнцкія выбары. Яна не сумнявалася, што перамогу тут атрымае не хто іншы, як «наш любимый Вячеслав Францевич».

Адной з першых з боку дэмакратычных сілаў на гэты наменклатурны выклік адгукнулася Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада і прапанавала вылучыць ад дэмакратычнага блока адзінага кандыдата і, пажадана, чалавека ўсім вядомага як на Беларусі, так і далёка за яе межамі. Пры гэтым было б добра, каб ён не належаў ні да якіх партый ці рухаў, бо выбары прэзідэнта — гэта не выбары ў парламент, дзе кожная партыя ідзе на чале са сваім лідэрам.

Такім чалавекам мог стаць Станіслаў Шушкевіч, бо сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя Грамадой, паказалі, што за яго згодна прагаласаваць без усялякай папярэдняй агітацыі і прапаганды не меней 30 працэнтаў выбаршчыкаў на Беларусі. Каб праверыць гэтыя факты, Грамада разам з АДПБ наладзіла сустрэчы з Шушкевічам ва ўсіх абласных і вялікіх раённых гарадах Беларусі і ўпэўнілася ў сваім выбары. Тым больш, што Шушкевіч заўжды лічыў сябе чалавекам сацыял-дэмакратычных поглядаў і трывала іх прытрымліваўся на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета.

Добрую характарыстыку Шушкевічу ў самы цяжкі для яго момант даў беларускі пісьменнік Васіль Быкаў. 7 лютага 1994 года ў эксклюзіўным інтэрв'ю расійскаму часопісу «Новое время» ён сказаў пра адстаўку Шушкевіча наступнае:

« — Шушкевич — фигура трагическая. Как раз его попытки быть «центристом» сыграли с ним скверную шутку и привели к политическому краху. Он честный, умный, интеллигентный человек, преданный демократическим идеалам, но, видимо, не для нашего времени.»

Аднак апытанні розных катэгорый насельніцтва Беларусі, сустрэчы з простымі людзьмі ў студэнцкіх аўдыторыях, на заводах, з ветэранамі вайны і працы, з калгаснікамі, медыкамі, вайскоўцамі і настаўнікамі яскрава паказвалі, што час Шушкевіча можа надысці, але пры адной умове. Яму патрэбна моцная каманда. І яна была сфармавана ў складзе Грамады, АДПБ, Партыі зялёных і прадстаўнікоў некалькіх незалежных прафсаюзаў. У гэту каманду таксама ўвайшлі беспартыйныя прадстаўнікі новага сярэдняга класа (прадпрымальнікі, эканамісты, банкіры і юрысты).

У сакавіку парламенцкая фракцыя Грамады вяла доўгія перамовы з дэпутацкай групай Партыі народнай згоды, каб узмацніць лагер цэнтрыстаў і выступіць разам.

Аднак 8 красавіка ў «Известиях» з'явіўся артыкул Аляксандра Старыкевіча «Раскол на красном фланге», дзе Шушкевіч быў сплюжаны як асоба і палітык, а ў якасці аптымальнага варыянта названы блок Пазьняк — Карпенка. Пры гэтым малады журналіст без усялякіх сацыялагічных даследаванняў сказаў літаральна наступнае: «Пры ўмовах добра арганізаванай выбарчай кампаніі шансы Карпенкі на поспех значна вышэй, чым у Шушкевіча».

Партыя БНФ, вядома, афіцыйна не прыняла прапанову спадара Старыкевіча і пайшла на выбары без усялякага альянсу з іншымі дэмакратамі, на чале са сваім лідэрам, які неаднаразова заяўляў, што іншай самастойнай сілы сярод беларускіх дэмакратаў акрамя БНФ няма і не можа быць.

Такім чынам, на старт выйшлі тры дэмакратычныя каманды і кожная з іх збірала подпісы за свайго прэтэндэнта самастойна. У красавіку і маі шмат якія газеты з дэмакратычнага лагера хвалілі толькі Карпенку і Пазьняка і ўсяляк змяншалі ролю Шушкевіча. Дадстаткова пагартаць старонкі «Свободных новостей», «Свабоды», віцебскага «Выбару» і гродзенскай «Пагоні». Толькі газета «Культура», мінскі «Добры вечар», магілёўская «Ратуша» змяшчалі матэрыялы, аднолькава прымальныя для ўсіх трох дэмакратычных кандыдатаў. Асабліва вызначылася «Свабода», якая ў стылі «Мы и время» распавяла спачатку аб тым, як Шушкевіч сушыць на сваім балконе споднюю бялізну, а потым змясціла яго фотаздымак у праваслаўным храме, даўшы Станіславу Шушкевічу (у тэксце пад здымкам) у жонкі зусім іншую жанчыну.

Але адзначым і тое, што толькі «Свабода» (але зноў жа з памылкай, якая потым была выпраўлена рэдакцыяй) прывяла ўрыўкі тэксту з пагаднення паміж Станіславам Шушкевічам і Грамадой аб яго дзеяннях як падчас выбарчай кампаніі, так і пасля перамогі. Дарэчы, іншыя каманды такіх пагадненняў са сваімі лідэрамі не заключалі, відаць, вераць ім на слова.

Галоўны аргумент супраць Шушкевіча, калі адкінуць пытанне з бялізнай і іншыя дробязі, адзіны: «Быў каля ўлады і нічога не зрабіў».

Грамада ставіць гэтае пытанне крыху па-іншаму. Што зрабіў Станіслаў Шушкевіч за нядоўгія два з нечым гады, практычна не маючы ніякай улады? Бо аб якой уладзе можна казаць, калі Шушкевіч мог рэальна разлічваць толькі на 35 галасоў апазіцыі і яшчэ на такую ж колькасць сяброў з дэмклуба па некаторых важных пытаннях.

І тым не менш у 1991 годзе ён здолеў разам з апазіцыяй і дэмклубам прыпыніць дзейнасць КПСС (і нават на кароткі тэрмін — ЛКСМБ), змяніць назву дзяржавы і двума трэцямі галасоў (!) з трэцяга разу прыняць нацыянальную сімволіку ў якасці дзяржаўнай. Менавіта Шушкевіч у снежні 1991 г. запрасіў у Віскулі Краўчука і Ельцына і стаў ініцыятарам афіцыйнай канстатацыі таго бясспрэчнага факта, што СССР як апошняя імперыя XX стагоддзя, якую прэзідэнт ЗША Р.Рэйган трапна вызначыў як «імперыю зла», перастаў існаваць юрыдычна. (Фактычна Савецкі Саюз знішчыла КПСС у жніўні 1991 года).

Упершыню за сваю тысячагадовую гісторыю Беларусь атрымала незалежнасць без войнаў і паўстанняў, без страт сваёй тэрыторыі і насельніцтва.

У 1992 годзе Шушкевіч непасрэдна спрычыніўся да стаўлення і стварэння самастойных Узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь, прычым раздзел былога савецкага войска адбыўся на карысць Беларусі (дастаткова ўспомніць змаганне за Віцебскую дэсантную дывізію і Пінскую ваенна-марскую вучэльню). Станіслаў Шушкевіч першым з кіруючых асобаў краіны паставіў свой подпіс пад антыкрызісным пагадненнем, якое абараніла кволую беларускую незалежнасць. Шмат зрабіў Шушкевіч і для таго, каб беларускае войска нарэшце прыняло прысягу на вернасць беларускай дзяржаве. Дзякуючы яго намаганням Беларусь стала першай бяз'ядзернай дзяржавай на тэрыторыі былога СССР, і нашыя сыны і браты сталі служыць толькі на сваёй зямлі.

У 1993 годзе, пачынаючы з 18 сакавіка, наменклатура пайшла ў адкрыты наступ на беларускі суверэнітэт і пачала цягнуць Беларусь спачатку ў калектыўную бяспеку, а потым і ў канфедэрацыю з Расіяй. Пры гэтым стаўка была зроблена на Хасбулатава і Руцкога, а таксама на розныя групоўкі расійскіх камуністаў. І тут Шушкевіч выступіў супраць таго, каб нашы хлопцы пайшлі зноў на афганскую мяжу, і дамогся тых агаворак Вярхоўнага Савета, што зрабілі дагавор аб калектыўнай бяспецы пустым гукам.

Аднача́сова Шушкевіч разам з дэмакратычнымі сіламі ў Вярхоўным Савеце знішчаў так званую «калектыўную ўласнасць» на зямлю, што ўводзіла ў ранг закону сталінска-калгасны прыгон для беларускіх сялян.

На працягу ўсяго 1993 года ішло няспыннае змаганне за дзяржаўнасць беларускай мовы, за захаванне нацыянальнай сімволікі ў якасці дзяржаўнай, за аднаўленне сапраўднай беларускай гісторыі, за вяртанне беларускім вернікам розных канфесій іх забраных святыняў. І тут Шушкевіч заўжды быў на вышыні. Дастаткова ўспомніць яго ўдзел у святкаванні 75-х угодкаў БНР у якасці прыватнай асобы (бо Прэзідыум ВС не падтрымаў Шушкевіча), ягоны выступ на з'ездзе беларусаў свету ці з'яўленне дзяржаўнага герба Беларусі на будынку ЦК КПБ. Шмат зрабіў былы старшыня ВС Беларусі і для прарыву інфармацыйнай блакады вакол Беларусі. З яго дапамогай былі ўсталяваны цесныя эканамічныя адносіны з Германіяй, Аўстрыяй і Польшчай. Яго візіты ў самыя значныя краіны свету, а таксама прыбыццё прэзідэнта ЗША Клінтана на Беларусь сведчаць аб высокім міжнародным аўтарытэце Станіслава Шушкевіча. Нездарма вядучыя газеты свету вызначылі адстаўку Шушкевіча, «як паўзучы камуністычны пераварот і пагрозу еўрапейскай дэмакратыі». Тым не менш С.Шушкевіч паспеў зрабіць самае галоўнае: ёсць комплекс (пакет) законаў для будаўніцтва на Беларусі рыначнай эканомікі.

Вядома, Станіслаў Шушкевіч рабіў і шмат памылак, якія, дарэчы, ён умее прызнаваць і выпраўляць. Аб іх было столькі сказана, у тым ліку і аўтарам гэтага артыкула, што зноў вяртацца да іх няварта.

Варта прыгадаць толькі адно: што б зараз уяўляла беларуская дзяржава і ці існавала б яна наогул, каб на месца С.Шушкевіча быў абраны ў верасні 1991 года Вячаслаў Кебіч? Дарэчы, спадар Карпенка таксама змагаўся за гэтае мулкае крэсла, і хто ведае, што зрабіў бы для Беларусі гэты палітык, калі ўлічыць, што ён заставаўся ў шэрагах КПСС да 25 жніўня 1991 г. і авалодаў збольшага дзяржаўнай мовай толькі напрыканцы свайго дэпутацкага тэрміну?

Таму Грамада ў мэтах захавання беларускай дзяржавы, выступаючы за плаўны пераход да рыначнай эканомікі, улічваючы вопыт, у тым ліку і адмоўны, Літвы, Расіі і Украіны, прапануе абраць першым прэзідэнтам Беларусі Станіслава Шушкевіча — вопытнага палітыка, сумленнага і адукаванага чалавека, які зможа стаць гарантам незалежнасці адроджанай дзяржавы.

**Алег ТРУСАЎ,**
**старшыня ЦР БСДГ,**
**народны дэпутат Беларусі.**

Рыгор ГРУДНІЦКІ

# ПЕРСПЕКТЫВЫ РЭФОРМАЎ НА БЕЛАРУСІ Ў СВЯТЛЕ МАСАВАЙ СВЯДОМАСЦІ

Неабходнасць глыбокага і радыкальнага рэфармавання нашага грамадства гэткая відавочная, што адмаўляць яе ніхто не адважыцца нават у думках. Але сам працэс рэфармавання і сутнасць рэформаў часта ўяўляюць надта спрошчана і аднабока як перабудову эканомікі ды ўсталяванне рыначных адносінаў у сферы эканамічнага жыцця. Пры гэтым часта практыкі, якія ў палітыку прыйшлі з вытворчасці, схільныя думаць, што, па-першае, вядучая роля ў гэтым працэсе належыць дзяржаве і толькі дзяржаве і, па-другое, што эканамічныя рэформы ці не аўтаматычна вядуць да дэмакратыі. І калі гэтыя рэформы не ідуць, ці ідуць вельмі марудна, як гэта дзеецца ў нас, то прычыну гэтага зазвычай бачаць у нерашучасці рэфарматарскіх намаганняў дзяржавы ці палітычных лідэраў. У гэтым не адно спрошчанае ўяўленне аб сутнасці рэформаў, але і неразуменне існасці дэмакратыі, бачанне, якое не ідзе далей «улады народа», што дае кожнаму роўныя правы з усімі іншымі. Аднак дэмакратыя найперш гэта адказнасць і абавязак. Адказнасць кожнага асабіста за непарушнасць правоў усіх, абавязак усіх гэтыя правы абараняць і пашыраць у межах разумнага.

А гэта азначае, што ўзровень дэмакратыі залежыць ад узроўню дэмакратычных уяўленняў людзей, ад іх здольнасці і гатоўнасці да пераўтварэння фундаментальных асноў грамадскага жыцця, залежыць, калі дазволена так сказаць, ад дэмакратычнай ментальнасці грамадства. А гэта, у сваю чаргу, азначае, што эканамічная рэформа — толькі частка, элемент агульнага і больш істотнага працэсу дэмакратызацыі і што галоўная роля ў гэтым працэсе належыць не дзяржаве, якая адно павінна стварыць адпаведную палітычную прастору, а людзям, што дзейнічаюць у гэтай прасторы і часта нават не маюць больш-менш выразнага ўяўлення аб дэмакратыі.

А гэтыя людзі нарадзіліся не сёння і не дзеля ажыццяўлення рэформаў, яны выйшлі з дня ўчарашняга, калі не пазаўчарашняга, і выхаваныя на прынцыпах таго жыцця, ад якога мы маем намер адмовіцца. Масавая свядомасць цалкам запоўненая стэрэатыпамі, якія сфармаваліся і ўкараніліся ў ёй праз шматгадовую татальную ідэалагічную апрацоўку. Святасць і недатыкальнасць гэтых стэрэатыпаў абараняліся дыктатурай, якая сама з цягам часу рабілася святой і недатыкальнай і ператваралася ў стэрэатып мыслення.

Тыя працэсы, што адбываюцца ў нас, закранулі толькі самыя верхнія і таму няўстойлівыя і неістотныя стэрэатыпы. Тыя ж з іх, на якіх грунтуюцца сацыяльна-вартасныя арыентацыі людзей і якія абумоўліваюць здольнасць і гатоўнасць іх да сацыяльна значных дзеянняў, не толькі захавалі сваю ўстойлівасць, але, як гэта ні дзіўна, падмацаваліся бязладдзем і хаосам нашага цяперашняга жыцця. Іх шмат, але найперш у масавай свядомасці неабходна вылучыць тыя з іх, якія маюць фундаментальны характар і аказваюць рашучы і вызначальны ўплыў на паводзіны людзей.

Мушу заўважыць, што назвы, якія выкарыстаны тут, чыста ўмоўныя і маюць больш метафарычны, чым тэрміналагічны характар, яны дапушчаныя з мэтай адэкватнай інтэрпрэтацыі зместу.

Адметнай з'явай масавай свядомасці беларускага грамадства ёсць *стэрэатып «роўнасці»* ў марксісцка-бальшавіцкай інтэрпрэтацыі як роўнасць усіх ва ўсім. Гэты стэрэатып не дазваляе нават у думках

*(Заканчэнне на стар. 4)*

# НАШЧАДАК ДУХУ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ

*Валянціна КОЎТУН — аўтарка некалькіх кніг прозы і паэзіі, таленавіты навуковец і грамадскі дзеяч, прэзідэнт Усебеларускага жаночага фонду св.Ефрасінні Полацкай. Наш карэспандэнт сустрэўся з ёй напярэдадні свята нябеснай апякункі Беларусі, якое мы будзем адзначаць 5 чэрвеня.*

**— Валянціна Міхайлаўна, адна з Вашых кніг мае назву «Святло народнага слова». Як вядома, у хрысціянскай традыцыі і Слова, і Святло лічацца атрыбутамі Бога. Вы мяркуеце, мова была падаравана народу нябёсамі?**

— Так, у новай кнізе «Касмічная паэтыка», якую друкуе часопіс «Полымя», я шукаю праз паэтыку народнай творчасці генетычны код беларускай нацыі — тое, што закладзена ў нас зоркамі, Космасам. У культуры кожнага народа, у ягоным фальклоры адлюстроўваюцца нябёсы, пад якімі ён жыве на працягу тысячагоддзяў. І кожны народ адыгрывае сваю ролю ў сусвеце, наканаваную яму касмічным Словам — таямніцай зорнага неба. Генетычны код нацыянальнага характару і культуры ўвогуле мог бы стацца «ключом» да таямніцы нашага існавання, а таксама да разумення наканаванага нацыі лёсу.



**— Пры гэтым Вы абапіраецеся, пэўна, на нейкую філасофію: індыйскую, паганскую, хрысціянскую, ці спрабуеце іх спалучыць?**

— Так, усе гэтыя школы мыслення закранаюць пытанні касмічнага паходжання чалавецтва, але найболыш блізкім для мяне з'яўляецца хрысціянства: менавіта яго я лічу той вялікай сілай, што выратуе наш народ, калі грамадства засвоіць ягоныя маральныя законы. Зрэшты, дзесьці ў глыбіні народнай душы хрысціянскія каштоўнасці існавалі заўсёды. Менавіта так я разумею купалаўскі радок: «мужык не змяніўся».

**— Натуральна, чым бліжэй да зямлі жыве чалавек, тым больш ён кансерватыўны ў ладзе жыцця і светапоглядзе. Гараджане заўсёды хутчэй пераходзяць на новыя моды і ў вопраты, і ў палітыцы.**

— Я вельмі люблю слова «кансерватыўнасць»: для мяне яно азначае саматоеснасць нацыянальнага характару, устойлівасць і непарушнасць маралі народа, а перадусім — сялянства, бо жыццё на гарадскім асфальце ўсё ж такі збядняе душу чалавека.

**— І напэўна, невыпадкова Вы звярнуліся да постаці Ефрасінні Полацкай?**

— Так; бо яна была і застаецца прыкладам лепшых рысаў беларускага характару, а таксама зорнай ахоўніцай маральнага стану нацыі. Беларусь, як ні банальна гэта казаць, — сапраўдны мост паміж Захадам і Усходам: дык не дай жа Бог, каб на гэтым мосце ўзарваўся дынаміт варожасці паміж людзьмі або нацыямі! Святая Ефрасіння падала нам цудоўны прыклад талерантнасці, мужнасці і любові да бліжніх. На жаль, яшчэ не ўсе мы ўсвядомілі, якое шчасце — мець такую заступніцу перад Богам. Шмат людзей зараз жыве ў разгубленасці і самоце: ад іх адвярнуліся ўлады, сябры ці сама будучыня, але ж кожнага чалавека можа сагрэць думка аб святой Ефрасінні, якая ніколі не здрадзіць. Калі ў свядомасць народа вернецца памяць пра нашу заступніцу, усім нам будзе лягчэй дыхаць і жыць. Апрача таго, мы проста павінны мець і шанаваць сваіх святых, як і ўсе хрысціянскія народы.

**— Дзеля гэтага і быў утвораны Усебеларускі жаночы фонд Ефрасінні Полацкай, які Вы ўзначальваеце?**

— Так, напрыканцы мінулага года. Я перакanana, што з цягам часу Дзень святой Ефрасінні будзе прызнаны міжнародным культурным святам: мы ўжо звярнуліся з такой прапановай у ЮНЕСКО. Па сутнасці, такое свята адбудзецца ўжо сёлета, 5 чэрвеня, у Полацку. На запрашэнні ад нашага фонду адгукнуліся сябры з Балгарыі, Украіны, Расеі, Літвы, а таксама грамадскія арганізацыі і міністэрствы нашай краіны. Мы пазнаёмім нашых гасцей з музеямі і саборамі старажытнага Полацка, распавядзем пра хрысціянскія традыцыі на Беларусі. Адбудуцца малебен і вынас мошчаў святой Ефрасінні з капліцы, дзе яны захоўваюцца, да народа. Вельмі важна, каб літургія адбылася не толькі ў храме, але і ў душы кожнага з прысутных. На вуліцах горада пройдуць святочныя канцэрты, народныя гулянні ды іншыя імпрэзы. Потым мы запросім нашых гасцей на канцэрт духоўнай музыкі ў Сафійскі сабор. Там маюць выступіць Камерны хор Беларусі, ансамбль народных інструментаў імя Жыновіча, ансамбль «Бліскавіца», полацкі хор хлопчыкаў, украінскі гурт «Ізвараш», а таксама «Харошкі», якія выканаюць музыку з «Полацкага сшытка».



Хачу яшчэ дадаць, што з нагоды Дня св.Ефрасінні наш фонд абвяшчае прыём у Міжнародны актыў міласэрнасці і веры. Справа ў тым, што да нас прыходзіць шмат лістоў з розных краін, у якіх прапануюць сваю дапамогу фонду або іншай хрысціянскай справе. Многія жадаюць даглядаць за хворымі ў бальніцах, удзельнічаць у хрысціянскіх чытаннях у школах і г.д. Сябрамі Міжнароднага актыву хацелі б стацца не толькі асобныя грамадзяне, але і такія ўстановы, як Нацыянальная бібліятэка РБ, Інстытут літаратуры Акадэміі навук, Універсітэт культуры і Педагагічны ўніверсітэт. І вось праз Вашу газету я хацела б паведаміць усім зацікаўленым асобам, што для ўступлення патрэбная заява на імя праўлення фонду, у якой трэба пазначыць свой дакладны адрас, агульныя звесткі пра сябе (дзе чалавек працуе, якую прафесію мае), а таксама канкрэтныя прапановы аб дапамозе. Просім дасылаць усё гэта на адрас:

220123 Мінск, вул. Веры Харужай, д.10/2, кв.17, а таксама тэлефанаваць па нумары 76-94-58.

Паведамляем і нашыя рэквізіты ў АКБ «Беларусь»: код 795, разліковы рахунак 700873.

**— Спадзяюся, сярод чытачоў нашай газеты Усебеларускі жаночы фонд Ефрасінні Полацкай знойдзе сабе новых сяброў. Дзякуй за размову.**

Юрась БАРЫСЕВІЧ.

# ПЕРСПЕКТЫВЫ РЭФОРМАЎ НА БЕЛАРУСІ Ў СВЯТЛЕ МАСАВАЙ СВЯДОМАСЦІ

*(Пачатак на стар. 3)*

дапусціць магчымасць неаднолькавага, а значыць, «няроўнага» і «несправядлівага» размеркавання. Пры гэтым роўнасць сацыяльная, палітычная застаецца для гэтай свядомасці калі не чымсьці невядомым, дык ва ўсякім разе незразумелым. Гэтая свядомасць ведае і дапускае толькі адну роўнасць — размеркавальную, і толькі яе ўспрымае як справядлівасць. Усё ўсім павінна належаць пароўну, незалежна ад таленту, адукацыі, сацыяльнай значнасці і эфектыўнасці працы, узроўню рызыкі і г.д.

Вось чаму масавая свядомасць не ўспрымае (а дакладней — успрымае адмоўна) прадпрымальніцтва і прадпрымальнікаў і вось чаму яна не прымае прыватнай уласнасці: для масавай свядомасці гэта не гарантыя самастойнасці і незалежнасці, а пагроза і разбурэнне «роўнасці» як «аднолькавасці» і «справядлівасці».

*Стэрэатып «савецкасці»* (а можа «саўковасці»?) надае свядомасці «сярэдняга» беларуса ўпэўненасць у тым, што саветы як форма палітычнай арганізацыі — самы лепшы і самы эфектыўны здабытак сацыялізму. Тое, што такая дзяржава раней ці пазней непазбежна ператвараецца ў недагледжаную кухню, анiяк не закранае свядомасць «сярэдняга» беларуса, бо значэнне мае не парадак у дзяржаве і не эфектыўнасць улады, а «роўнасць», «аднолькавасць». Таму прапановы аб рэфармаванні палітычнай сістэмы ўспрымаюцца масавай свядомасцю як заклік да «разгону» саветаў. Муніцыпалітэт, мэрыя — для масавай свядомасці гэта словы, прыдуманыя нацыяналістамі ды новымі капіталістамі. Калі ж саветы выяўляюць сваю няздольнасць эфектыўна кіраваць сацыяльнымі працэсамі, то гэта таму, што туды прасачыліся несумленныя людзі. Трэба не саветы «разганяць», а замяняць несумленных людзей шчырымі і сумленнымі.

І тут мы падышлі да яшчэ адной з'явы ў масавай свядомасці беларусаў, якую можна назваць *стэрэатыпам «патэрналізму»*. Беларус, нават калі ён разумее неабходнасць зменаў і згодны прыняць у іх удзел, бачыць сябе выключна ў ролі дзіцяці, якое «добры бацька» возьме за руку і павядзе куды трэба. Дзяржава абараняе ад ворагаў, дае працу, вызначае заробак, забяспечвае пенсію, выдзяляе кватэру — дзяржава судзіць, дзяржава мілуе, дзяржава бароніць. Гэта ці не самы застарэлы стэрэатып нашага мыслення, які рашуча і паслядоўна фармаваўся каланіяльным рэжымам на працягу некалькіх стагоддзяў. Яго свядома ўмацоўваюць і зараз, бо ён зрабіўся зручны. Так, патэрналізм у адносінах да дзяржавы ці палітычнага лідэра пазбаўляе самастойнасці, але адначасова вызваляе і ад адказнасці за свае ўчынкі. Па-патэрналісцку настроены чалавек здольны да сацыяльных дзеянняў толькі з санкцыі дзяржавы і толькі ў накірунку і маштабах, акрэсленых дзяржавай. Ці не гэтым тлумачыцца знакамітая «памяркоўнасць» беларусаў?

А менавіта на яе спасылаюцца тыя, хто вышэй азначаны стэрэатып успрымае як абразу беларусаў. Маяўляў, беларус доўга трывае, але потым «загукае: стрэльбы, хлопчыкі, бяры». І нават прыводзяць вынікі сацыялагічных даследаванняў: сучасны беларус спадзяецца не на дзяржаву, а на самога сябе. Так, але ўсё ж не большасць, а галоўнае, што не давяраюць ГЭТАЙ дзяржаве, а не дзяржаве НАОГУЛ. А каб даведацца, што кажуць пра гэтую дзяржаву «памяркоўныя беларусы», не абавязкова праводзіць сацыялагічныя даследаванні, варта адно пастаяць у чарзе: «гэтыя дэмакраты развалілі ўсё, што маглі». Калі гэтага не разумеюць тэарэтыкі, то тут нічога дзіўнага ды дрэннага няма: у кожнага свая пасада. Калі ж гэта аспрэчваюць людзі, якія прэтэндуюць на ролю палітычных лідэраў, то робіцца сумнавата. Дарэчы, і адны, і другія, каб даказаць незалежніцкі дух «памяркоўнага» беларуса, спасылаюцца на ... літвінаў XVI і нават XV стагоддзяў.

Спадарове, «... вы дом перепутали, улицу, город и век». Калі ўжо на тое пайшло, ды пачалі ўзгадваць, то ці шмат было жахлівага ў XVII стагоддзі, нібыта апошнія дзвесце гадоў гэтага беларуса не таптаці, не знішчалі, не перацірал у пыл, пакуль ён не зрабіўся «памяркоўным»: абыякавым да ўсяго, палахлівым і баязлівым. І калі вы сапраўды хочаце служыць гэтаму народу, то першае, што вам належыць зрабіць, гэта сказаць яму праўду пра яго, а не млець ад гэтае «памяркоўнасці».

Да таго ж, нельга ігнараваць той факт, што ў масавай свядомасці існуе і актыўна вызначае яе *стэрэатып «адзінае дзяржавы»* — вялікага саюза — гаранта нашага дабрабыту. Трагічны распад гэтае дзяржавы ўспрымаецца масавай свядомасцю як прычына бязладдзя, збяднення, дзікунства. Нацыянальная, незалежная дзяржава, да ўладкавання якое мы заклікаем, псіхалагічна ўспрымаецца масавай свядомасцю як увасабленне гэтага дзікунства і выклікае ў лепшым выпадку абыякавасць, а ў горшым — актыўную негатыўную рэакцыю. Стэрэатып «адзінае дзяржавы» перашкаджае нам засяроддзіцца на ўласных праблемах, рэанімуе *стэрэатып «велічы»*, у якім увасабляюцца імперскія амбіцыі: нешматлікі народ маленькае дзяржавы псіхалагічна ўсё яшчэ ўспрымае сябе як «вялікі народ вялікае дзяржавы», якому наканаваны і вялікі лёс. Стэрэатып «велічы» фармуе псіхалогію месіянства і робіць недасягальным аб'ектыўна-рэальнае ўзгадненне магчымага з жаданым. У гэтым выпадку нашыя імперскія і месіянскія намаганні ўяўляюцца нам больш рэальнымі і значнымі, чым клопаты аб уладкаванні ўласнага краю.

Такія галоўныя стэрэатыпы нашага сучаснага мыслення. І гэтыя стэрэатыпы, падабаецца нам тое ці не, самым жорсткім чынам будуць уплываць, ды і ўплываюць ужо, на маштабы і характар рэформаў. І хто б ні праводзіў палітыку рэфармавання — правыя, левыя ці цэнтрысты, — іхнія намаганні разаб'юцца ўшчэнт, калі не будзе ўлічаны стан масавай свядомасці.

г.Наваполацк.

# ПЛАЧ СЫМОНАЎНЫ



— Бабулечка, родненькая, ты толькі не памірай, мы цябе вунь як слухацца будзем, — быццам адчуўшы нядобрае ў размове дарослых, раптам у адзін голас залямантавалі малыя і, адарваўшыся ад шумнай гульні, спахапіўшыся, ледзьве стрымліваючы слёзы, усе разам кінуліся да пажылой кабеты. — Ты не памірай толькі. Мы цябе яшчэ больш любіць будзем...

— От, — усміхнулася жанчына, — зусім жа яшчэ малыя, але ж усё разумеюць. Не, не буду. На каго ж тады вас пакіну, га? —дадала яна з сумам і па чарзе пачала пяшчотна расцалоўваць дзетак. Толькі тады яны суцешыліся і зноў прыняліся за сваю гульню, час ад часу пазіраючы ў наш бок.

— Слухаюцца!.. Разумеюць і слухаюцца. Сіраціначкі. Каб не я, то каму яны яшчэ патрэбныя былі б?!

Тут ейныя вочы зрабіліся вільготнымі, і, саромячыся сваіх эмоцый, жанчына, цяжка ўздыхнуўшы, змахнула насовікам слязіну, што раптам выкацілася на маршчыністую шчаку.

— Не зважайце. Не хачу каб яны бачылі, — ківае на дзяцей. — Зараз пройдзе... Гэта я так, найшло. Вы толькі не падумайце чаго. Малыя плакаць не даюць — увесь дзень з імі ў клопатах, так што пра ўсё забываеш. Толькі вось уначы... тады ўжо не стрымліваюся. Бывае, што ўсю ноч праплачу, так і вочы не заплюснуўшы, ажно падушка пад раніцу ўся мокрая.

І не ад таго плача Ефрасіння Сымонаўна Наркевіч, што пад старасць, на пачатку сёмага дзесятка ёй выпаў такі цяжар, — дзетак шкада, пазбаўленых нармальнага дзяцінства, якія так рана засталіся без мамы і таты.

Засталася ўжо немаладая Фруза з трыма малымі, самая старэйшая з усіх Яніна — ёй дзевяць. Двайняткам Сашы і Наташы —па сем гадочкаў. Альбо, як жартуе бабуля, розніца паміж імі ўсяго хвілін дзесяць, і такія адзін да аднаго не падобныя. І не толькі знешнасцю, але ж і характарамі розныя. Бабуля для іхадначасова і за маму, і за тату.

Не мог без спачування слухаць я гісторыю з жыцця Ефрасінні Сымонаўны — вельмі ўжо сумная яна атрымлівалася.

За апошніх пяць гадоў пахавала трох любых ейнаму сэрцу людзей. Сям'ю Наркевічаў нібы напаткаў злы рок. Пяць гадоў таму, так і не дажыўшы да сваёй пенсіі, памёр Сцяпан Канстанцінавіч — муж Ефрасінні Сымонаўны, з якім пражыла разам каля трыццаці год. Смерць прыйшла нечакана — ува сне. Вярнуўся з працы, уладкаваўся на канапе і ўжо больш ніколі не ўстаў. Сэрца...

Праз тры гады пасля цяжкай хваробы памерла адзіная і любімая нявестка Таццяна, у поўным росквіце сілаў. Ёй не было яшчэ і трыццаці пяці. Пасля сябе пакінула сямігадовую Яніну і зусім яшчэ малых пяцігадовых Сашу і Наташу.

Толькі гора адно не ходзіць. Вялікім ударам для Ефрасінні Сымонаўны была яшчэ адна смерць — адзінага сына Міхаіла — бацькі траіх дзяцей. Маладога мужчыну напаткаў лёс ягонага бацькі Сцяпана Канстанцінавіча. Прыйшоў з працы, прылёг... Ува сне спынілася сэрца.

Так малыя Яна, Саша і Наташа засталіся поўнымі сіротамі. І ўсе гэтыя апошнія гады заўсёды з імі, ні на хвіліну не расстаючыся, — Ефрасіння Сымонаўна. У школу і са школы разам. У РАНА ці гарвыканкам за якой-небудзь даведкай зноў жа ўсёй сям'ёй...

Ці цяжка ёй адной, пажылой жанчыне — не пытаюся, бо ў гэтым ёсць нешта здзеклівае. Ведаю — цяжка, невыносна цяжка. Толькі ці ёсць патрэба ёй каму-небудзь на тое скардзіцца? Хіба што падзяліцца сваім горам з карэспандэнтам, які выпадкова даведаўся пра бяду, якая напаткала сям'ю Наркевічаў з вуліцы Асіпенкі, 31, што ў Мінску. Шчыра кажучы, калі ішоў па гэтым адрасе, сумняваўся, ці правільна раблю, бо чым жа магу дапамагчы ім? Хіба толькі добрым словам падтрымаць ды спадзявацца на тое, што гэтая трагедыя скалыхне сэрцы людзей... Потым жа вырашыў: жыве сярод нас чалавек, які прайшоў разам са сваім пакаленнем праз найцяжкія выпрабаванні, праз голад, вайну, разбурэнні. А колькі яшчэ давядзецца вынесці — ім, загартаваным гадамі ліхалеццяў? Гэта сёння мы іх амаль не заўважаем, успамінаем мабыць адзін раз на год, а калі часцей, дык ці не з абразай і праклёнам.

... Ефрасіння пайшла ў школу ў родных Янавічах Суражскага раёна Віцебскай вобласці. Але закончыць у час вучобу так і не давялося. Вайна. Атрымала адукацыю намнога пазней: ужо была замужам за Сцяпанам.

Пасля перамогі сям'я Наркевічаў пераехала пад Мінск у мястэчка Самахвалавічы. Тут у вопытнай гаспадарцы Русінавічы і адпрацавала жанчына ўсё далейшае жыццё паляводам, па некалькі гадоў не бываючы ў адпачынку. А ў якасці ўзнагароды за гэта, як тады было прынята, засталіся падзякі, ганаровыя граматы ды й мізэрная пенсія пад старасць.

Калі памёр муж, Ефрасіння, як ёй ні хацелася расставацца з роднымі мясцінамі, перабралася ў далёкі ейнаму сэрцу Мінск толькі для таго, каб памагчы дзецям гадаваць малых.

І вось зараз яны засталіся ўчатырох у трохпакаёвай кватэры... Ці, як сумна жартуе Ефрасіння Сымонаўна, на кожнага па аднаму — а мне і так няхай.

Абстаноўка ў кватэры самая звычайная: халадзільнік, простая мэбля, тэлевізар, набыты Ефрасінняй яшчэ ў тыя часы ў крэдыт... Адным словам, усё што трэба для нармальнага жыцця, калі яго ўвогуле гэткім можна назваць.

— Толькі ж вы не падумайце чаго, быццам я скарджуся, — расхвалявалася жанчына. — Усе так жывуць, гора мыкаюць. Толькі адно скажу, ніводнай сям'і не пажадаю шчасця такога. Але, —прамовіла Ефрасіння, стараючыся перавесці гаворку з невясёлага, — адно добра, дружна жывем. Дзеткі ж мне ўсё чыста дапамагаюць, каб здароўе маё зберагчы. Яны ж усё могуць: Яніна з Наташай бялізну перамыюць, у кватэры прыбяруць. Мне толькі пасля іх раз прайсціся застаецца. А Сашок кулінар які! Вой якія аладкі пячэ! Гэта, бадай, ягоная любімая страва.

Безумоўна, на пенсію бабулі і дапамогу дзяржавы дужа не разгонішся — занадта яны ўжо смешнымі здаюцца па сённяшніх цэнах. Бывае, што напрыканцы месяца на хлеб не застаецца, не кажучы ўжо пра масла. Але і з такога становішча Ефрасіння выйсце знайшла — прыкупіла мех мукі. Ды як толькі пачынае няўмольна бюджэт прыціскаць, то яны давай усёй сям'ёй пернікі ды булкі пекчы.

А пакуль малыя ў школе, Ефрасіння Сымонаўна, парабіўшы ўсе справы па гаспадарцы, вылучыўшы вольную часіну, адпраўляецца ў Самахвалавічы, каб прывезці якой бульбы ды зеляніны з прысядзібнага ўчастка. Ды й ці многа за раз можна прыцягнуць на сабе — сумку, не болей? Але ж есці дзецям нешта ж трэба... Прадукты з крамы даўно ўжо сталі не па кішэні. А вось моцы з цягам часу ўсё больш нестае, і не толькі на тое, каб у вёску з'ездзіць, але і па кватэры перасоўвацца іншы раз цяжка. Тры складаныя аперацыі перанесла...

Ефрасіння Сымонаўна мяркуе ўвогуле перабрацца з дзецьмі назад у Самахвалавічы, бліжэй да зямлі. Заставацца ў Мінску ўжо немагчыма. Яе тут нічога не трымае. Там, у вёсцы пахаваныя родныя людзі, там прайшлі шчаслівыя гады жыцця. Там і век свой скончыць хацелася б... Ды і дзеткам у вёсцы лепей будзе.

І таму толькі аднаго моліць Ефрасіння Сымонаўна ў Госпада, каб той хоць троху яшчэ гадочкаў адпусціў ёй на гэтым свеце — дзяцей на ногі паставіць ды ў жыццё выпусціць. А там ужо і паміраць не страшна...

*На здымку:* Ефрасіння Сымонаўна Наркевіч са сваімі ўнукамі Сашам, Янай і Наташай.

*Па-рознаму склаліся лёсы гэтых жанчын. Розная іх напаткала старасць. Толькі адна змірылася са сваім убогім існаваннем... Другая — не скарылася. Не спадзеючыся ні на кога, змагаецца з тымі трагічнымі абставінамі, у якія яе паставіла жыццё. Распавядаючы пра яе боль, мы мяркуем гэтай публікацыяй выклікаць не толькі спачуванне чытачоў, але і засяродзіць увагу дзяржаўных і камерцыйных структур на праблеме выжывання абяздоленых сем'яў у нашым грамадстве...*

# СТАРАЯ З ПЕРШАГА ПАВЕРХА

З суседзяў па дому яе ўжо даўно ніхто не называў па імені, па імені і па бацьку — тым больш. Мо не памятаюць... А хутчэй за ўсё і не ведалі, як клічуць гэтую жанчыну ўвогуле ніколі. Для іх яна ніхто. З цягам часу «старая з першага паверха» для суседзяў ператварылася ў жывы цень... Пустое месца. Добрым словам яе ніхто і ніколі не ўзгадваў. Сустрэўшы яе нават выпадкова, людзі звычайна адводзяць вочы...

... Яна рэдка паказваецца на людзях. Узімку наогул не выходзіць з хаты. А з надыходам цяпла — толькі позна ўвечары. І то на кароткі час. Пройдзецца раз-другі вакол дома, пакорміць скарынкай чэрствага хлеба якога-небудзь прыблуду-сабаку, пры гэтым мармычучы нешта сабе пад нос, і... хутчэй дахаты. Яе сухая, доўгая, згорбленая постаць, захутаная ў замусоленае, невядомага колеру рыззё, заўсёды наводзіла жах на прахожых ды дзяцей, што гулялі ў двары. Наўрад знайшоўся б такі чалавек, што наважыўся б зірнуць у сіня-чорны твар гэтай жанчыны, які яна імкнецца схаваць пад хусткай ад дапытлівых вачэй. Дарослыя абыходзяць яе бокам і ніколі не вітаюцца, загадаўшы і дзецям сваім так рабіць. Пад пагрозай пакарання. Не ведаю, як іншыя бацькоўскія патрабаванні, а гэтае з'яўляецца загадам для ўсіх дваровых малых. Ніхто з іх не хоча трапіць у халодныя кастлявыя рукі страшнай бабкі-шаптухі і вядзьмаркі...

Да яе моцна прыляпілася мянушка — «палка з дзіркай». Яна і сама, мабыць, не ведае, як клічуць яе суседзі. Хаця ёй, безумоўна, усё роўна. Даўно ўжо ўсё роўна, бо не адчувае яна сябе роўнай сярод роўных. Відаць, так ужо лёсам наканавана — быць напрыканцы жыцця свайго ізгоем.

І наўрад ці павернецца ў каго язык абвінаваціць у гэтым каго-небудзь. Зараз мы звыкла гаворым: бездухоўнасць грамадства, знішчэнне маральных каштоўнасцяў і г.д. Але ж чалавечае жыццё залежыць не толькі і не столькі ад раптоўных абставіннаў і нейкіх вонкавых акалічнасцяў — ён усё ж такі сам з'яўляецца будаўніком і творцай свайго лёсу, свайго жыцця, сам шукае сваю Віфлеемскую зорку. Яна ж, гэтая жанчына, якой бацькі пужаюць сваіх непаслухмяных нашчадкаў перад сном, сама ўласнаручна абрала такі жыццёвы шлях і прыйшла да свайго сённяшняга існавання. Чалавек-цень, жывы пакуль чалавек, якога людзі ўжо пры жыцці адправілі ў нябыт. А каму сказаць яе сапраўднае імя і прозвішча, дык наўрад ці хто дасць веры ці прыме за няўдалы жарт, настолькі сённяшняе аблічча гэтай жанчыны не ўпісваецца ў цудоўны вобраз, які паўстае перад намі пры адным толькі вымаўленні імя. Кацярына... якой так і не суджана было ёю стацца. Кацюша, Каця — так, мабыць, называлі яе бацькі, і гэтае мілагучнае імя не аднойчы нашэптваў дзяўчыне на вуха яе каханы. Шчыра кажучы, ў такое цяжка паверыць. Хаця, канешне, усё гэта было ў яе жыцці. У тым жыцці... Калі была маладая, здаровая і, напэўна ж, прыгожая, як гэта б ні гучала банальна, марыла аб сямейнай утульнасці, любімым мужы, доме, поўным дзіцячых галасоў.

... Быў і муж каханы, і двое дзяцей — сыны-пагодкі. Напэўна, выказванне «нарадзілася пад шчаслівай зоркай» як мага трапна падыходзіла да Кацярыны. Ну, ці не пашанцавала вясковай дзяўчыне, што нарадзілася незадоўга да вайны, патрапіць на вучобу ў сталіцу, выйсці замуж за мінчука. Некаторы час жылі ў бараку, але неўзабаве атрымалі двухпакаёвую кватэру ў новым доме амаль у цэнтры Мінска. Здавалася, усё добра было, і шчасце, і дабрабыт. Але ад шчасця да няшчасця, як кажуць, — адзін крок. Гэты крок і стаў для Кацярынінай сям'і фатальным. Запіў муж. Па некалькі дзён не прыходзіў дадому. Бывала, што цэлымі тыднямі не бачылі Кацярына і хлопцы свайго мужа і тату. А таму, каб захаваць усё ж сям'ю і прыцягнуць мужа да сябе, яна вырашыла асабіста прымаць удзел ва ўсіх ягоных п'янках, абы заўсёды быць побач. Мала памалу Кацярына ўсур'ёз прыахвоцілася да чаркі. Хутка да бацькоў далучыліся і пасталелыя ўжо сыны. І, зразумела, у вясёлай «сямейцы», члены якой амаль заўсёды знаходзіліся ў п'яным ці паўп'яным стане, ніяк не заставалася часу на, так бы мовіць, сумленны заробак грошай. А піць, як вядома, за нешта ж трэба. Тады ў расход па чарзе пайшоў увесь сямейны пажытак: тэлевізар, халадзільнік, ложкі, вопратка. Калі і прадаваць ужо было няма чаго, Кацярына пачала здаваць у наём пустыя, з абдзёртымі сценамі пакойчыкі для жадаючых весела правесці ноч. І не прагадала — недахопу ў жадаючых не адчувалася. Кацярынін бізнес квітнеў, прыводзячы ў жах суседзяў ды некалі добрых знаёмых. Такім чынам кватэра яшчэ ўчора, здавалася б, прыстойнай сям'і вельмі хутка ператварылася ў сапраўдны прытон, куды з надыходам цемры сунуліся «асобы сінюшнай нацыянальнасці». А тым часам сыны Кацярыны, бачачы перад вачыма «прыклад» бацькоў, пачалі займацца крадзяжамі —спачатку дробязнымі, а потым — і ўсур'ёз. Раз, другі... Але, як той казаў, колькі вяровачцы не віцца, а канец усё ж будзе. Неўзабаве іхнімі «подзвігамі» заняліся следчыя органы. Адзін за адным яны былі асуджаны да пазбаўлення волі. Праз некаторы час у «места не столь отдалённые» трапілі і Кацярына з мужам. Потым былі ЛПП, потым зноў зона... З таго часу ім ужо не даводзілася збірацца ўсім разам. Больш за дваццаць гадоў. Усё па калоніях і следчых ізалятарах. Бо, трохі наглытаўшыся свежага паветра, кожны зноў знаходзіў сабе «справу па гусце».

Пасля апошняга наведвання ЛПП Кацярына выйшла невідушчай на адно вока, якое ёй выбіла «сяброўка» па зоне. Некаторыя, праўда, кажуць, што вока яна прайграла ў карты, як і частку зубоў. Але гэта неістотна. Жахліва, але знешнасць кажа сама за сябе, як і тое, што жанчына перанесла венерычныя захворванні, аб чым сведчыць яе нос ці, дакладней, тое, што ад яго засталося.

Гадоў дзесяць таму памёр Кацярынін муж. А больш дакладна — ён згарэў знутры. Ускрыццё паказала, што кроў утрымлівала велізарную колькасць алкаголю. Урачы казалі, што гэта вельмі рэдкі выпадак у медыцынскай практыцы. І паталагаанатамы здзіўляліся, як наогул мог жыць гэткі чалавек, калі па ягоных сасудах замест крыві цыркулявала амаль чыстая гарэлка. Аказваецца, магчыма і такое.

Праз два гады, выйшаўшы, нарэшце, на волю, памёр старэйшы сын. Пасля чарговага застолля, ён лёг спаць і... не прачнуўся. Не вытрымала сэрца. Усе суседзі ў доме, мабыць, чулі жудасны крык Кацярыны, што раптам разрэзаў цішыню той летняй ночы...

Пахаваўшы мужа і старэйшага сына, Кацярына яшчэ больш пачала адыходзіць ад, так бы мовіць, нармальнага жыцця, ад людзей. Не забывалі старую толькі аматары таннага самагону, выробленне якога яна наладзіла ў сябе на кватэры. На тое і жыла, у гэтым і знаходзіла сэнс свайго існавання. Жыццё без чаркі здавалася ўжо нерэальным.

Не адна зараз жыве Кацярына ў сваёй двухпакаёўцы. З зоны вярнуўся малодшы сын. Гаварыць пра якія-небудзь цёплыя, родныя адносіны паміж маці і сынам не даводзіцца. Яны — толькі партнёры па самагонным бізнесе, не больш. Нічога добрага жанчына ад сына не бачыла і не бачыць. Было нават так, што ў парыве злаславасці той абварыў яе кіпнем з каструлі. Яна даравала. Бо нічога іншага не заставалася. Па-першае, яна — маці, хай сабе і страціўшы амаль чалавечае аблічча. Як кажуць, «што пасееш...» Але згубіць адзінага сына, няхай і недарэку, для яе — самае вялікае пакаранне.

А яшчэ сын прывёў у дом нявестку. Дзяўчыну, маладзейшую за яго гадоў на дваццаць. Зусім яшчэ дзіця. А тут у «маладых» неўзабаве на свет з'явіўся нашчадак. Хлопчыку зараз ужо два месяцы. Маладую Кацярыніну нявестку сярод суседзяў і знаёмых ніхто не асуджае, наадварот, — паважаюць і... спачуваюць. Ніхто ніколі не бачыў яе неахайнай, тым больш нецвярозай. І дзіця заўсёды дагледжанае і накормленае, хаця і расце ў такім атачэнні. Затое ўсё часцей і часцей на твары маладой жанчыны з'яўляюцца сінякі, што дастаюцца, мабыць, ад мужа. Напэўна, адплата за каханне...

Няўжо гісторыя паўтараецца?

Нічога не застаецца і старой Кацярыне акрамя таго, як моўчкі зносіць сынавы п'яныя абразы. Таму, хаваючыся ад людзей, і сядзіць яна цэлымі днямі ў сваім пакоі, толькі ўвечары вышмыгваючы на двор.

... Кажуць, у дагэтуль бязбожнай Кацярыны зараз у куточку з'явіўся невялікі абразок. І толькі аб адным просіць яна ў Госпада, каб той прыняў да сябе яе грэшную душу, дараваўшы грахі. Нічога больш ад жыцця яна ўжо не чакае. Але пакуль, не знаходзіцца ёй месца на небе. Як і тут, на зямлі...

**Міхась РЭВУЦКІ,**
**Андрэй МАЖАРА.**

КАНТРАМАРКА

# ФЕНОМЕН КУПАЛЫ ВАЧЫМА СУЧАСНАГА ДАСЛЕДЧЫКА

Кожны народ і кожная нацыянальная культура мае сваіх волатаў — людзей, чые лёсы і чыя мастацкая творчасць у найканцэнтраванейшым выяўленні нясуць у сабе менталітэт нацыі, яе найвялікшыя праявы духу, нарэшце, адлюстроўваюць светлыя і чорныя імгненні яе гісторыі. Такія асобы, як і палёт іх думак, ужо самі па сабе з'яўляюцца феноменам, вартым вывучэння, бо разгадка іх загадкі і ёсць той ключ, з дапамогай якога можна адчыніць запаветныя дзверы разумення нацыянальнай адметнасці гісторыі, культуры, мастацкай творчасці таго ці іншага народа. Так у літаратуразнаўстве, мастацтвазнаўстве, іншых гуманітарных ведах узнікаюць «пытанні», якія становяцца самастойнымі галінамі навукі. Прыкладам, у Англіі шэкспіразнаўства. У нас, натуральна, асобай, якая сканцэнтравала, сфакусавала ў сабе ўсе промні народнага жыцця, гісторыі краіны, вобразнага мыслення беларускай нацыі першай паловы XX стагоддзя, з'яўляецца Янка Купала, бо ён «увасабляе Адраджэнне беларускага духу, яго росквіт і трагічны занепад. Праз Купалу магчыма спасцігнуць рух нашага Адраджэння і яго вытворныя, але як пераасэнсаваць самога Купалу, з чаго пачынаць?».

Гэтую цытату я ўзяў з новай кнігі, самай свежай старонкі нашага купалазнаўства, напісанай маладым даследчыкам Пятром Васючэнкам, — «Драматургічная спадчына Янкі Купалы» (Мінск, «Навука і тэхніка», 1994). На гэтае надзвычай актуальнае для сучаснай навукі пытанне вучоны проста і адначасова грунтоўна адказвае ўжо ў сваім роздуме-ўводзінах да кнігі: трэба паспрабаваць зразумець сапраўдны воблік Купалы, запоўніць «прагалы ў жыццяпісе паэта» і яго поглядах, прааналізаваць літаратурна-мастацкі і нават грамадска-палітычны кантэкст не толькі Беларусі, пачынаючы з мяжы стагоддзяў, але і суседніх краінаў, нарэшце, вярнуцца, максімальна наблізіцца «да першароднасці твораў, да першапачатковага іх зместу, яшчэ не дэфармаванага ў крывым люстэрку догмаў». І ўжо тут, на першых старонках кнігі, кідаецца ў вочы, што Пятро Васючэнка не хварэе на хранічную для большасці маладых даследчыкаў хваробу адмаўлення ўсяго таго, што зроблена да іх. Ён з павагай і разуменнем, з пападкай на час ставіцца да сказанага раней, вышукваючы разумнае і слушнае нават у тых, хто свядома вульгарызаваў жыццё і творчасць песняра ці нават зласліва абвінавачваў Купалу ў «антысаветызме». Так, Лукаш Бэндэ не памыляўся ў гэтым плане і першы, хоць гэта тады дорага каштавала паэту, адназначна сцвердзіў купалавы погляды: бальшавізм, кастрычніцкі пераварот ён не прымаў. Пятро Васючэнка падхоплівае, развівае таксама і недавыказаныя думкі сумленных вучоных, прыкладам Бярозкіна, Семашкевіча, Шамякінай ды іншых. Паколькі ў разгадцы феномена Купалы аўтар абмежаваў сябе асэнсаваннем драматургіі, то ён з поля зроку не выпускае і тэатральны вопыт. Але шкада, што некаторыя прынцыповыя сцэнічныя прачытанні Купалы не былі заўважаныя аўтарам. Так, Барыс Луцэнка, ставячы «Раскіданае гняздо», упершыню заакцэнтаваў увагу на купалаўскіх сімвалах. Такім чынам, тэатр раней, чым літаратуразнаўства, выказаўся наконт паэтыкі драмы — у ёй суіснавалі, цесна спляталіся тры стылявыя стыхіі — рэалістычная, рамантычная і, што асабліва важна, сімвалісцкая. Сп.Луцэнка ў спектаклі, як і сп.Васючэнка ў кнізе, адштурхоўваўся ад думкі, што і ў драматургіі Купала заставаўся паэтам, што «яна вырастае з паэзіі» (цытата з Васючэнкі). Вельмі слушна, што ў манаграфіі два віды літаратуры — драматычная і паэтычная — разглядаюцца поруч.

Прынамсі, найбольш важная і вельмі грунтоўна прааналізаваная ў манаграфіі праблема сімвалізму ў купалавай драме. Тое, пра што многія даследчыкі здагадваліся ці што адчувалі, але баяліся выказваць, бо гэта было роўна смяротнаму прысуду драматургу (а то і сабе за занадта розум і доўгі язык), сп.Васючэнка гаворыць адкрыта, падрабязна аналізуючы прыроду вобразаў-сімвалаў. У выніку Купала паўстае не толькі як даскаалы майстар, але як драматург-мысліцель, філосаф, як асоба, якая ўпоравень з самымі слыннымі пастаціямі еўрапейскай драмы на мяжы стагоддзяў — бельгійцам Метэрлінкам, нарвежцамі Ібсэнам і Гамсунам, шведам Стрындбергам, немцам Гаўптманам, палякам Пшыбышэўскім, рускімі Андрэевым, Блокам, ды іншымі. Беларуская драма, такім чынам, зрабіла рэвалюцыйны прарыў да этнаграфізму, фальклорызму да вытанчанай, ускладнёнай эстэтыкі, да глабальных філасофскіх абагульненняў. Прастора і час п'ес Купалы пасунуліся ад сялянскай хаты, кавалачка зямлі, праблем, звязаных з імі ў пэўны адрэзак часу, да роздуму пра вечнасць жыцця, да разгляду чалавека ў Сусвеце.

Думка сучаснага даследчыка, які сёння ўжо ведае больш пра імпульсы п'ес Купалы, скіраваны ў будучыню, чым сам класік, не абганяе мысленне драматурга. Так, ён робіць адступленні, экскурсы і ў постфкупалаўскі час, прыкладам, калі аналізуе «Тутэйшых», але стараецца (і гэта яму зайздросна ўдаецца) адчуць, зразумець свет герояў і існасць канфліктаў на ўзроўні светаўяўленняў вялікага драматурга, яго бачання і разумення побыту, звычаяў, гісторыі, вераванняў, псіхалогіі народа, нарэшце, разумення самых перадавых і арыгінальных філасофскіх, літаратурных і тэатральных ідэй часу не адно толькі Беларусі, а ўвогуле еўрапейскіх. Тут, мне падаецца, сп.Васючэнка і дае вельмі дасканалы і падрабязны адказ на пытанне, як так сталася, што айчынная літаратура «нашаніўскага» Адраджэння бліскуча зрабіла імклівы, «паскораны» крок, вызваліўшыся «з рызманоў этнаграфізму, сялянскай закамплексаванасці, стылізацыі пад фальклор».

Кніга сп.Васючэнкі мае безумоўную каштоўнасць для айчыннага літаратуразнаўства як цікавы і грунтоўны доследу з гісторыі літаратуры, бо, найперш, яна аргументавана ставіць нашу мастацкую пісьмовасць пачатку стагоддзя на еўрапейскі ўзровень, адказвае на многія загадкі літаратурнага працэсу тае пары, паглыбляе веды пра асобу і творчасць найярчэйшай постаці, закрывае асобныя дыскусійныя пытанні адносна п'ес Купалы (напрыклад, спрэчкі вакол фіналу камедыі «Паўлінка» і спектакля Л.Літвінава), пашырае разуменне жанрава-стылявой адметнасці нацыянальнай драматургіі, паглыбляе змест панцяця айчыннага сімвалізму як мастацкай плыні і да т.п. Манаграфію варта прачытаць і людзям тэатра — як тэарэтыкам, гісторыкам, так і практыкам. Бо мы маем тут справу з сучасным аналізам класікі, якая «адкрываецца новымі, нязведанымі гранямі — насустрач дню сучаснаму й будучаму». Значыць, будуць і новыя сцэнічныя версіі яе, тым больш, што многія з рэжысёраў, прачытаўшы роздум-аналіз сп.Васючэнкі, я перакананы, пазбавяцца шкаларскіх уяўленняў пра драматургію Купалы як нешта этнаграфічнае, прывязанае да даўнейшых часоў, старасвецкае. Зразумеюць, што творы вялікага нашага паэта — гэта «драмы разладу паміж індывідам і часам, паміж суб'ектам гісторыі і самой гісторыяй», «дзе даследуюцца імпульсы чалавечага «я», духоўныя патэнцыі індывіда, дзе людскае «я» ў пакутах і зрывах шукае новых шляхоў да гармоніі з чалавечай грамадой і Сусветам. Тут мы назіраем спробы чалавечай адзінкі самарэалізавацца праз волю, нязмушаны, але нязздзейснены пакуль выбар. Гэтак Купала ўшчыльную падыходзіць да праблемаў, над якімі пазней гэтулькі пакутавалі мастакі-экзістэнцыялісты». Вось яна, найцікавейшая выснова, якую робіць вучоны.

Занадта эфектная? Пачытайма ж разважанні аўтара пра тэмы, ідэі Купалы, пра хранатоп Купалавага свету, пра «парабалу» п'ес, пра грандыёзнасць іх сімволікі, у якіх і рэальныя значэнні, і «нерасчытаны архетып», і «язычніцкая касмагонія», і прароцтвы, пра апакаліптычнасць вобразаў. Разам з таленавітым даследчыкам яшчэ раз, на новым узроўні, зразумеем і надзённасць п'ес і іх эстэтыку, якія сугучны светаглядам і стылям самых буйных мастакоў XX стагоддзя.

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

КАНФЛІКТ

# «БЕЗ СУДДЗЯЎ І ЖУРНАЛІСТАЎ...»

... Не магла без хвалявання чытаць артыкул «Хачу быць з татам», што змешчаны ў адным з красавіцкіх нумароў «Культуры», але яшчэ больш хвалявалася, убачыўшы на старонках газеты своеасаблівы працяг гэтай драматычнай гісторыі. Шмат супярэчлівых пачуццяў выклікаў у мяне ліст-зварот да сына, напісаны гераіняй артыкула. Безумоўна, даваць парады ў такой тонкай і няпростай справе, як сямейныя адносіны, не ведаючы ўсіх абставінаў і акалічнасцяў, што адыгрываюць іншы раз вырашальную ролю, не толькі немагчыма, але і неэтычна...

Спадзяюся, аднак, што мой аповяд усё ж дапаможа Ірыне зірнуць звонку на тую складаную, заблытаную сітуацыю, у якой апынуліся яна і яе блізкія, і, магчыма, жанчына знойдзе нейкае выйсце. Самастойна. Без суддзяў і журналістаў.

... У мяне была шчаслівая, здавалася, сям'я. Мы з мужам гадавалі дзяцей: дачку і хлопчыкаў-блізнятаў. Усё быццам бы было добра, але раптам, як гром сярод яснага неба... Прыйшоўшы аднойчы з працы раней, чым звычайна, муж сказаў: «Прабач. Я пакахаў іншую жанчыну...». І пайшоў, хутка склаўшы свае рэчы ў невялікі чамаданчык.

Прайшло ўжо тры гады з таго дня, але да сёння не магу забыцца на тое невыноснае пачуццё адчаю, горычы, крыўды на тое, як хацелася ўголас крычаць: «За што?..» Спачатку адчувала страшэнную разгубленасць, не магла справіцца са сваімі эмоцыямі, амаль пастаянна плакала... І толькі дзеці, толькі думка аб адказнасці за іх далейшы лёс падказалі мне рашэнне: сказаць дзецям праўду, але без зняваг і абразаў. «Тата так вырашыў...»

... Пасля афіцыйнага скасавання шлюбу я не забараніла былому мужу сустракацца з дзецьмі, тым больш што ў новай сям'і дзяцей няма. «Нядзельны тата» — гэта, канешне, не ідэал, але ў дадзеным выпадку, на маю думку, мінімальнае зло. Хлопчыкі цягнуцца да бацькі і ён таксама прывязаны да сыноў. Дома, сам-насам з дзецьмі, я імкнуся ніколі дрэнна не гаварыць пра бацьку, хаця іншы раз становіцца так балюча... А галоўнае, я лічу, што адносіны мае з дзецьмі вельмі цёплыя, пяшчотныя, яны давяраюць адно адному і мне, дзеляцца сваімі дзіцячымі, але такімі важнымі для іх таямніцамі і сакрэтамі.

Мае дзеці не адчуваюць сябе кінутымі.

... Мне здаецца, Ірыне карысна было б спачатку супакоіцца, хаця гэта і няпроста, і зразумець, што калі зараз сын так рашуча настроены супраць яе, дык, мабыць, яна не ва ўсім і не заўсёды мела рацыю. Хлопчыку ж таксама маральна цяжка, бо ён знаходзіцца паміж двума агнямі, і не трэба прыспешваць падзеі, наладжваючы адно судовае пасяджэнне за другім: спачатку аб перадачы дзіцяці на выхаванне, потым — аб падзеле маёмасці. Можа, хай пройдзе колькі часу, бо нездарма кажуць, што час — лепшы доктар. І наверце, узаемныя плёткі ды ганьба не прынясуць добрага плёну, бо зерне, кінутае на камені, прарасці ніколі не змога. Канешне, жанчыне-маці амаль немагчыма прымірыцца з тым, што народжанае ёю дзіця варожа ставіцца да яе, але, можа, лепей успрыняць як кропку адліку, як дадзенае: сын хоча застацца з бацькам. І зыходзіць ужо з гэтага.

... Калісьці, яшчэ ў студэнцкія гады, у кнізе слыннага амерыканскага псіхолага і сацыёлага, які **шмат гадоў працаваў у галіне даследаванняў шлюбна-сямейных адносінаў**, Дэйла Карнегі я прачытала выказванне, якое памятаю і сёння: «Не трэба пілаваць апілкі. Яны ўжо распілаваныя».

Можа, лепей было б не глядзець увесь час назад, памнажаючы і распальваючы ў сваёй душы крыўду і нянавісць, а паспрабаваць узвысіцца над мінулым, асэнсаваць яго. А жыццё абавязкова паставіць усё на свае месцы, і, магчыма, тады і прагучыць у вашай хаце доўгачаканы тэлефонны званок...

**Д.К.**

г.Мінск.

АД РЭДАКЦЫІ:

Амаль два месяцы мінула з таго часу, як на старонках нашага штотыднёвіка з'явіўся артыкул «Хачу быць з татам!» (N14 за 6 красавіка). Змяшчаючы гэты матэрыял, мы нават не спадзяваліся, што ён можа выклікаць такі шырокі рэзананс сярод чытацкай аўдыторыі «Культуры». І пацвярджэннем таму — вашыя лісты, тэлефонныя званкі, якія пачалі паступаць да нас пасля згаданай публікацыі, а таксама ліста «Слова да сына» (N18 за 4 траўня).

**Многія з вас пытаюцца**, які далейшы лёс **герояў гэтай сумнай** гісторыі. Паведамляем: 5 траўня 1994г. у Мінскім гарадскім судзе адбылося судовае пасяджэнне, падчас якога было скасавана папярэднае рашэнне народнага суда Кастрычніцкага раёна. Прааналізаваўшы прадстаўленыя дакументы, гарадскі суд перагледзеў справу і вынес рашэнне: сына будзе выхоўваць менавіта бацька, як таго і жадаў дванаццацігадовы хлопчык.

# МАСТЫХІН



## АДВЕЧНЫЯ КАШТОЎНАСЦІ БЫЦЦЯ

Бліскучыя нацюрморты Валерыі Жоўтак сталі класікай беларускага сучаснага мастацтва. Жывапісцам кіруе ўсхваляванае пачуццё любові да роднай зямлі, яе кветак, краявідаў. Яна чуйна прыслухоўваецца да мелодый фарбаў, гукаў прыроды. Таму яе працы гарманічныя, напоўненыя ўнутраным пачуццём светлага і жыццесцвярджальнага.

Валерыя Канстанцінаўна ў жывапісных творах нібы перадае дыханне зямлі, яна ўважліва ўзіраецца ў расліны, іх пялёсткі і галінкі, увасабляючы на палотнах прыгажосць рэалістычнага мастацтва. У той час, калі на іншых выставах пачалі адступаць цікавасць і ўвага да чалавека і яго асяроддзя, яе мастацтва адлюстроўвае адвечныя каштоўнасці быцця. Асабліва гэта адчуваецца ў нацюрмортах, дзе відавочная прысутнасць чалавека, цеплыня ягонай душы. Па сутнасці, гэта і ёсць своеасаблівыя партрэты, дзе нацюрморт пераўтвараецца ў карціну. Яе пейзажы напісаны з жывасцю першага ўражання. Поры года атрымліваюць на яе палотнах сваё красамоўнае выяўленне, мастак з асцярожнасцю і ўвагай захоўвае ў фарбах прыгажосць Беларусі, яе лясоў і ўзгоркаў.

Валерыя Жоўтак — адзін з вядучых жывапісцаў рэспублікі з ліку тых, хто сцвярджае і развівае рэалістычныя традыцыі ў мастацтве. Палымнеюць на яе палотнах макі, квітнеюць рамонкі — паўсюль буяе жыццё...

*В.Жоўтак. «Лета». Палатно, алей, 1979г.*

## СІНІ КОЛЕР НАТХНЕННЯ

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі працягвае сваю работу выстава твораў Сяргея Кірушчанкі і Тамары Сакаловай «Сіняя прастора», якая будзе працаваць да 8 чэрвеня, дзякуючы спонсару — Інстытуту грамадскіх сувязяў.

Прастору выставачнай залы Палаца творцы ўключылі ў змест мастацкіх твораў, надалі ёй жывапісную выразнасць, узялі як скульптурны матэрыял. І прадставілі на суд гледача цэласны твор пад назвай «Сіняя прастора».

То не легкадумныя гульні з асяроддзем, якія цяпер носяць назву акцый ці як-небудзь інакш. Мы бачым твор выяўленчага мастацтва ў класічнай, станоўчай інтэрпрэтацыі. Праўда, у нетрадыцыйным матэрыяле.

Перад намі — «Сіняя прастора», мадэль Сусвету, чым і з'яўляецца, па сутнасці, кожны сапраўдны твор. Мастакі надаюць яму глыбокае філасофскае гучанне. Сіні колер палотнаў і керамічнай скульптуры выходзіць у аб'ём, становіцца сімвалам. У свае правы ўступае кананічнасць. Адбываецца вяртанне ў часы стварэння Свету: Мастацтва набывае сваю спрадвечную якасць — магічнасць, а Рытміка аб'ёмаў і плоскасных сілуэтаў уступае ў свае правы.

Мастакі выдзяляюць сіні колер як тэму. Менавіта ён становіцца галоўным выяўленчым сродкам — у жывапісе і скульптуры. Ён фармуе прастору палотнаў і прасторавых кампазіцый. Экспрэсія вобразаў становіцца знакам душы, яе пакут у палоне Матэры, знакам яго пераадольвання.



*С.Кірушчанка. «Нацюрморт са збанам». Палатно, алей. 1994г.*

*Т.Сакалова. «Сядзячая». Шамот. 1994г.*



## РУКОЙ ЧАРОЎНАЙ АЛЕНЫ

Праз творы Алены Лось на нас глядзіць наша дзяцінства. Па яе кніжках, малюнках да казак выхоўваліся і спасцігалі свет, ягонае хараство і адкрытасць. Яе выстава ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі стала сустрэчай з нашым маленствам. І цудоўным талентам мастачкі.

Вобразы яе графічных аркушаў прыйшлі з народнага мастацтва і блізкія яму не толькі па стылю, але і сваёй зачараванасцю светам, чысцінёй і бясхітраснасцю душы, яе безабароннасцю. Скачуць па казачных прасторах ваўкі з чароўнымі вершнікамі, спявае свае песенькі Каток-залаты лабок, усміхаецца «бабка Ціміха». Падарожжа ў свет казкі супадае з вандроўкамі мастака па беларускіх вёсках і гарадах, дзе яна з такой увагай і любоўю ўзіраецца ў фарбы сялянскіх роспісаў, у арнамент посцілак і вышыванак, пранікаецца гучнасцю мовы, паэзіяй паданняў.

Алена Георгіеўна, расказваючы ў сваіх творах пра жыццё, з сімпатыяй вылучае дэталі побыту, характараў, яна апісвае іх, як гэта робіць народны майстра ці дзіця. Моцная душэўная сувязь існуе ў яе з Палессем, краем самабытнай паэзіі, фальклору, непаўторнасці. Яму яна прысвячае серыі сваіх прац. Усёй душой мастак адчувае адметнасць беларускай прыроды, яе ціхую чароўнасць, і гэтай гармоніяй прасякнуты пейзажы і нацюрморты.

На выставе мастачка ўпершыню паказала свае незвычайныя лялькі-таўкачыкі. Яны не маюць аналагаў і ў той жа час — традыцыйныя па сваёй вобразнай сістэме. Гэта нібы ўспамін пра славянскіх ідалішчаў, а можа — цацак сялянскіх дзяўчынак. Вобразы сваіх графічных аркушаў мастак выводзіць у прастору. І робіць гэта арганічна, як і ўсё ў сваёй творчасці.



*А.Лось. «Чэлядзь. Да верша Дуніна-Марцінкевіча «Віншаванне войта Навума». ПАП, акварэль, 1983г.*

**Матэрыялы падрыхтавала Ларыса САЛОДКІНА.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА.**

# СТАНІСЛАЎ ЛЯШЧЫНСКІ (1677-1766)

## КАРОЛЬ ПОЛЬСКІ І ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ Ў 1704-1709 І Ў 1733-1736 г.г.

*Постаць гэтага караля польскага і вялікага князя літоўскага, рускага і жамойцкага неадназначная. Нават гады яго панавання часткова прыходзяцца на гады панавання двух каралёў Саксонскай дынастыі ("Сасаў"). Менавіта тады ў краіне былі два манархі, як гэта здарылася ў свой час у Вялікім княстве Літоўскім і Рускім у 30-х гадах XV стагоддзя, калі нашы продкі мелі адразу двух вялікіх князёў — Свідрыгайлу і Жыгімонта Кейстутавіча, якія ваявалі паміж сабой за трон. Але адно можна з пэўнасцю сказаць: Станіслаў Ляшчынскі быў сапраўдным «сваім» каралём, са старажытнага магнацкага роду, чалавекам выхаваным, з добрай для свайго часу адукацыяй. Яшчэ адной адметнасцю Станіслава Ляшчынскага было тое, што ён паставіў рэкорд доўгажыхарства для каралёў польскіх і вялікіх князёў літоўскіх. Ён пражыў амаль 90 гадоў.*

### ПАХОДЖАННЕ

Род Ляшчынскіх герба *Вянява* з'яўляўся адным з самых старажытных у Польшчы. Паводле радаводных крыніц і хронік род Ляшчынскіх паходзіць ад чэшскіх феадалаў Перштэйнаў, адзін з якіх, Дабеслаў, быў маршалкам двара Дуброўкі, чэшскай князёўны, якая сталася жонкай польскага князя Мешка I. З гэтага роду паходзіў Дабеслаў, які за часамі Ягайлы ўдзельнічаў у бітвах з крыжакамі. Другім вядомым прадстаўніком роду Ляшчынскіх быў Рафал, сын Рафала (памёр у 1501 г.), які стаўся ў 1489г. маршалкам пры двары імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыха III Габсбурга ў Вене, дзе выконваў розныя дыпламатычныя даручэнні. Рафал Ляшчынскі так спадабаўся імператару, што ён надаў Ляшчынскаму ў 1473 г. тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі «на Лешне» (горад, цяпер ваяводскі цэнтр на поўдзень ад Познані, у Вялікай Польшчы, які быў прыватнаўласніцкім горадам роду Ляшчынскіх, а таксама адмысловы герб *Вянява* з залатым ільвом наверсе (замест страусіных пер'яў). Дарэчы, прозвішча Ляшчынскія было ўзята ад назвы іх уласнага горада. Але Ляшчынскія больш ганарыліся не графскім тытулам, а тым, што гэты Рафал падчас рыцарскага турніру ў Вене паканаў венгерскага і чэшскага караля Мацея Корвіна, збіўшы яго дзідай з каня. Вацлаў Ляшчынскі (памёр у 1628 г.) быў канцлерам вялікім каронным (польскім) у часы канцлерства ў нашай краіне Льва Сапегі, яго калегам. Гэты Вацлаў быў старостам генеральным Вялікай Польшчы. Ягоны сын Андрэй (памёр у 1658 г.) быў таксама канцлерам вялікім каронным і арцыбіскупам гнезненскім. Ян Ляшчынскі (памёр у 1678 г.) быў таксама канцлерам вялікім каронным і ваяводам кракаўскім (лічыўся першым па месцы і значэнні ў пасяджэннях сярод ваяводаў польскіх). Прадзед Станіслава Ляшчынскага — Рафал (1579 — 1636) быў ваяводам бэлзскім, старостам гарадзельскім і грубяшоўскім, пісаў вершы, пакінуў артыкулы па механіцы, архітэктуры і музыцы, у 1621 г. удзельнічаў у вайне супраць Турцыі на чале 100 коннікаў і 100 пехацінцаў, якіх выставіў са сваіх маёнткаў. Дзед Станіслава —Багуслаў (1614 — 1659) быў старостам генеральным Вялікай Польшчы, потым падскарбіем вялікім каронным і ўрэшце падканцлерам каронным. Цудоўнага прамоўцу, яго тройчы абіралі маршалкам на соймах. Бацька Станіслава з'яўляўся ваяводам познаньскім ад 1687 г., старостам генеральным Вялікай Польшчы, а з 1702 г. — падскарбіем вялікім каронным, быў удзельнікам паходу караля Яна III Сабескага пад Вену ў 1683 г. і ў Венгрыю супраць туркаў і ўзначальваў пасольства ў Канстанцінопаль.

Безумоўна, Ляшчынскія былі багатымі і ўплывовымі магнатамі, займалі найбуйнейшыя дзяржаўныя паса-



ды, мелі сваяцтва з іншымі польскімі і беларуска-літоўскімі магнацкімі сем'ямі — Апалінскімі, Пацеямі, Валеўскімі, Нямірычамі, Рэямі, Донгофамі, Радзівіламі, Вішнявецкімі, Чарнецкімі, Зяновічамі, Мнішкамі, Бжастоўскімі, Патоцкімі.

### МАЛАДОСЦЬ СТАНІСЛАВА

Станіслаў Ляшчынскі, адзіны сын Рафала Ляшчынскага (1650 — 1703) і Ганны Яблаeducational (1660 — 1727), нарадзіўся 20 кастрычніка 1677 г. у Львове. Бацька ў гэты час быў яшчэ стольнікам каронным (значны, але не галоўны дзяржаўны і прыдворны тытул). Больш у сям'і дзяцей не было, і яны ўсю сваю ласку і любоў аддалі сыну. Адукацыю Станіслаў атрымаў у доме бацькі. Яго вучылі гувернёры, якія далі яму агульныя веды па розных прадметах, як таго вымагала выхаванне. Дадаткова навучалі французскай мове. Аднак Станіслаў, мусіць, не меў здольнасцяў да моў, бо пісаў з арфаграфічнымі памылкамі і так і не навучыўся пісаць па-французску правільна.

Далейшай ступенню адукацыі былі замежныя падарожжы. Малады Станіслаў Ляшчынскі аб'ехаў амаль усю Еўропу, пабываў на ўсіх вялікіх еўрапейскіх дварах. І вучоба, і падарожжы, і асабістыя рысы характару зрабілі з яго чалавека куртуазнага, добразычлівага, які лёгка знаходзіў сяброў. Станіслаў Ляшчынскі быў на той час чалавекам высокай культуры і добрага выхавання. Пасля вяртання на радзіму ён увайшоў у магнацкую эліту Рэчы Паспалітай.

У 1697 г. 20-гадовы Станіслаў Ляшчынскі атрымаў ганаровы тытул падчашага кароннага, а праз год ажаніўся з 18-гадовай Кацярынай Апалінскай (1680 — 1747), адзінай дачкой Яна Караля Апалінскага, кашталяна познаньскага. Яна прынесла яму ў пасаг багатыя маёнткі і добрыя грошы, падвоіўшы ягонае багацце. Ляшчынскі стаўся адным з найбагацейшых магнатаў Рэчы Паспалітай. Праўда, сямейнае жыццё было не з лепшых. Жонка, не вельмі прывабная і без фантазіі, літаральна прывязала яго да сябе. Жыла не з ім, а пры ім, дзяліла яго ўдачы і няўдачы, але памочніцай, дарадцам у ягоных справах не была.

### ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Пачатак палітычнай дзейнасці маладога магната адносіцца да 1696 г., калі ён быў абраны паслом (дэпутатам) на канвакацыйны сойм пасля смерці караля Яна Сабескага. Потым быў дэпутатам выбарчага (элекцыйнага) сойму ў чэрвені 1697 г., дзе спачатку выступіў як прыхільнік сына Яна Сабескага Якуба, але, калі за яго выказалася меншасць, перайшоў на бок Аўгуста II Моцнага, які і быў абраны на каралеўскі трон. Падчас сойму выявіў своеасаблівыя здольнасці мірыць вяльможаў, гатовых узяцца за зброю.

За прыхільнасць новы кароль падчас сваёй каранацыі 15 верасня 1697 г. прызначыў Станіслава Ляшчынскага падчашым вялікім каронным (ганаровы тытул, які за некалькі стагоддзяў да таго абавязваў падчашага падносіць каралю кубак з віном, але спачатку мусіў пакаштаваць яго сам, каб упэўніцца, што там няма атруты). Праз два гады свайго валадарання Аўгуст II прызначыў Ляшчынскага ваяводам познаньскім, даў яму пажыццёва Адалянаўскае, Дубенскае і Навадворнае староствы.

Бацька Станіслава ўзначальваў апазіцыю ў Вялікай Польшчы. Пасля ягонай смерці (1703 г.) Станіслаў Ляшчынскі ўзначаліў антыкаралеўскую апазіцыю сам. Сітуацыя ў Рэчы Паспалітай змянілася. У 1700 г. кароль Аўгуст II у саюзе з Пятром I пачаў вайну супраць Карла XII, караля Швецыі, але не як польскі кароль і вялікі князь літоўскі, а як курфюрст Саксоніі. Ён хацеў захапіць для сябе ў шведаў Ліфляндыю з Рыгай. Рэч Паспалітая спачатку заставалася нейтральнаю ў Паўночнай вайне. Саксонскія войскі каля Рыгі былі разбіты, і Карл XII з войскамі праз Літву ўвайшоў у Польшчу. Асноўнай мэтай Карла XII было пазбаўленне Аўгуста II трона ў Рэчы Паспалітай. Грамадства Рэчы Паспалітай было ў разгубленасці: частка выступала за тое, каб захаваць уладу за каралём Аўгустам II, другая частка патрабавала новых выбараў, трэцяя імкнулася да заканчэння вайны і замірэння з Карлам XII. Станіслаў Ляшчынскі становіцца




прыхільнікам саюза са Швецыяй і выступае за абранне каралём Якуба Сабескага. Ён — адзін з ініцыятараў Варшаўскай генеральнай канфедэрацыі, якая 14 лютага 1704 г. абвяшчае дэтранізацыю Аўгуста II і бескаралеўе.

### НА КАРАЛЕЎСКІ ПАСАД!

Карл XII схіляўся да думкі правесці на трон каралевіча Якуба Сабескага. Аднак Аўгуст II, прадухіляючы гэты крок, загадаў арыштаваць двух старэйшых сыноў Яна III Сабескага — Якуба (1667 — 1737) і Канстанціна (1680 — 1726), якія знаходзіліся ў Сілезіі. Яны былі пасаджаны ў саксонскую крэпасць Кёнігштэйн. На волі застаўся іх брат Аляксандр (1677 — 1714), якому Карл XII прапанаваў каралеўскую карону. Але той адмовіўся на карысць старэйшага брата. Тады шведскі кароль прапанаваў карону Станіславу Ляшчынскаму, якога высока цаніў.

Па загаду Карла XII на полі каля Варшаўскага прадмесця Волі сабраліся нешматлікія выбаршчыкі, якіх абкружылі шведскія войскі. У такіх абставінах 12 ліпеня 1704 г. Станіслаў Ляшчынскі быў абраны каралём польскім і вялікім князем літоўскім, пра што абвясціў біскуп познаньскі Мікалай Свянціцкі. У наступным годзе, 4 кастрычніка, Ляшчынскі быў каранаваны ў Варшаве арцыбіскупам львоўскім Канстанцінам Зяліньскім. Тады ж Станіслаў Ляшчынскі заключыў з Карлам XII трактат аб прыязні, паводле якога Рэч Паспалітая знаходзілася ў поўнай залежнасці ад Швецыі. У Станіслава Ляшчынскага не было шматлікага войска і прыхільнікаў, і без шведаў улада яго была нетрывалая.

З абраннем новага караля грамадства Рэчы Паспалітай падзялілася на два лагеры; хаця Аўгуста II не любілі, але патрыятычныя колы мусілі пагаджацца з ім. Як казалі тады: «Адны пайшлі да Саса, другія — да Ляса» (Ляшчынскага). Калі Карл XII нанёс чарговую паразу Аўгусту II і расійскім войскам у Польшчы і перанёс ваенныя дзеянні ў Саксонію, Аўгуст Моцны вымушаны быў заключыць Альтранштэдскі мір (1706 г.) і адмовіцца ад польскай кароны на карысць Станіслава Ляшчынскага.

Толькі тады Ляшчынскі быў прызнаны каралём большасцю магнатаў у Польшчы, на Беларусі і Літве. Ад самога пачатку на Беларусі яго падтрымлівалі саюзнікі шведаў — Сапегі. Цяпер караля Станіслава падтрымалі таксама Радзівілы, Пацы, Вішнявецкія, Чартарыскія.

Аднак Сандамірская канфедэрацыя і генеральная канфедэрацыя Вялікага княства Літоўскага на чале з польскім гетманам Рыгорам Агінскім, якія падтрымаў Пётр I, працягвала барацьбу супраць шведаў і Станіслава Ляшчынскага. Большасць шляхты, што найбольш цярпела ад шведскіх парадкаў, Ляшчынскага не прызнавала. Праўда, у 1707 г. расійскія войскі былі выцеснены з Польшчы, у 1708 г. — з Літвы і большай часткі Беларусі.

Некаторы час здавалася, што Станіслаў Ляшчынскі застанецца каралём. Ён прызначыў новых саноўнікаў і намагаўся навесці парадак у дзяржаве. Аднак бітва пад Палтавай у ліпені 1709 г. перакрэсліла ягоныя планы. Прыхільнікі Станіслава Ляшчынскага сталі пакідаць яго ў масавым парадку, асабліва пасля таго, як з усходу на тэрыторыю Беларусі, а потым і Польшчы, зноў увайшлі расійскія войскі, а з захаду ў Рэч Паспалітую ўступілі саксонскія войскі на чале з Аўгустам II. З рэшткамі шведскіх войскаў Станіслаў Ляшчынскі адышоў на тэрыторыю Пярэдняй Памераніі, якая належала Швецыі, і застаўся ў Шчэцінскай крэпасці, а адтуль пераехаў у Швецыю. Яго маёнткі ў Польшчы былі канфіскаваныя.

### У ЭМІГРАЦЫІ

Карл XII, які застаўся ў Бендэрах (Малдова) пасля паразы пад Палтавай, спрабаваў схіліць Турцыю да вайны з Расіяй. Адтуль ён прызначыў Станіслава Ляшчынскага камандаваць шведскай арміяй, якая ў 1712 г. павінна была пачаць наступ з тэрыторыі Шведскай Памераніі на Польшчу. Але фактычна арміяй камандавалі шведскія генералы. У Швецыі Станіслава Ляшчынскага не любілі, бо лічылі, што гэта менавіта з-за яго Швецыя вядзе бесперспектыўную вайну, на якую Швецыя траціла шмат грошай. Станіслаў Ляшчынскі бачыў, што і ў Рэчы Паспалітай яго не чакаюць. Ён вырашыў адмовіцца ад кароны.

Але дзеля гэтага трэба было атрымаць згоду Карла XII, і кароль Станіслаў з двума афіцэрамі паехаў у далёкае падарожжа ў Малдову. Пры сустрэчы Карл XII не згадзіўся



з ягоным планам адмовы ад трона. Планы ўцягнуць Турцыю ў вайну скончыліся няўдачай, і ў 1714 г. абодва каралі адзін за другім вяртаюцца ў Швецыю. Карл XII перадае Станіславу Панятоўскаму ў кіраванне сваё спадчыннае графства ў Пфальцы (Заходняя Нямеччына) — Цвайбрукен (шведскі кароль па далёкай жаночай лініі паходзіў ад дому Вазаў, а па бацькоўскай — ад Вітэльсбахаў з Пфальца). Прадстаўнік шведскага караля — Станіслаў Панятоўскі (бацька апошняга караля і вялікага князя) абвясціў Станіслава Ляшчынскага мясцовым уладаром з захаваннем тытула караля польскага. Ляшчынскі меў шанцы зноў заняць трон у Варшаве — з-за вялікага незадавальнення Пятра I паводзінамі Аўгуста II, які спрабаваў пазбавіцца апекі расійскага цара. Да Аўгуста дайшлі звесткі, што шведскі міністр барон Гёрц, упаўнаважаны Карлам XII, вядзе перамовы з Пятром I аб міры і аб замене Аўгуста Станіславам Ляшчынскім.

Тады Аўгуст Моцны арганізаваў серыю замахаў на Ляшчынскага, намагаючыся захапіць або забіць канкурэнта. Саксонскі афіцэр Л.Лакруа з падкупленымі дванаццацю салдатамі і крымінальнымі злачынцамі прыбыў у Цвайбрукен і запланаваў захапіць (або забіць) С.Ляшчынскага 15 жніўня 1716 г. падчас ягонай паездкі ў капліцу Гравенталь са сталіцы графства. Аднак С.Панятоўскі выкрыў змову, злачынцы былі арыштаваныя і судом прыгавораныя да смяротнага пакарання. Станіслаў Ляшчынскі памілаваў злачынцаў, даў ім свабоду і нават грошы на выезд у Саксонію. У Еўропе гэты акт амністыі падвысіў аўтарытэт С.Ляшчынскага; вестка пра тое шырока распаўсюдзілася ў Рэчы Паспалітай. Аўгуст II вымушаны быў выдаць публічную пратэстацыю, у якой заявіў, што нічога не ведаў пра змову і планы забойства Ляшчынскага.

Гэты замах, смерць Карла XII (загінуў у 1718 г. падчас аблогі крэпасці Фрыдрыхсгал у Нарвегіі), асабістае гора, калі Станіслаў Ляшчынскі страціў сваю любімую старэйшую 17-гадовую дачку Ганну, інтэлігентную і добрую дзяўчынку, — усё гэта прывяло Ляшчынскага і яго жонку ў роспач. Да таго ж пасля смерці Карла XII графства Цвайбрукен перайшло да пфальцграфа Густава. Станіслаў Ляшчынскі звярнуўся з просьбай да французскага караля Людовіка XV даць яго сям'і прытулак у Францыі і атрымаў дазвол пасяліцца ў Эльзасе, у Вісэмбургу, куды сям'я пераехала ў 1719 г. Ад французскага караля ён атрымаў невялікую пенсію. Тут ён у асноўным займаўся навуковай працай і выхаваннем малодшай дачкі Марыі. Спробы ўзнавіць прэтэнзіі на польскую карону або пагадзіцца з Аўгустам II скончыліся няўдачай. С.Ляшчынскі лічыў ужо, што ягоная палітычная кар'ера скончылася.

Раптам усё змянілася. Каралеўскі ўрад Францыі пасля абвяшчэння паўналецця французскага караля Людовіка XV (1710 —1774), якому споўнілася 14 гадоў, пачаў шукаць яму нявесту. Прыдворныя перш за ўсё паглядзелі ў еўрапейскі генеалагічны каляндар, у якім былі пералічаны ўсе члены каралеўскіх і княжацкіх сем'яў. Выбар упаў на каралеўскую дачку — Марыю Ляшчынскую (1703 — 1768), якой ужо быў 21 год. Разлічвалі, што яна — прыгожая дзяўчына, шчырая каталічка, добрага здароўя, значыць, можа даць каралю шмат дзяцей. Бралася ў разлік і тое, што яна бедная і яе сям'я не мае аніякіх уплываў на прыдворнае жыццё Францыі. Значыць, і каралева няздольная да прыдворных інтрыг, а будзе займацца толькі сямейнымі справамі. У гэтым яны не памыліліся. Каралю партрэт дзяўчыны спадабаўся, і ён вырашыў ажаніцца з ёй.

Нечакана для Станіслава Ляшчынскага ў Вісэмбург, гэтае невялікае мястэчка ў Эльзасе, з'явілася пасольства ад караля на чале з прынцам дэ Раганам, біскупам страсбургскім. Біскуп ад імя караля папрасіў у С.Ляшчынскага дазволу на шлюб з яго дачкой. Калі бацька гэта пачуў, ён самлеў ад нечаканасці і ўражання. Потым ужо Станіслаў Ляшчынскі перасяліўся ў Страсбург, дзе 15 жніўня 1725 г. ва ўрачыстай цырымоніі пракурацыйнага шлюбу ўдзельнічаў ад імя караля (на месцы жаніха ў касцёле) сваяк Людовіка XV — герцаг Луі Арлеанскі. Урэшце 5 верасня 1725 г. у Парыжы адбылася цырымонія шлюбу з удзелам самога караля. Каралева Марыя Ляшчынская, сапраўды, стала маткаю 10 каралеўскіх дзяцей (праўда, трое памерлі ў дзяцінстве).

Сын яе, дафін Луі (1729 — 1765) быў здольным чалавекам, але памёр раней за бацьку. Маці вельмі перажывала страту любімага сына, які, дарэчы, быў бацькам ажно трох каралёў Францыі — Людовіка XVI (загінуў на гільяціне ў 1793 г.), Людовіка XVIII і Карла X. Нашчадкі Марыі Ляшчынскай па жаночай лініі жывуць і цяпер (пармская лінія Бурбонаў, у тым ліку вялікі герцаг люксембургскі Жан I, Габсбургі, іспанская лінія Бурбонаў, у тым ліку цяперашні кароль Іспаніі Хуан Карлас I, і іншыя).



Аднак сямейнае жыццё каралевы Марыі ўрэшце сталася нешчаслівым. Малады муж стаў шукаць уцехі з іншымі кабетамі, з'явіліся вядомыя фаварыткі — маркіза Пампадур, графіня Дзюбары і шмат іншых жанчын і дзяўчат.

Але ўсё гэта было потым. Цяпер жа Станіслаў Ляшчынскі перасяліўся з жонкаю ў Парыж, жыў у блізкіх да сталіцы замках у Версалі, Шамбор, Мядоне, карыстаўся павагай як каралеўскі цесць.

## ЗНОЎКУ НА ТРОНЕ

Сітуацыя зноў змянілася, калі ў ноч на 1 лютага 1733 г. ў каралеўскім замку ў Варшаве памёр Аўгуст Моцны. Французская дыпламатыя, якую ўзначальваў кардынал Флеры, выставіла на каралеўскі пасад у Рэчы Паспалітай кандыдатуру Станіслава Ляшчынскага. Кардынал, якога падтрымаў Людовік XV, разлічваў, што Расія і Аўстрыя будуць процідзейнічаць гэтай кандыдатуры. Станіслаў Ляшчынскі з дапамогай Францыі здолеў бы абараніць незалежнасць Рэчы Паспалітай, а гэта б сарвала планы Расіі і Аўстрыі канчаткова падпарадкаваць гэтую краіну.

У Рэчы Паспалітай, асабліва ў Польшчы, кандыдатура Ляшчынскага была ўспрынята добра, бо людзям надакучыла панаванне чужаземнага манарха, якое прынесла краіне шмат непрыемнасцей, бяду і войны. Агітацыя ў Варшаве французскага пасла маркіза дэ Манці павялічыла колькасць прыхільнікаў Ляшчынскага. Ён патаемна выехаў у Варшаву і спыніўся ў французскага пасла. Праз два дні Ляшчынскага пазналі ў касцёле капуцынаў, і жыхароў сталіцы ахапіла радасць. 10 верасня 1733 г. ён сустрэўся з шляхтай-выбаршчыкамі ў касцёле Святога Крыжа, апрануты не як французскі арыстакрат, а як звычайны шляхціч. Прысутныя ўскрыкнулі: «Віват, кароль Станіслаў!». Вокліч быў паўтораны на вуліцах Варшавы. 12 верасня 12 тысяч выбаршчыкаў абвясцілі Станіслава Ляшчынскага каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Ляшчынскі ў другі раз стаўся законным каралём, які карыстаўся падтрымкай большасці, бо ў ім бачылі гаранта незалежнасці дзяржавы.

Але Расія і Аўстрыя не маглі пагадзіцца з гэтым. Меншасць выбаршчыкаў была супраць Ляшчынскага. Не падтрымалі яго і часці літоўскага войска. На тэрыторыю Літвы і Беларусі, праз Горадню і Смаленск і маршам далей на Варшаву прайшлі расійскія арміі генерал-аншэфа П.П.Ласі і генерал-паручніка Загранскага пад агульным камандаваннем генерал-фельдмаршала Б.К.Мініха. Ужо 1 кастрычніка расійская армія заняла прадмесце Варшавы Прагу. Туды з'ехаліся выбаршчыкі з меншасці выбарчага сойму, у тым ліку кракаўскі ваявода Т.Любамірскі, навагрудскі ваявода М.Ф.Радзівіл, расійскі фельдмаршал Я.К.Сапега, Агінскі, Завіша і іншыя. Пад аховаю расійскіх войскаў яны 5 кастрычніка 1733 г. абвясцілі каралём і вялікім князем літоўскім саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста II, сына караля Аўгуста Моцнага, які быў абвешчаны каралём польскім і вялікім князем Аўгустам III (1696 — 1763).

Такім чынам, Станіслаў Ляшчынскі быў каралём у Варшаве толькі 14 дзён, а потым вымушаны быў выехаць у Гданьск, дзе чакаў дапамогі з Францыі: каронныя войскі былі слабыя, і дастатковага адпору расійскаму войску даць не здолелі. Аднак вайна за польскую спадчыну цягнулася два гады (1733 — 1735). 7 ліпеня 1734 г. Гданьск капітуляваў. Хоць на баку Станіслава Ляшчынскага выступіла ў 1734 г. Дзікоўская канфедэрацыя шляхты, аднак экс-кароль не змог яе ўзначаліць. Ён здолеў уцячы з Гданьска ў Прусію. Вайна за польскую спадчыну перакінулася ў Еўропу. Францыя ваявала з Аўстрыяй і Саксоніяй, якім дапамагала Расія. Вайна скончылася ў 1735 г. прэлімінарным мірам (канчатковы быў падпісаны ў 1738 г.). Францыя прызнала польскім каралём і вялікім князем літоўскім Аўгуста III, Станіслаў Ляшчынскі адмаўляўся ад кароны і атрымоўваў герцагства Латарынгію (на ўсходзе Францыі), якая пасля ягонай смерці павінна была перайсці да Францыі. За ім пажыццёва захоўваўся тытул караля Польскага. 26 студзеня 1736 г. Станіслаў Ляшчынскі адмовіўся ад кароны на карысць Аўгуста III. Яму вярталіся маёнткі ў Польшчы. Сваім каралеўскім актам Станіслаў Ляшчынскі вызваліў усіх сваіх прыхільнікаў ад прысягі, дадзенай яму, і ў чэрвені 1736 г. вярнуўся ў Францыю.

## У ЛАТАРЫНГІІ

Раней, некалькі стагоддзяў Латарынгія была асобным герцагствам у складзе Свяшчэннай Рымскай імперыі. Апошні герцаг латарынгскі Франц Стэфан на пачатку 1736 г. ажаніўся з дачкой імператара Карла VI Марыяй Тэрэзіяй, якой у спадчыну перайшлі ўсе аўстрыйскія землі. Францыя падчас вайны за польскую спадчыну фактычна адваявала Латарынгію для сябе, даўшы ў якасці кампенсацыі Францу Стэфану вялікае герцагства Таскану ў Італіі.

Станіслаў Ляшчынскі стаў пажыццёвым валадаром герцагства Латарынгіі, але пад сціслым кантролем Францыі. У дадатак ён атрымаў герцагства Бар (таксама ў Латарынгіі). Сваёю сталіцай ён зрабіў горад Люневіль. Там і жыў разам з жонкаю (каралева Кацярына памерла ў 1747 г. ва ўзросце 67 гадоў). Настаў перыяд спакойнага, размеркаванага і добра ўсталяванага жыцця. 30 год Ляшчынскі кіраваў Латарынгіяй, багатым і эканамічна развітым краем. Ён запрашаў на свой двор знакамітых людзей з усёй Еўропы, лічыўся мецэнатам. У яго гасцявалі Вальтэр і Мантэск'е. У Нансі ён усталяваў Акадэмію Станіслава. У Люневілі адчыніў рыцарскую школу для маладых людзей з Рэчы Паспалітай. Сам займаўся філасофіяй і пісаў навуковыя трактаты.

Ляшчынскі вёў шырокае будаўніцтва ў латарынгскіх гарадах. У Люневілі, Нансі, Камерсі былі пабудаваны палацы, пасаджаны паркі. Для насельніцтва будаваліся амбары для захавання зерня, праводзіліся дабрачынныя акцыі. Стваральная дзейнасць былога польскага караля павялічыла колькасць ягоных прыхільнікаў сярод насельнікаў Латарынгіі, якія спачатку не вельмі ахвотна прынялі чужынца з Усходняй Еўропы ў ролі валадара. Народ нават даў яму мянушку «Дабрачынны». Захаваліся ягоныя партрэты гэтага перыяду, на пляцы Станіслава ў Нансі — ягоная статуя, у касцёле Нотр-Дам-дэ-Бон-Секур можна пабачыць ягонае надмагілле.

Апошнія дзесяцігоддзі Станіслаў Ляшчынскі, нягледзячы на свой век, прызвычаіўся да дзвюх рэчаў — добра пад'есці і прыемна правесці час з кабетамі. У апошнія гады жыцця ён ужо не нагадваў маладога стройнага прыгажуна. Гэта быў вельмі тоўсты стары, які хадзіў з ляскай, абапіраючыся на яе. Але трымаўся ён даволі моцна і, бадай, мог пражыць яшчэ некалькі год, каб не той няшчасны выпадак.15 лютага 1766 г. ён стаяў ля каміна ў сваім кабінеце ў адным з аддаленых пакояў свайго палаца, далёка ад слуг. Раптам яго шлафрок загарэўся. Ён хацеў патушыць агонь рукамі, але занадта нахіліўся і паваліўся ў агонь каміна, яго левая рука пачала гарэць.

Станіслаў Ляшчынскі доўга крычаў, клікаў на помач, але ніхто яго не пачуў. Толькі дым і пах ад ахопленага агнём адзення і цела ўрэшце занепакоіла слуг. Калі яны прыбеглі ў кабінет, С.Ляшчынскі быў ужо непрытомны. У яго былі цяжкія апёкі цела. На жаль, дактары і тагачасныя лекі не дапамаглі. 23 лютага 1766 г. Ляшчынскі памёр і быў пахаваны ў касцёле Нотр-Дам-дэ-Бон-Секур, пра які мы згадвалі. Падчас Вялікай Французскай рэвалюцыі натоўп выкінуў яго астанкі з трумны, хтосьці адрэзаў галаву і панёс дахаты. Аднак былы прыдворны бляхар Мікалай Кранц, які ў 1766 г. першым прыбег на паратунак да Ляшчынскага, адабраў галаву і зноў склаў астанкі ў трумну, якая была пастаўлена на ранейшае месца. Частка праху з трумны была ў адмысловай урне ўзята ў 1814 г. генералам Сакальніцкім, які з салдатамі вяртаўся з Францыі ў Польшчу. Урна была перададзена кафедральнаму касцёлу ў Познані.



Постаць Станіслава Ляшчынскага мае супрацьлеглую трактоўку ў розныя перыяды ягонага жыцця, але ў кожным разе яна дастаткова прывабная і цікавая.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

*На здымках:*

1. Станіслаў Ляшчынскі.
2. Элекцыя Станіслава Ляшчынскага.
3. Мікольская царква ў Магілёве. XVIII ст. Разная аздоба. Друкуецца ўпершыню.
4. Полацкая Сафія. Званіца XVIII ст.
5. Стары замак у Гродне. Палац, перабудаваны ў першай палове XVIII ст. (саксонскі перыяд).

ДА 50-ГОДДЗЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

# ... А ПОДЗВІГ БУДЗЕ ЖЫЦЬ

*Усё далей, усё болей аддаляюцца ад нас падзеі другой сусветнай і Вялікай Айчыннай. Амаль паўстагоддзя прайшло, як адгрымелі апошнія баі на землях Беларусі. Зараслі травой ды кустоўем салдацкія бліндажы. Як ні горка ўсведамляць, але з кожным днём усе менш і менш застаецца ветэранаў — непасрэдных удзельнікаў крывавых бітваў і бліскучых аперацый, змагароў з фашыстамі на акупаванай тэрыторыі, працаўнікоў тылу. Старымі людзьмі (часта са слабым здароўем, а то і зусім нямоглымі) зрабіліся дзеці вайны, чыя растрывожаная памяць дагэтуль утрымлівае дэталі і факты, ад якіх — мурашкі па целе...*

*Як бы мы сёння ні ўспрымалі падзеі Вялікай Айчыннай, якія б горкія і трагічныя старонкі вайны ні адкрываліся перад намі, а новы гістарычны досвед ні падказваў паслужліва іншую інтэрпрэтацыю падзеяў і фактаў, адно застаецца нязменным і недатыкальным — Перамога савецкага народа над фашызмам. Подзвіг народа ў гэтай вайне.*

*Увасоблены ў дакументальных і мастацкіх кінастужках, у раманах, у велічных манументах і сціплых абелісках, на палотнах мастакоў і на паштовых знаках, ён будзе жыць, колькі б гадоў ні мінула...*

*Пра гэта ж — сціслы і стрыманы расповяд Льва Коласава, філатэліста са стажам і сур'ёзнага даследчыка тэмы апошняе вайны ў філатэліі, які і прапануецца ўвазе чытачоў.*

*Алена ТРУСАВА.*

У розных краінах свету выдадзена шмат марак і канвертаў, паштовак і спецыяльных штэмпеляў, прысвечаных падзеям другой сусветнай. І цяпер даволі часта з'яўляюцца такія паштовыя выпускі — у іх адлюстраваны юбілеі розных буйных баёў і аперацый часоў вайны, удзел краін у антыгітлераўскай кааліцыі, «круглыя» даты пачатку і заканчэння вайны.







Ёсць тут цікавая і памятная паштовая прадукцыя былога СССР, якая, між іншым, не мінае гераічных (і трагічных) падзеяў на Беларусі. Усе ведаюць пра 38-метровы абеліск Перамогі ў беларускай сталіцы (архітэктары Г.Заборскі, У.Кароль, скульптары З.Азгур, А.Бембель, А.Глебаў, С.Селіханаў). У інтэрв'ю, якое даў Г.Заборскі карэспандэнту БелТА ў 1979 годзе, архітэктар расказаў, як у самы разгар вайны ў Маскве сабраліся беларускія дойліды, каб абмеркаваць пытанні падрыхтоўкі аднаўлення гарадоў і вёсак рэспублікі, работы над манументам Перамогі ў Мінску. Тады ж, у Маскве, Заборскі паведаміў, што помнік Перамогі пачаў праектаваць яшчэ ў 1942 годзе: «Верыў, што вайна закончыцца нашай перамогай. Хацелася ў родным вызваленым Мінску на адной з самых прыгожых плошчаў увасобіць гэта ў велічны манумент, варты вялікага подзвігу народа». Адкрыццё помніка было прымеркавана да 10-й гадавіны вызвалення рэспублікі. Сёння мала хто ведае, што граніт на аздобу помніка прывезены з-пад Днепрапятроўска і Жытоміра, мазаіку для выявы ордэна Перамогі прыслалі з Ленінградскай Акадэміі мастацтваў (мазаіка работы Ламаносава), рэзь па граніце выканалі ўкраінскія каменачосы, а бронзавыя гарэльефы, меч, вянкі адлілі ў Ленінградзе майстры завода «Манументскульптура».

Помнік на плошчы Перамогі ў Мінску шматразова адлюстроўваўся на паштовых выпусках не толькі ў СССР, але і ў іншых краінах. Першая марка з выявай манумента Перамогі паступіла ва ўжытак у 1958 годзе. Пазней абеліск Перамогі не адзін раз мы сустрэнем на паштовых выпусках СССР — да 15-, 20-, 30-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на спецыяльных штэмпелях, на канвертах, прысвечаных архітэктурным помнікам Мінска.

У чэрвені 1978г. у Патсдаме адбылася філатэлісцкая выстава «Дружба-78», у якой бралі ўдзел калекцыянеры Беларусі, Патсдама і польскага горада Аполе. Паштовае ведамства ГДР па просьбе філатэлістаў Патсдамскай акругі выпусціла паштоўку і канверт з выявою верхняй часткі медаля, які ўручаўся ўдзельнікам выставы. На медалі — абеліск Перамогі ў сталіцы Беларусі і помнікі барацьбітам супраць фашызму, усталяваныя ў Патсдаме і Аполе.

Бадай, самая цікавая марка з помнікам Перамогі ў Мінску была выдадзена ў 1965г. Яе выдавец — пошта маленькай еўрапейскай дзяржавы Манака. Праўда, марка прысвечана не ваенным падзеям. Улетку 1964г. у Мінску быў дадзены старт 34-му міжнароднаму аўтаралі Мінск — Монтэ-Карла (Манака). Падзея і спарадзіла выпуск паштовае маркі, на якой адлюстравана плошча Перамогі ў беларускай сталіцы разам з абеліскам — месца старту аўтаралі. Гэта першая замежная марка з выявою святога месца ў Мінску.

Пра ўсе паштовыя выпускі, прысвечаныя падзеям 1941 — 1945гг. на тэрыторыі Беларусі — абароне Брэсцкай крэпасці, абароне Магілёва, партызанскаму і падпольнаму руху, аперацыі «Баграціён» ды шмат якім іншым падзеям, — расказаць у невялікім газетным артыкуле немагчыма. Адно скажам: такія выпускі ажыццёўлены паштовымі ведамствамі Польшчы, Балгарыі, Францыі, у дзяржавах, цяпер ужо не існуючых — СССР, ГДР, Чэхаславакіі.

У 1961г. да 20-й гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны пошта СССР надрукавала некалькі марак, увасобіўшых вядомыя бітвы. Дзесяццю гадамі раней мастак П.Крыванагаў стварыў сваю шырока вядомую карціну «Абаронцы Брэсцкай крэпасці». Фрагмент гэтага палатна і быў рэпрадукаваны на паштовы знак, прысвечаны першым дням вайны. Тут, ля сцен легендарнай крэпасці, у чэрвені 41-га быў зроблены першы крок да мая 1945-га, крок да Перамогі.

У актыве беларускіх мастакоў, асабліва старэйшага пакалення, безумоўна, ёсць творы, так ці інакш прысвечаныя падзеям апошняй вайны, гераічнай барацьбе з захопнікамі. Некаторыя з іх набылі другое жыццё на паштовых мініяцюрах. У 1967г. знакаміты майстра пэндзля мастак Міхаіл Савіцкі стварае славутую «Партызанскую мадонну» — карціну з глыбокім сюжэтам, сцвярджэннем моцы чалавечага духу і любові да жыцця. Другое дыханне твор атрымаў на паштовай мініяцюры. Яны, нібы ластаўкі, разляцеліся па свеце не толькі прыватнымі пасланнямі, а лістамі-весткамі пра мужнасць і няскоранасць нашага народа.

У 1943г. мастак Я.Зайцаў стварыў вобраз юнага беларускага партызана. Вобраз «схоплены» з жыцця, з паўсядзённай рэчаіснасці — вядома, як многа маладых людзей, юнакоў і дзяўчат, нярэдка нават дзяцей, са зброяй у руках баранілі родную зямлю ад ворага. Дзве карціны мастака (гэтай жа тэматыкі) былі адададзены ў серыі марак «Жывапіс Беларусі» (1983г.).




Асаблівае месца ў шэрагу тых, хто змагаўся з фашыстамі на тэрыторыі Беларусі, належыць лётчыкам авіяпалка «Нармандыя».




Чатыром французскім пілотам, удзельнікам баёў у небе Беларусі, нададзена годнасць Героя Савецкага Саюза. За вялікую падтрымку ў часе фарсіравання ракі Нёман авіяпалку было прысвоена найменне «Нармандыя-Нёман».




Славутаму авіяпалку прысвяцілі свае выпускі паштовыя ведамствы Францыі і СССР. На паштоўцы — партрэт Героя, французскага лётчыка старшага лейтэнанта Марсэля Лефеўра. Ён удзельнік Віцебска-Аршанскай аперацыі, загінуў у 1944г. На французскай паштовай марцы — а паштовае ведамства Французскай Рэспублікі прысвяціла палку «Нармандыя — Нёман» некалькі канвертаў і спецыяльных штэмпеляў — падаюцца назвы мясцін і гарадоў, дзе змагаўся авіяполк: «... 1944 — Віцебск — Бярэзіна — Мінск — ... Нёман».

**Леў КОЛАСАЎ,**
**намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў.**

# ІНФЛЯЦЫІ НЕПАДУЛАДНА

*У нашай краіне больш за паўтары тысячы турыстычных фірмаў. Ствараюцца новыя. З аднаго боку, гэта някепска. А з іншага — большасць турбюро прапануюць так званыя камерцыйныя паездкі, у якіх нашы суайчыннікі знаёмяцца са «славутасцямі» варшаўскага і стамбульскага рынкаў, Беларускага вакзала ў Маскве. Карысць ад такіх падарожжаў, маецца на ўвазе духоўнае ўзбагачэнне, а не пераважна міфічнае матэрыяльнае, — мізэрная. Таму да паслуг турыстычных фірмаў у народзе, за выключэннем невялікага працэнта гандляроў-вандроўнікаў, ставяцца скептычна. Такі турызм ужо не прываблівае.*

*Іншым шляхам пайшлі стваральнікі Мінскага бюро падарожжаў «Перліна», наладзіўшы супрацоўніцтва з Міжнародным адукацыйным форумам, што знаходзіцца ў Злучаных Штатах Амерыкі.*

— Адукацыя з цягам часу, — лічыць Мікалай Бяка, намеснік дырэктара бюро, — адыграе ўсё большую ролю. Як ведама, на грошы ўплывае інфляцыя. А вось веды заўсёды ў цане. Мы вырашылі скіраваць свае намаганні на тое, каб чалавек ад 13, скажам, гадоў і да 60, які звярнуўся да нас, здолеў не толькі пазнаёміцца са славутасцямі той ці іншай краіны, жыццём яе насельнікаў, а чамусьці навучыцца. У першую чаргу мове. Прычым неабавязкова мець школьную базу. Можна пачынаць з нуля. Мы прапаноўваем таксама навучанне на курсах у каледжах і універсітэтах па 150 розных спецыяльнасцях.

**— Якія мовы пры дапамозе вашай фірмы можна вывучыць альбо удасканаліць веды?**

— Мы прапануем праходжанне курсаў нямецкай, французскай, англійскай, іспанскай моваў з наведваннем Германіі, Францыі, ЗША, Канады, Англіі, Іспаніі. Акадэмічнае навучанне можа мець тэрмін ад аднаго месяца да года, курсавое — ад тыдня да двух-трох месяцаў. Пасля вучобы выдаецца спецыяльны дыплом.

**— Але такія паездкі каштуюць, відаць, нятанна?**

— Школьныя туры ў Чэхію, Германію, Польшчу і іншыя краіны маюць цэны даволі прымальныя. Напрыклад, трохдзённае наведванне ФРГ абыдзецца ў 125 долараў на чалавека. Мы запрашаем у такія вандроўкі цэлыя класы. Заяўкі прымаем нават за адзін-два гады. Гэты тэрмін здаецца дастатковым, каб знайсці неабходныя сродкі. Чым цікавыя такія туры? Школьнікі маюць магчымасць не толькі пазнаёміцца з гісторыяй і культурай замежных краін, але і наведаць тамтэйшыя школы, пабываць на занятках, паўдзельнічаць у спартыўных спаборніцтвах. Моўныя курсы каштуюць больш. Як я ўжо казаў, яны разлічаны на рознаўзроставы кантынгент. Навучанне праходзіць у прыватных школах, коледжах, універсітэтах. Тут шырокае поле дзейнасці. Магчымасць вучыцца прадастаўляецца як у індывідуальным парадку, так і ў складзе групы. Цудоўна, калі арганізацыя ці фірма, якая накіроўвае на курсы, знаходзіць магчымасць аплаціць паездку.

**— Вашы туры разлічаны на даволі доўгі тэрмін знаходжання за мяжой?**

— Так. Хоць нашы суайчыннікі стануць жыць далёка ад радзімы, быт іх будзе набліжаны да хатняга, бо мясціцца і харчавацца яны будуць у сем'ях.

**— Якое ўражанне пакідаюць такія пакуль што не зусім звычайныя турыстычныя паездкі?**

— Нядаўна ў Вялікабрытаніі на курсах англійскай мовы ў прыгожым курортным горадзе Гасцінгсе знаходзілася група з блізкага замежжа — з Масквы. Яна дала высокую ацэнку ўзроўню падрыхтоўкі навучэнцаў, арганізацыі паездкі. Не стану ўтойваць, прыемна было пачуць такое меркаванне. Хачу яшчэ дадаць, што наша бюро садзейнічае ў падрыхтоўцы для паступлення ў Кембрыджскі універсітэт.

Мы прапануем навучанне ў прыватных школах, коледжах, універсітэтах Злучаных Штатаў і Канады, наладжваем летнія вакацыйныя вандроўкі ў Амерыку, праходжанне курсаў нямецкай мовы ў Берліне і Бімфельдзе, іспанскай у Мадрыдзе.

**— І апошняе. Што вы пажадаеце нашым чытачам і тым, хто наважыцца на паездку, якую вы прапануеце?**

— Шчаслівага падарожжа!

**Наталля КІРПІЧЭНКАВА.**

# МУЗЫКА З МАЛЕНЬКІХ РУК

24 красавіка ў гарадскім Палацы культуры Барысава адбылося ўрачыстае закрыццё Міжнароднага конкурсу юных піяністаў імя Ірыны Цвятаевай, які праходзіў па ініцыятыве ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкама. Удзел у конкурсе бралі 49 выхаванцаў музычных школ і ліцэяў з усіх абласцей Беларусі, з Латвіі, Літвы і Расіі. У фае палаца была наладжана як візуальны працяг імпрэзы абласная выстава дзіцячых мастацкіх студый «Музычныя фарбы».

Конкурс не выпадкова атрымаў імя Ірыны Цвятаевай. Гэтая вельмі творчая жанчына зрабіла вялікі ўнёсак у музычную культуру Беларусі: пад яе кіраўніцтвам кансерваторыю скончылі больш за 120 піяністаў, з якіх больш за 20 сталіся лаўрэатамі рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, курс навучання ў яе кансерваторскім класе прайшлі таксама каля 20 аспірантаў. Магчыма, таму яе называюць адным з заснавальнікаў беларускай фартэпіяннай школы (поруч з прафесарамі М.Бергерам і Я.Альшэўскім). Ірына Цвятаева выкладала не толькі ў кансерваторыі і маскоўскім інстытуце імя Гнесіных; напэўна, большую частку сваіх сіл яна аддала музычнай адукацыі дзяцей у Мінску ды іншых гарадах Беларусі (таму і конкурс не дарослы, а дзіцячы).

Не выпадкова і тое, што конкурс адбыўся ў Барысаве: Цвятаеву ў горадзе памятаюць па адкрытых уроках, якія яна давала тут, а адзін з яе былых студэнтаў, барысаўчанін Алег Крэмер, актыўна садзейнічаў арганізацыі конкурсу і сам падрыхтаваў для яго некалькі ўдзельнікаў. І нарэшце, у сталіцы і так адбываецца шмат канцэртаў і фестываляў, у Мінску конкурс не стаўся б падзеяй агульнагарадскога маштабу. У Барысаве ж нават на папярэдніх праслухоўваннях зала заўсёды была поўная слухачоў.

Была яна поўнай, вядома, і на заключным канцэрце лаўрэатаў. Каб прафесійна ацаніць майстэрства выканаўцы, трэба, прынамсі, дасканала ведаць музычны твор. Пры маіх няспрактыкаваных вушах застаецца толькі верыць, што вельмі прадстаўнічае журы на чале з прафесарам Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі Тацянай Краўчанка размеркавала прызы і дыпломы паміж удзельнікамі конкурсу справядліва.

Усе ўдзельнікі конкурсу былі падзелены на дзве ўзроставыя групы: малодшую (8 — 11 гадоў) і старэйшую (12 — 16). У малодшай групе ўладальнікам ІІІ прэміі стаўся рыжанін Эдгардс Радзінскіс, навучэнец спецыяльнай музычнай школы імя Дарзіня. Ён выканаў твор Грыга «Матылёк»: маленькімі яшчэ ручкамі грукатаў і цёпаў па клавішах не горш за дарослага, стварыўшы вобраз зграбнага палёту матылька, ягонага змагання з ветрам...

Лаўрэат ІІІ прэміі сярод старэйшых — Караліна Кірыльчык з мінскага музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі — прыгожа выканала творы Ібэра «Маленькае белае асляня» і «Легкадумная дзяўчына», а таксама «Іскрынкі» Машкоўскага, напісаныя ў вельмі шпаркім тэмпе.

Надзвычай спадабаўся слухачам лаўрэат ІІ прэміі ў малодшых — Яўген Гулевіч са слуцкай дзіцячай музычнай школы, які выканаў «Санату фа-мажор» Гайдна і «Тарантэлу» Пракоф'ева. Пальцы маленькага віртуоза танцавалі па клавішах у неверагодна шалёным тэмпе, прапускаючы прастору залы праз найшчыльнейшае сіта музыкі.

ІІ прэмію ў старэйшай групе атрымаў мінчук Дзяніс Маслюк з музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Творы Рахманінава ("Эцюд-карціна мі-бемоль мажор") і Глебава ("Фантастычны танец") ён выканаў вельмі ўпэўнена і разняволена. Ажно выскачыла нейкая дзяўчына з залы і пацалавала хлопца ў вусны.

Лаўрэатам І прэміі ў старэйшых сталася Вікторыя Бабіч са студыі педпрактыкі пры музычным вучылішчы г.Элісты (Калмыкія). «Арабескі» Шумана яна іграла пяшчотна, плаўна, нейк акруглена (магчыма, гэта ўвогуле характэрна для жаночай манеры выканання фартэпіяннай музыкі?).

І нарэшце, быў абвешчаны лаўрэат І прэміі ў малодшай групе і ўладальнік галоўнага прыза (піяніна «Беларусь») — Павел Ялецкі з Маладзечна, якога пры музычнай вучэльні вучыць родны бацька — Юрый Ялецкі. Асабіста на мяне выкананне Паўлам твора Чайкоўскага «Сакавік» з альбома «Поры году» асаблівага ўражання не зрабіла. Магчыма, не вельмі ўдала быў абраны твор для заключнага канцэрта. Апрача таго, хваляванні выканаўцаў узмацняла работа чатырох тэлеапаратаў, адзін з якіх літаральна «навісаў» над клавіятурай і здымаў танец пальцаў або яшчэ клаўся на падлогу, каб адлюстраваць націсканне педаляў.

Акрамя лаўрэатаў, шмат удзельнікаў конкурсу атрымалі спецыяльныя прызы ад спонсараў: замежную радыёапаратуру і прыгожыя цацкі. Найбольш пашчасціла Яўгену Маліноўскаму з Мінска: дачка Ірыны Цвятаевай і ганаровы госць конкурсу, дацэнт Беларускай акадэміі музыкі Алена Васільчанка падаравала яму сямейную рэліквію — дзве карціны свайго бацькі.

Падсумоўваючы вынікі конкурсу, загадчык аддзела культуры Барысаўскага гарвыканкама Алена Ягорава адзначыла, што арганізаваць яго было б вельмі не проста без удзелу мясцовых, барысаўскіх спонсараў. Яна асабіста сустракалася з дырэктарамі дваццаці трох дзяржаўных прадпрыемстваў і прыватных фірмаў — і ніводны з іх не адмовіў у дапамозе. Для яе сапраўднай неспадзяванкай было знайсці ў Барысаве столькі добрых і разумных людзей, якія глядзяць у будучыню, бо разумеюць, што жыхары правінцыйнага горада могуць назаўжды захлынуцца ў мяшчанстве, калі не ўкласці добрыя сродкі ў развіццё юных талентаў і падтрымку культурнага жыцця ўвогуле. Спадарыня Ягорава баялася таксама, паводле яе словаў, што барысаўчане не зацікавяцца конкурсам, што самая вялікая ў горадзе зала не будзе поўнай, бо і на працейшыя відовішчы не надта добра ідуць. І тое, што вольных месцаў тут не было, вельмі радуе: значыцца, Барысаў можа пераўтварыцца ў значны культурны цэнтр вобласці і рэспублікі.

Мэр Барысава, Віктар Капульцэвіч, у сваёй прамове запэўніў, што конкурс, асабліва калі ён станецца традыцыйным (наступны мяркуецца правесці праз тры гады: каб паспелі ўзгадавацца новыя таленты), ажывіць не толькі культурную, але і эканамічную сітуацыю ў горадзе і раёне. Неабходна насычаць правінцыйнае жыццё культурнымі падзеямі: яны дапамагаюць больш упэўнена дыхаць мясцовым прадпрыемствам вытворчай і камерцыйнай сферы.

Рысу пад конкурсам падвёў намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Рылатка. Паводле яго, свята адбылося толькі дзякуючы таму, што тут, у Барысаве, культурай займаюцца не проста прафесіяналы, але яшчэ і вялікія аптымісты, якія працуюць дзеля лепшае будучыні нашага народа. Толькі тая нацыя будзе моцнай, якая мае духоўна багатую правінцыю, бо менавіта ў вёсках і невялікіх гарадах і нараджаецца сапраўдная культура. У нашай культуры, безумоўна, ёсць будучыня, пакуль яна мае такія ж моцныя карані, як аматары добрай музыкі ў Барысаве.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

Барысаў — Мінск.

# ЖЫЦЦЁ, АДДАДЗЕНАЕ ТАНЦУ

Адрас: Мінскі маторны завод, ансамбль народнай творчасці «Кола». Менавіта там сярод сяброў — спевакоў, музыкаў і танцораў лепш за ўсё адшукаць Міколу Котава. Хоць ён афіцыйна і займае цяпер пасаду намесніка дырэктара Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра культуры, душа яго заўсёды там — у віры танца, у коле карагода, сярод чароўных мелодый роднага краю. Гэта ўжо чацвёрты калектыў, які ён стварае і выводзіць, як кажуць, «у людзі». І не таму, што яны заслугоўваюць пачэсныя званні народных. А таму, што гэта агеньчыкі, вакол якіх грэюцца людзі, адтайваюць душой, успамінаючы старажытныя абрадавыя мелодыі, гледзячы на вясельныя танцы і карагоды, якія вадзілі іх блізкія і далёкія продкі.



Ездзячы па вёсках, збіраючы па драбніцах старадаўнія народныя абрадавыя песні і танцы, гаданні, пажаданні, кірмашовыя жарты і г.д., Мікола Котаў стварыў свой першы ансамбль народнага танца на Тураўшчыне, у Палессі, сёлета ансамблю якраз спаўняецца трыццаць гадоў.

«Галоўнае для мастака, ды і для чалавека ўвогуле — гэта не здрадзіць сваёй любімай справе, у гэтым шчасце, — казаў ён у гутарцы са мною. — І я шчаслівы чалавек. Я... у захапленні ад сваёй працы, бо бачу, як народ адносіцца да сваёй спадчыны, як свецяцца вочы ў селяніна, які глядзіць на скокі, слухае мелодыі, дзе душа і сэрца народа. У горадзе другія адносіны да танца, тут гэта мастацтва як бы абстрактнае, як бы адарванае ад зямлі».

Ансамбль «Прыпяць» у свой час часта запрашалі на святочныя канцэрты, на з'езды партыі і камсамола. Ён прадстаўляў фальклорныя танцы Беларусі ў Грузіі, Малдове, Расіі, Украіне, Чэхаславакіі і іншых краінах. Шмат здымаўся на тэлебачанні у нас і ў Маскве. Мікола Котаў з цеплынёй успамінае аб сваіх сябрах, таленавітых танцорах і песнярах, з якімі ён пачынаў працаваць у «Прыпяці». Гэта Васіль Стаднік, які цяпер працуе ў Дзяржаўным акадэмічным хоры імя Г.Цітовіча, Міхась Будзя, які зараз балетмайстар народнага ансамбля танца ў Львове, Вячаслаў Вярэніч — дырэктар Дома культуры ў Рагачове на Гомельшчыне, Уладзімір Супоненка, Міхась Сегел, Уладзімір Субаць — цяперашнія кіраўнікі ансамбляў у Гродне, на Брэстчыне, Гомельшчыне, і іншыя, якіх ён памятае і любіць.

У «Прыпяці» ён прарабіў 23 гады. Прыйшоў туды тады, калі там было «... адзін бот і паўкасцюма» (як ён гаворыць), і вывеў гэты ансамбль у кола сусветна вядомых, а цяпер «ставіць на ногі» ўжо чацвёрты калектыў. Гэта «Кола» — ансамбль народнай творчасці Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра культуры. Адначасова далучае да вытокаў народнага харэаграфічнага мастацтва студэнтаў Мінскага універсітэта культуры і праводзіць шырокую прапаганду народнага беларускага танца. Шмат часу аддае рабоце з дзецьмі — нашай будучыняй. І дастаткова пабачыць як танцуюць яго выхаванцы, напрыклад, «салавейка» — самы малады ўдзельнік ансамбля «Кола» Юрасік Сіліцкі, каб зразумець, што Мікола Котаў недарэмна пражыў сваё жыццё, недарэмна запальвае гэтыя агеньчыкі, што назапашаны былі стагоддзямі, але не бачныя былі пад попелам забыцця.

Звычайна пра такіх дзеячаў, як Мікола Котаў, гавораць, што ён «збірае і адраджае ў першароднай красе дыяменты фальклорнай скарбонкі». Так напісана ў рэкламным праспекце «Кола». Я сказаў бы іначай. Гэта адзін са струменьчыкаў, што жывяць нашу культуру і даюць магчымасць людзям напіцца гаючай вады Памяці.

Поспехаў табе, Мікола, і тваім сябрам у гэтай працы!

*Ягор ФЯДЗЮШЫН.*

**Фота Уладзіміра КАВАЛЬЧУКА.**

# «СЫМОН-МУЗЫКА» НА РАДЗІМЕ КОЛАСА

Нягледзячы на даждлівае, не па-веснавому халоднае надвор'е, два дні, 20 — 21 мая, на Стаўбцоўшчыне было сонечна ад дзіцячых усмешак, цёпла і хораша на сэрцы ад знаёмства з юнымі музычнымі талентамі Беларусі і блізкага замежжа.

На радзіме Якуба Коласа на V Рэспубліканскі фестываль юных музыкантаў «Сымон-музыка» сабраліся чулыя сэрцам і душой людзі, тыя, хто сярод зямнога шматгалосся распазнаюць і знаходзяць непаўторную мелодыю дабрыні і свята, запальваюць агеньчык надзеі і радасці быцця ў гэтым няўстойлівым свеце.

Больш за 650 удзельнікаў з розных куткоў Беларусі, з Расіі, Украіны паказалі сваё майстэрства, мастацкі ўзровень, яшчэ раз пацвердзілі, што нацыянальная культура адраджаецца, жыве.

Традыцыйна ў рамках фестывалю ў Стоўбцах адбыўся марш-парад духавых аркестраў «Залатая труба», а ў філіяле музея Якуба Коласа ў Смольні, на мемарыяльнай сядзібе, дзе паэт працаваў над паэмай «Сымон-музыка», дзе ўпершыню сустрэліся два волаты беларускай літаратуры Якуб Колас і Янка Купала, прайшло свята «Слова пра Коласа». Удзельнікі фестывалю сталі сведкамі адкрыцця памятнай дошкі «Першая сустрэча Якуба Коласа і Янкі Купалы» (скульптар Л.Гумілеўскі), з цікавасцю слухалі выступленне паэтаў С.Грахоўскага, А.Вольскага, І.Курбекі, кампазітара А.Багатырова, сына Я.Коласа Д.Міцкевіча, гасцей з Масквы паэтэсу Н.Салаўёву і кампазітара М.Пратасава, якія прысвяцілі фестывалю «Сымон-музыка» сваю песню «Ты, Беларусь мая».

Наша зямля багатая на таленты, але выявіць найярчэйшыя зоркі дапамагаюць творчыя сустрэчы-фестывалі. Палац культуры калгаса «Нёман», дзе адбыўся заключны канцэрт, ледзь змясціў жадаючых сустрэцца з лаўрэатамі фестывалю. Радавалі сэрца сваім выступленнем лаўрэаты: ансамбль народнай музыкі «Пацешкі» і дуэт цымбалістаў Маладзечанскай музычнай школы, фальклорны ансамбль з Любані; дыпламанты: ансамбль народнай музыкі «Каласкі» Коласаўскай ДМШ Стаўбцоўскага раёна, фальклорны калектыў Валожынскай ДМШ. Зачараваў сваім майстэрствам і абаяльнасцю сямейны ансамбль Сальнікавых з Радашковіч, які атрымаў спецыяльны прыз журы. Прызам музея Якуба Коласа «За адданасць песні» ўзнагароджаны дзіцячы фальклорны ансамбль «Хажаўлянка» Маладзечанскага раёна.



Мара Коласа аб адраджэнні беларускай культуры збылася. На зямлі песняра ў адзіны шлях сышліся дарогі аматараў мастацтва, якія па-сапраўднаму разумеюць прыгожае, шукаюць яго ўсім сэрцам і душой.

**Зінаіда САЛАЎЁВА.**

**Фота Алеся ФЕДАРЭНЧЫКА.**

*На здымку (злева направа):* І.Курбека, А.Вольскі, А.Багатыроў, С.Грахоўскі, Н.Салаўёва, М.Пратасаў.

# ДАЙДЖЭСТ

*Сёння выпісаць газеты, да якіх мы прывыклі, якія чыталі шмат гадоў і любім цяпер, — раскоша. Вядома, гэта не толькі матэрыяльны бок. Хаця некаторыя выданні, каб падняць рэйтынг сваёй газеты, «канвертуюць» грошы на квартальную падпіску вельмі своеасабліва, прыроўніваючы да пяра... кіло каўбасы. І гэта стала амаль што нормай. Пра газеты блізкага замежжа і казаць не варта. Як бы мовіў неўміручы Астап Ібрагімавіч: «Занадта шыкоўна!». Немагчымасць падпісацца на папулярную і новую перыёдыку стала рэальнасцю — межы, розныя грошы. А тым самым інфармацыйны голад.*

*Таму рэдакцыя вырашыла наталіць яго праз паведамленні аб культурным жыцці свету, аглядаючы замежныя газеты і часопісы.*

## Я ВАМ ПРАСПЯВАЮ...

### «ХТО БУДЗЕ ВЫКОНВАЦЬ ПАРТЫЮ ГАРБАЧОВА?»

Як паведаміла газета «Кёльнішэ раўндшаў», праз месяц у новай суперсучаснай зале мастацкіх выстаў Бона адбудзецца прэм'ера оперы «Міхаіл Гарбачоў». На спектакль прыедзе экс-прэзідэнт былога СССР разам з жонкай. Арганізатар шоу — бонская фірма «Іп энд М» вызначыла кошт білетаў у памеры ад 500 да 2000 марак. А для тых 20 «архігасцей», якія пасля прэм'еры і абеду маюць жаданне паразмаўляць з парай Гарбачовых, плата, вядома, вышэйшая. Прыбытак ад гэтага мерапрыемства пойдзе на рахунак Фонду Гарбачова.

### «З АГНЁМ НЕ ЖАРТУЙ — ЗГАРЭЦЬ МОЖНА...»

Памятаеце гэтыя словы Маякоўскага на чырвоным будынку, што на Раманаўскай слабадзе? «Дзякуючы пажарным», шоу «Кар-Мэна» ў Мінску ледзь не сапсавалі: пільныя працаўнікі брандспойта залілі вадой усе парахавыя запалы піратэхнікі. Сяргей Лемох з гуртом адмовіўся выходзіць на сцэну. І гэта зразумела: у час шоу «Кар-Мэна» на сцэне адбываецца каля пяцідзесяці выбухаў рознай гучнасці і яркасці. Без гэтага шоу магло б пераўтварыцца ў шэры канцэрт.

Гурт прыняў рашэнне — нейтралізаваць пажарных, што і зрабілі мясцовыя «сэк'юрыты». Канцэрт адбыўся.

### ІРЛАНДСКАЯ ТРАГЕДЫЯ: ЗНОЎ ГРАН-ПРЫ

Гран-пры (226 ачкоў) атрымала ірландская песня «Дзеці рок-н-рола» ў выкананні Пола Харынгтана і Чарлі Макгецігэна. Фінал Конкурсу Еўрабачання ў Дубліне адбываўся ноччу. «А маленькая Ірландыя атрымала не толькі славу, але і галаўны боль — у трэці раз прымаць у сябе конкурс еўрапейскай песні (па ўмовах, наступны конкурс песні арганізуе тая краіна, чый выканаўца атрымаў Гран-пры). Кажуць, ірландскія журналісты яшчэ перад фіналам зрабілі заяву, што гэтага не перажывуць.

Дарэчы, у конкурсе ўпершыню бралі ўдзел сем краін — Расія, Польшча, Літва, Эстонія, Румынія, Венгрыя і Славакія. Усе ўдзельнікі выступалі «жыўцом» у суправаджэнні сімфанічнага аркестра Мішэля Дарсі.

## «СЯРОД УСІХ МАСТАЦТВАЎ...»

### «ДАЙГРАЎСЯ...»

Зусім нядаўна зорка Галівуда другой хвалі Аль Пачына ўпершыню атрымаў «Оскара» ў намінацыі «Лепшая мужчынская роля» ў фільме «Пах жанчыны».

У новай стужцы «Два кавалачкі» ("Two Bits") дзеянне, якое адбываецца ў гады дэпрэсіі, Пачына выконвае ролю дзядулі юнака, які марыць назбіраць грошай і адкрыць кінатэатр. Аўтар сцэнарыя — Джозэф Стэфана набыў славу трыццаць гадоў таму за сцэнарый класічнага зараз трылера Хічкока «Псіхо». «Дзед і ўнук, добрае і дрэннае, вяселле і пахаванне... Кожная манета мае зваротны бок», — гаворыць Стэфана.

### «ЖАНОЧЫ СВЕТ — 94»

Менавіта пад такой назвай у красавіку адбыўся фестываль расійскага кіно ў Набярэжных Чаўнах.

«У праграме было трынаццаць стужак, якія здымалі рэжысёры-мужчыны аб жанчынах. І як! Тацяне Васільевай быў прысуджаны прыз за лепшую жаночую ролю ў фільме Аляксандра Прошкіна «Пабачыць Парыж і памерці!». Фільм Дзмітрыя Астрахана «Ты ў мяне адна» з удзелам Марыны Няёлавай і Святланы Рабавай (дарэчы, наша суайчынніца) быў абсалютным лідэрам фестывалю.

У час фестывалю Іна Чурыкава, якая атрымала прыз за ролі ў дзвюх стужках — Галіна ("Плашч Казановы") і Арановіча ("Год Сабакі"), прызналася: «Цяпер для мяне не існуе пытання, куды ехаць: у Каны, Берлін, Венецыю... Я выбіраю Набярэжныя Чаўны».

### «ФЭСТ — 94»

Здаецца, што «Фестываль фестываляў» абяцае быць пастаянным. Ён адбудзецца з 23 па 29 чэрвеня ў горадзе белых начэй.

Арганізатары «Фэста» задумалі правесці ў Санкт-Пецярбургу прэм'еру сямікратнага «оскараўскага» лаўрэата Стывена Спілберга «Спіс Шындлера». Плануецца таксама правесці Дні кіно Гамбурга, французскага, італьянскага... Падняць гэткае фестывальнае дзеянне практычна дапамаглі «Фонд Сораса», газета «Московские новости».

Спецыяльны прыз «Паўночная Пальміра» будзе прысуджаны таму, хто атрымае самую высокую адзнаку сярод удзельнікаў «Фэсту».

**Шкада, але ад Беларусі ў спісах удзельнікаў пакуль нікога няма.**

Навіны падрыхтаваны паводле «Новой ежедневной газеты», «Комсомольской правды», «Общей газеты», «Независимой газеты».

## «ЧАМУ ЗАГІНУЎ ВЯЛІКІ ТЭАТР?»

Пад такой назвай у газеце «Комсомольская правда» былі надрукаваныя фрагменты рукапісу кнігі-альбома «Я, Мая Плісецкая...». Выдавецтва «Новости» падрыхтавала да друку мемуары знакамітай балерыны. Тэкст выдаецца ў аўтарскай рэдакцыі, балерына не дазволіла выпраўляць стылістычныя, іншыя памылкі, што ўважлівы чытач можа адчуць. Затое атрымалася шчыра, а гэта, як лічыць рэдакцыя «КП», — галоўнае. «Камсамолка» будзе друкаваць і працяг рукапісу Маі Плісецкай, пакідаючы за сабой права мець уласны погляд на праблемы тэатра і на аднаго з яго кіраўнікоў, як адзначыла газета.

*Мая Плісецкая:*

«Па тэлебачанні на ўсю краіну Грыгаровіч, плачучы, скардзіцца: маўляў, даўно нічога не стаўлю? Трупа не дзейнічае? Дык мне балетныя апазіцыянеры перашкаджаюць працаваць. У творчасць акунуцца не даюць...

Ты, Юрый, поўны ўладар трупы ў дзвесце з гакам чалавек. Трэба табе тысячу рэпетыцый — бяры, толькі рабі што-небудзь новае, дзве тысячы, год працы, два, тры, чатыры — савецкая дзяржава за ўсё аплаціць, рабі што хочаш. Ты ж манарх абсалютны!..

То гэтую працу на ўвесь свет паабяцае, то іншую. Тады маўчок. Цішыня. Быццам бы не дачулі людзі.

Вось каму сапраўды працаваць не давалі — не пяцёрка-шасцёрка нязгодных фіміям курыць балетных «апазіцыянераў», а ўся савецкая дзяржава, дык гэта Шастаковічу, Ахматавай, Галяйзоўскаму, Якабсану, Зошчанку, Пракоф'еву. Але — працавалі. Тварылі.

А за табой уся звышдзяржава стаіць, патрафляе табе. Дзяржава, узброеная ракетамі, танкамі, авіяносцамі. Якога кўля табе трэба?

З цягам часу мне расказаў Сэм Ніфалд з нью-ёркскай канторы «Каламбія артыстс», як яны хацелі запрасіць на гастролі трупу Вялікага з балетамі Грыгаровіча і маёй «Ганнай Карэнінай».

— Я не адважыўся раней расказаць Вам, што здарылася з Грыгаровічам, калі мы сказалі яму аб гэтым. У яго пачалася істэрыка.

Я не здзівілася.

— Збялеў, як нябожчык, закрычаў: «Альбо я, альбо Плісецкая». Ледзь яго выратавалі ад шока.

Вядома, вы, маэстра. У рэшце рэшт ён жа кіраўнік трупы. Хаця і шкада. Мог адбыцца прыгожы сезон. Амерыканцы чакалі «Ганну».

А яшчэ надта па-савецку — гучна сыграць дэмакратыю.

## СОРАМНА І БАЛЮЧА...

У газеце «Свабода», N18, была надрукавана нататка Івана Сідара пад загалоўкам «Таварыш Данілаў — герой тыдня». Там паведамлялася аб паездцы Генадзя Данілава пятага траўня ў дзіцячы Дом і школу-інтэрнат ў Беразіно. Сярод артыстаў, якія суправаджалі «товарища» Данілава, быў і І.Лучанок. Пасля сустрэчы з дзецьмі адбыўся пікнік у лесе, як і ў колішнія «слаўныя часы». Падчас выпіўкі ў лесе, як паведамляў аўтар нататкі, І.Лучанок спяваў бульварную частушку:

*Мы не сеем и не пашем,*
*Мы валяем дурака.*
*С колокольни шапкой машем*
*На Зенона Пазьняка.*

Прачытаў нататку, і на душы стала гідка, сорамна і балюча...

Падумалася: няўжо можна за кавалак дэфіцытнай каўбасы ці гарачы шашлычок прадаваць уласную годнасць і гонар і выслужвацца перад магільшчыкамі беларушчыны?.. Неэтычна ўсё гэта, неінтэлігентна. У сувязі з гэтым фактам нагадаем мудрае выслоўе французскага мараліста XVIII стагоддзя Люка дэ Вовенарга: «Гандлюючы гонарам, не разбагацееш».

Калі нататка — паклёп, І.Лучанок павінен патрабаваць ад газеты «Свабода» апублікаваць абвяржэнне і папрасіць прабачэння. А калі ўсё гэта праўда, то яе трэба праглынуць як горкую лекавую пілюлю, якая, можа, дапаможа вылечыцца ад небяспечнай хваробы з дыягназам: лёкайства і рабалепства...

**Васіль СОКАЛ,**
**выдатнік народнай асветы.**

Вёска Зубелявічы, Ляхавіцкі раён.

**Нагадваем нашым чытачам, што да канца падпіснай кампаніі засталося ўсяго два тыдні. Толькі да 15 чэрвеня вы можаце аформіць падпіску на штотыднёвік «Культура».**
**Падпісны індэкс «Культуры» — 63875.**
**Кошт падпіскі:**
**на тры месяцы — 2400 рублёў, на адзін месяц — 800 рублёў.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63875** (індэкс выдання)

КУЛЬТУРА

Колькасць камплектаў

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63875** (індэкс выдання)

КУЛЬТУРА

| Кошт | падпіскі | ____руб.____кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____руб.____кап. | |

на 1994 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# АРМЯНСКАЯ ДЫЯСПАРА НА БЕЛАРУСІ

*Армяне — адзін з найстаражытнейшых народаў свету; большасць іх жыве па-за межамі сваёй шматпакутнай радзімы. У Вялікім княстве Літоўскім армяне аселі ўжо ў XIV ст., прынялі унію з Рыма-каталіцкім касцёлам і перайшлі на польскую мову, а ўжо ў нашым стагоддзі выехалі ў Польшчу або далей на Захад. Сёння на Беларусі жыве некалькі тысяч армян-эмігрантаў новай хвалі, якую спарадзілі землятрус 1988 г. і бясконцая вайна ў Карабаху, дзейнічае грамадска-культурнае таварыства «Аястан». Ніжэй мы друкуем артыкул журналіста Арцруні Галсцяна пра цяперашняе жыццё армян у нашай краіне.*

*Ю.Б.*

Палітычныя і эканамічныя праблемы сёння адсунулі на другі план культурнае жыццё народа суверэннай Беларусі. Тым не менш я хацеў бы прыцягнуць увагу чытачоў газеты да культуры і духоўнага досведу нацыянальных меншасцяў краіны. Скептыкі могуць запярэчыць, што нам нестае сіл адрадзіць уласна беларускую культуру, дык ці можам мы дазволіць сабе яшчэ і несці цяжар чужых праблем? Часткова яны маюць рацыю, але ж трэба памятаць, што Беларусь — самастойная дзяржава, і ўсе духоўныя здабыткі яе насельніцтва, незалежна ад нацыянальнага паходжання, складаюць багацце ўсяе дзяржавы. Гаворка ідзе не пра пышныя парады ў нацыянальных строях пад лозунгамі дружбы народаў. Маецца на ўвазе духоўна-культурны патэнцыял, які сёння мае маладая Рэспубліка Беларусь, неад'емным складнікам якога з'яўляюцца гістарычныя традыцыі і творчы патэнцыял нацыянальных меншасцяў. Калі мы не скарыстаем яго, нам будзе значна цяжэй аздаравіць духоўны клімат у краіне, супрацьстаяць навале бескультур'я і злачыннасці. Цяперашняя сітуацыя ў прасторы былога СССР дае Беларусі шанц стацца адным з буйнейшых культурных цэнтраў Усходняй Еўропы. На жаль, гэтая магчымасць не скарыстоўваецца яшчэ належным чынам ні дзяржаўнымі, ні грамадскімі ўстановамі.

Падчас «перабудовы» ў Мінску былі ўтвораны культурна-асветніцкія таварыствы нацыянальных меншасцяў Беларусі пры рэспубліканскім Фондзе культуры. Развіццё і прапаганда нацыянальных культур ад гэтага часу была перададзена дзяржавай грамадскім установам. На першы погляд, гэта павінна было надаць новы імпульс свабоднаму развіццю культурнага жыцця ў краіне. Аднак пагаршэнне эканамічнай сітуацыі, палітычная неразбярыха і недасканалае заканадаўства прымушаюць нас прыйсці да высновы, што грамадскія суполкі сёння не ў стане адолець тыя задачы, якія самі паставілі перад сабой. Ніяк ледзь паспяваюць так-сяк каардынаваць жыццё нацыянальных суполнасцяў, а да шырокай культурнай праграмы справа ўжо не даходзіць.

Армянская суполнасць на Беларусі не была такой шматлюднай, як у Галіцыі або ў Расеі, але сёння яна пашыраецца вельмі хутка. Прычына, як і на працягу ўсёй гісторыі армянскай дыяспары, — бедства. Існуюць паданні аб моцы, заможнасці і згуртаванасці сусветнай дыяспары нашага народа, але рэдка згадваецца, што яе складаюць учарашнія выгнаннікі, якія знайшлі прытулак у Амерыцы, Еўропе і краінах Блізкага Усходу, атрымаўшы магчымасць выжыць і развіваць культуру. Яны будавалі ў гэтых дзяржавах свае цэрквы і помнікі-хачкары, адкрывалі школы, друкавалі кнігі, часопісы, газеты і далі гэтым краінам сусветна вядомых паэтаў, пісьменнікаў, кінарэжысёраў. Сёння толькі ў Лос-Анджэлесе (ЗША) жыве каля 250 тысяч армян. Яны на свае сродкі адкрылі 15 школ, каледжы, 2 кафедры ва універсітэце (армянскай літаратуры і сучаснай гісторыі); дзейнічаюць 198 культурных таварыстваў, 35 цэркваў, выдаецца 15 газет і часопісаў, з якімі супрацоўнічаюць 70 армянскіх пісьменнікаў Лос-Анджэлеса. Я яшчэ раз падкрэсліваю, што ўсё гэта зроблена рукамі ўчарашніх выгнаннікаў, але немалая заслуга ў тым і самой Амерыкі, якая прыняла іх калісьці, падзяліла іхняе гора, а сёння падзяляе тыя багацце і радасць, якія яны стварылі разам.



Сёння бедства ізноў запанавала ва ўсім Закаўказзі. Людзі вымушаны пакідаць свае дамы і шукаць прытулку ў чужой старане, у тым ліку і на Беларусі. У двух сусветных войнах беларускія і армянскія салдаты баранілі адну дзяржаву, якая тады была для іх агульнай радзімай. Зямля Беларусі багатая на брацкія магілкі, а гэтыя магілкі — на армянскія прозвішчы. Сёння ж, калі бяда прыйшла ў Закаўказзе, Беларусь для нас сталася ўжо замежжам...

Дзякаваць Богу і людству, што на пачатку нашага стагоддзя ні ў Амерыцы, ні ў Еўропе, ні на Блізкім Усходзе не было антыкаўказскай прапаганды. На вуліцах Бейрута і Фрэзна, Парыжа і Дамаска палісмены не лавілі бежанцаў-армян, якія страцілі блізкіх і саму радзіму. Потым свет атрымаў шмат вялікіх людзей, бацькі якіх выратаваліся на чужыне ад генацыду. Але рэч не толькі ў гэтым. Вельмі важны тут менавіта маральны бок праблемы. Бежанцы былі заўсёды: людзі ўцякалі ад дыктатарскіх рэжымаў, ад вайны, ад бальшавізму і фашызму. Бежанцы былі ва ўсе часы, і цывілізаваныя дзяржавы лічаць законам для сябе даваць ім прытулак. Сёння на Беларусі шмат кажуць аб агульным падзенні нораваў. Вінавацяць у гэтым каго і што заўгодна, але галоўным «ворагам народа» наменклатурнае чынавенства абрала «асобаў каўказскай нацыянальнасці», не адасабляючы бежанцаў ад злачынцаў. Зрэшты, вучыць чыноўнікаў маральнасці — справа безнадзейная, і сутнасць дадзенага артыкула не ў гэтым.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды, творчыя людзі знаходзяць шляхі да паразумення. Толькі за апошнія паўгода ў Мінску адбыліся персанальныя выставы мастакоў Грыгора Данеляна і Барыса Егізарана. Мы ўдзячны за гэта людзям добрай волі з адміністрацыі двух мінскіх тэатраў: «Альтэрнатыўнага» і «Вольнай сцэны». Увосень плануецца правесці выставу сучасных армянскіх мастакоў у галерэі «Медэя». Нядаўна ў гэтай жа галерэі адбылася выстава іранскага мастака-мініяцюрыста армянскага паходжання Фаршчана. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што Мінск мае ўсе шанцы стацца адным з буйнейшых культурных цэнтраў Усходняй Еўропы, бо Беларусь сёння — гэта адна з найбольш стабільных дзяржаваў на абшарах былога Саюза, і гэта прыцягвае, нібы магніт, творчы патэнцыял, які не можа знайсці сабе выйсця ў дзяржавах з больш складанай палітычнай сітуацыяй. Не скарыстаць гэтыя магчымасці для развіцця культурнага жыцця Беларусі было б больш чым нядбайна. У першую чаргу гэта датычыцца творчых саюзаў і калектываў краіны. Патрэбна не так ужо і шмат: падтрымліваць шчыльныя дзелавыя кантакты з нацыянальна-культурнымі таварыствамі.

Беларусь дэкларавала аб сваім намеры будаваць прававую дзяржаву. Але для гэтага неабходна, каб нацыянальная самасвядомасць дарасла да дзяржаўнага мыслення, інакш краіне пагражае доля застацца «нацыянальнай кватэрай». Стварэнне дзяржавы — справа не толькі чынавенства і палітыкаў, але і ўсіх грамадзян, асабліва ў галіне культуры. У развіцці культурных сувязяў роля дзяржаўных чыноўнікаў невялікая: галоўнае, каб не перашкаджалі. Калі ж яны жадаюць дапамагчы — дык чаму б ім не пайсці нам насустрач хай сабе ў адным: каб на вуліцах Мінска міліцыя не лавіла армян без усялякай падставы і каб у гасцініцах ім не адмаўлялі ў начлезе.

**Арцруні ГАЛСЦЯН.**

*На здымку:* Хачкар — помнік ахвярам землятруса 1988 г., усталяваны каля царквы св.Аляксандра Неўскага ў Мінску.

**Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.**



# КЛУБ ЦЫГАНСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Якая культура ў рома? На гэтае пытанне вам адкажа кожны сябра краязнаўчага клуба «Рома», які нядаўна пачаў працаваць у Віцебску. Гэтае аб'яднанне цыганоў стваранае дзеля захавання культурнай спадчыны свайго народа, — пакуль што адзінае на Беларусі.

У наш час Адраджэння на нацыянальныя меншасці фактычна забыліся. Паміж тым, цыганы маюць самабытную культуру і мову з мноствам дыялектаў. У 1926г. у нас з'явілася свая, цыганская пісьменнасць. Умацаванню сувязяў паміж цыганамі і беларусамі, вывучэнню і прапагандзе культурных здабыткаў абодвух народаў і прысвечана дзейнасць клуба «Рома».

Продкі рома пакінулі Індыю прыкладна тысячу гадоў таму. Цяпер іх налічваецца ў свеце больш за 10 мільёнаў — столькі ж, колькі і беларусаў. На Беларусі жыве звыш 12 тысяч нашчадкаў рома, што перавандравалі сюды яшчэ ў XV — XVII стагоддзях праз Германію, Венгрыю і Польшчу.

Гісторыя Беларусі ў розныя часіны ведала вандроўных, паўвандроўных, аселых рома і метысаў — пераважна ад шлюбаў цыганоў з беларускамі. Сярод цыганскіх паселішчаў на Беларусі былі асабліва вядомыя в.Цыганы Гарадоцкага раёна, в.Завячэлле Лепельскага, в.Лапатнікі, а таксама в.Мяшчэнцы Сенненскага і в.Калодзішчы Мінскага раёнаў, мястэчкі Паўночны ў Мінску і Цітаўка каля Бабруйска.

У 1927г. на сядзібе Міхалова ў Віцебскім раёне быў створаны першы ў СССР цыганскі калгас «Новае жыццё». У Жлобінскім раёне таксама існаваў у 30-я гады цыганскі калгас блізу Стрэшына, а ў Віцебску мелася цыганская сярэдняя школа. На пачатку 60-х гадоў у Дзяржынску працаваў цыганскі ансамбль песні і танца. І ў наш час, напрыканцы XX стагоддзя, мы не павінны забыцца на спадчыну рома, мы павінны перадаць традыцыі гэтай старажытнай культуры нашым нашчадкам з наступнага тысячагоддзя.

**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
**краязнаўца.**

г.Віцебск.




# з 1 па 5 чэрвеня

## Серада, 1 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Надвор'е.
**8.30** Пяць хвілін на жарты.
**8.35** «І быў вечар, і была раніца..» Пра творчасць мастака А. Кузьміча.
**8.45** «У добры шлях!» Выступленне міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь В. А. Гайсёнка.
**8.55** Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс базавай школы.
**9.00** «Сенсацыя». Тэлесерыял. 1-я серыя.
**9.55** Аэробіка.
**10.30** ТА «Рэха». Крэда.
**12.40** Тэлевізійны Дом кіно. Сямейная парачка.
**13.30** Навіны.
**15.00** Відзьма-нявідзьма.
**16.00** «Бацькі і дзеці». Рэспубліканскі тэлевізійны сямейны сход. Частка 2-я.
**17.30** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40** Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Перадача з Магілёва.
**18.10** Абласныя навіны (Гомель).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** Пяць зорак. Тэлегульня.
**19.55** Міжнародная выстаўка «Камунтэхніка-94».
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** Пяць хвілін на жарты.
**21.50** «Сенсацыя». Тэлесерыял. 2-я серыя.
**22.45** «Валадарская дружына». Тэлефестываль. Частка 2-я.
**23.30** Дзесяць хвілін плюс стагоддзе.
**23.40** Надвор'е.
**23.50** НІКА.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.05 Навіны.
**8.20** «Ранішняя песенька». Мультфільм.
**8.35** «Дзікая ружа». Маст. фільм.
**9.00** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**9.50** На балі ў Папялушкі.
**10.50,** 0.15 Прэс-экспрэс.
**11.20** «Джыўс і Вустэр». Маст. фільм.
**12.10** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**12.40** «Надзея». Дабрачынны канцэрт для дзяцей-інвалідаў.
**13.30** Мультфільм «Востраў капітанаў».
**14.25** Прадпрымальнік.
**15.10** «Прыгоды Тома Соера».
**15.40** «Хрустальны чаравічак». Усерасійскі конкурс юных выканаўцаў.
**16.40** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**17.25** Мініяцюра.
**17.50** Тэхнадром.
**18.00** Гадзіна пік.
**18.25** «Дзікая ружа». Маст. фільм.
**19.00** Пяць крокаў ад Крамля.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Маналог.
**20.55** Фестываль зорак «Монтэ-Карла-94».
**21.50** Маст. фільм «Настасся. Загадка Ганны». (ЗША). 2-я серыя.
**23.10** Працяг фестывалю зорак «Монтэ-Карла-94».
**23.45** «Кураня смажанае». Дак. фільм аб складаным лёсе дзяўчынак-падлеткаў.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** Добрай раніцы, Еўропа.
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.30** «У свеце музыкі». М. І. Глінка.
**9.35** Тэлегазета.
**9.40** Сялянскае пытанне.
**15.20** Студыя «Рост».
**15.50** Там-там навіны.
**16.05** «Далёкі Усход».
**16.50** Дак. фільм «Дзеці Расіі».
**17.45** Свята кожны дзень.
**17.55** Панове-таварышы.
**18.10** L-клуб.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.25** Ніхто не забыты.
**20.30** Вялікі скандал.
**21.05** Фільм-прэм'ер.
**21.25** Хакей. Фінал кубка Стэнлі. 1-ы перыяд.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Хакей. 2-гі і 3-ці перыяды.

**Санкт-Пецярбург**

**7.40** Чароўная лінія.
**7.55** Для вас, выпускнікі.
**8.20** «Асцярожна! Карасі». Мультфільм.
**8.30** Залаты ключ.
**8.40** Сёння і штодзень.
**9.00** «Нямецкая хваля».
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.15** Тэлемагазін.
**10.20,** 11.40, 15:25 Музычны момант.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Сёння — Дзень абароны дзяцей. «Маці чалавечая». Тэлефільм.
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45** Чароўная лінія.
**15.40** «Казка пра рыбака і рыбку» ў выкананні Тэатра дзіцячага балета.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** «Востраў капітанаў». Мультфільм.
**17.20** Фестываль кінастудыі «Выбар». «Жыць у згодзе».
**17.40** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50** Спорт, спорт, спорт...
**19.05** Будні.
**19.20** Тэлемагазін.
**19.30** «Санкт-Пецярбург — горад розных увасабленняў. Мара аб Еўропе».
**20.30** «Зоркі — дзецям». Музычная праграма.
**21.30** Падсякай.
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10** Ваш стыль.

**8 канал**

**18.00** «Карусель».
**18.20** Музычная праграма.
**18.50** Журфак БДУ прадстаўляе.
**19.00** Паліцэйскі серыял «Хіл Стрыт Блюз».
**19.50** СОЛТЭК. Навіны.
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** «Марэна Клара». 18-я серыя.
**21.20** Астра-клас.
**21.45** Мастацкі фільм «Змагар».

## Чацвер, 2 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Надвор'е.
**8.30** Пяць хвілін на жарты.
**8.35** «Сенсацыя». Тэлесерыял. 2-я серыя.
**11.30** Настальгічны дывертысмент. Частка 1-я.
**12.15** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Салдаты Лізюковы».
**12.35** Настальгічны дывертысмент. Частка 2-я.
**13.20** Дзесяць хвілін плюс стагоддзе.
**13.30** Навіны.
**15.00** «Еўрапейскі калейдаскоп».
**15.30** Голас. Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў.
**16.30** «Сучаснасць і будучыня беларускай культуры і нацыі». Міжнародны кангрэс. Перадача 1-я.
**17.30** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40** «Музыка шкла». Кінанарыс.
**17.50** Незвычайны рэйс. Першы «Ікарус» «Амкадора».
**18.05** Зачытайце маё пісьмо...
**18.10** Абласныя навіны (Гродна).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** Асацыяцыя дзіцячай прэсы прадстаўляе: «БЭМЦ». Праграма для тых, хто любіць тэхніку.
**19.15** Запрашаем на вячоркі. Абрад «Вяселле» ў вёсках Асмаленік і Каросцін Лельчыцкага раёна.
**20.10** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**20.25** Пяць хвілін на жарты.
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** Адкрыццё II Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94». Пасля заканчэння — Надвор'е; НІКа; Студыя «Сэнс» у Расонскім раёне.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.05 Навіны.
**8.20** Мультфільм.
**8.30** «Дзікая ружа». Маст. фільм.
**8.55** У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
**9.35** «Небаракі». Кароткаметражны фільм.
**10.20** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**10.50,** 23.45 Прэс-экспрэс.
**11.20** «Джыўс і Вустэр». Маст. фільм.
**12.10** Дак. фільм «Яго вялікасць футбол».
**14.25** Прадпрымальнік.
**15.10** «Прыгоды Тома Соера».
**15.40** Адказы. Перадача тэлекампаніі Сі-бі-эн (ЗША).
**16.10** ...Да 16 і старэйшым.
**17.25** За кулісамі.
**17.50** Загадка СБ.
**18.00** Гадзіна пік.
**18.25** «Дзікая ружа». Маст. фільм.
**18.55** Я. Габрыловіч пра час і пра сябе. Частка 4-я.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Вагон 03.
**20.55** Лато «Мільён».
**21.25** Спявае Л. Нікалаева.
**21.55** Маст. фільм «Настасся. Загадка Ганны». 3-я серыя.
**23.15** Белае і чорнае.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** Музыка ўсіх пакаленняў.
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25** Паехалі.
**8.35** Чароўны куфэрачак.
**8.45** «Санта-Барбара».
**9.35** Тэлегазета.
**9.40** Сялянскае пытанне.
**10.10** «Санта-Барбара».
**15.20** Студыя «Рост».
**15.50** Там-там навіны.
**16.05** Новая лінія. «Стварь дабро...»
**16.50** «Па ціхіх мясцінах».
**17.15** Будні.
**17.45** Свята кожны дзень.
**17.55** У свеце аўта-і матаспорту.
**18.25** Свая гульня.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.25** Рэпарцёр.
**20.40** Магікане. Актрыса Вольга Ляндзберг.
**21.15** 60 мінут.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Экран крымінальных паведамленняў.
**23.05** Вячэрні салон.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45** Чароўная лінія.
**8.05** Мультфільм.
**8.15** Казка за казкай.
**8.45** Па сакрэту ўсяму свету.
**9.00** «Нямецкая хваля».
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.15** Тэлемагазін.
**10.20,** 11.40, 15.40 Музычны момант.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Еўрапейскі калейдаскоп.
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45** Чароўная лінія.
**15.45** «Зачарпні з роднага калодзежа». Тэлефільм.
**16.20** «Звычайная небяспечная прыгода». Мультфільм.
**16.30** Музыка — дзецям.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** «Востраў капітанаў». Фільм 2-гі.
**17.10** Рэформа і ўлада.
**17.40** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**18.50** Спорт, спорт, спорт...
**19.05** Будні.
**19.25** Тэлемагазін.
**19.30** «Кветкі запозненыя». Фільм-спектакль.
**21.05** Блеф-клуб.
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10** Ваш стыль.
**22.20** Футбол. «Змена-Сатурн» (СПБ) — «Тарпеда» (Уладзімір).
**23.05** «Вячэрні звон».

**8 канал**

**18.00** «Карусель».
**18.20** Музычная праграма.
**19.00** Тэлесерыял «Лабірынт правасуддзя».
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** «Марэна Клара». 19-я серыя.
**21.25** Спартыўная праграма «Файт, Кікбоксінг».
**21.45** Дэтэктыў... Баявік. «Усё адбылося на раўнінах» з серыі «Яшпіён».
**22.45** Foxy music (паўтор).

## Пятніца, 3 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Дзелавая хроніка.
**8.20** Пад купалам Сусвету.
**8.30** Надвор'е.
**8.40** Пяць хвілін на жарты.
**8.45** «Кіраўскія ўмельцы». Кінанарыс.
**8.55** Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс сярэдняй школы.
**12.35** «З усмешкай добрай...» Фільм-канцэрт.
**13.15** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**13.30** Навіны.
**14.50** Педагагічны экран. Прафесіянальнае вучылішча лёгкай прамысловасці № 73.
**15.25** «Сучаснасць і будучыня беларускай культуры і нацыі». Міжнародны кангрэс. Перадача 2-я.
**16.25** Гандбол. Мужчыны. Чэмпіянат Еўропы. Беларусь — Германія.
**17.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.00** Дзелавая хроніка.
**18.10** Абласныя навіны (Магілёў).
**18.25** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00** Трэці тайм. Футбольны агляд.
**19.45** Рэйтынг.
**20.00** «Еўратунэль — будоўля стагоддзя» (Францыя).
**20.15** Студыя «Тэлесябрына». Падарункі на добры настрой.
**20.25** Пяць хвілін на жарты.
**20.30** Кантакт.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** «Сенсацыя». Тэлесерыял. 3-я серыя.
**22.40** Надвор'е.
**22.50** НІКа.
**23.05** «Ванільна-клубнічнае марожанае». Маст. фільм (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

**5.15** Ранішняя размінка.
**5.30** Раніца.
**7.45** «Бяздомны Кангурджа». Мультфільм.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны.
**8.20** Сарока.
**8.40** Агарод круглы год.
**9.10** 50 x 50.
**10.50,** 23.55 Прэс-экспрэс.
**11.20** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**11.50** «Джыўс і Вустэр». Маст. фільм.
**14.25** Прадпрымальнік.
**14.55** Бізнес-клас.
**15.10** Ці можна абысціся без грошай? Перадача для дзяцей.
**15.15** У гасцях у казкі. «Пра ката».
**16.40** Мультфільм «Карцінкі па-даўнейшаму». Фільм 4-ы «Ноч на Лысай гары».
**16.50** Азбука ўласніка.
**17.25** Чалавек і закон.
**17.55** Рэха тыдня.
**18.15** Японія з А. Калошыным.
**18.45** Поле цудаў.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.45** Чалавек тыдня.
**21.05** «Дэн Огаст». Маст. фільм.
**22.05** Палітбюро.
**23.10** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**0.05** Музагляд.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**6.20** Патрабуюцца...
**6.30** Формула-730.
**7.00** Час дзелавых людзей.
**7.30** «Гарадок». Забаўляльная праграма.
**7.55** Тэлегазета.
**8.00** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25** Паехалі.
**8.35** Чароўны куфэрачак.
**8.50** «Санта-Барбара».
**9.40** Сялянскае пытанне.
**15.20** Студыя «Рост».
**15.50** Там-там навіны.
**16.05** Вайсковы кур'ер.
**16.20** Новая лінія. «Востраў».
**16.50** Дысней па пятніцах. «Тайна згубленай даліны». 2-я серыя.
**17.45** Свята кожны дзень.
**17.55** Ніхто не забыты.
**18.00** «К-2» прадстаўляе: «Ню».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Пунсовая літара». Маст. фільм (ФРГ).
**21.25** Хакей. Фінал кубка Стэнлі. 1-ы перыяд.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Хакей. 2-гі і 3-ці перыяды.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45** Чароўная лінія.
**8.05** «Востраў капітанаў». Мультфільм.
**8.30** Казка за казкай.
**9.00** «Нямецкая хваля».
**9.30** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**10.20,** 11.40, 15.40 Музычны момант.
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** «Сярэбраная ніць».
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
**11.45** Чароўная лінія.
**15.45** «Чорны бусел». Мультфільм.
**15.55** «Залаты ключ». Іграем класіку.
**16.05** Кідайка.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** Новы Пецярбург.
**17.30** Апавяданні А. Чэхава чытае А. Феафанаў.
**17.55** Рамансы П. І. Чайкоўскага.
**18.50** Спорт, спорт, спорт...
**19.05** Будні.
**19.25** Тэлемагазін.
**19.30** «На парозе ночы». Маст. фільм. Заключная серыя.
**20.40** «Ван Гог». Тэлефільм (Францыя).
**21.15** Тэатральная правінцыя.
**22.00** Спартыўныя навіны.
**22.10** Ваш стыль.
**22.20** Анталогія зарубежнага кіно. «Франкенштэйн-2000», ці Уваскрашэнне з мёртвых» (ЗША).

**8 канал**

**18.00** «Карусель».
**18.20** Музычная праграма.
**18.50** СОЛТЭК. Дорэміфасолькі.
**19.00** Праграма аб здароўі. «Доктар... доктар».
**19.20** «Лёс». 65-я серыя.
**20.00** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30** «Марэна Клара». 20-я серыя.
**21.20** Час мясцовы.
**21.45** Фантастыка на экране. «Падлеткі ў Сусветнай».
**23.00** Музычная праграма.

## Субота, 4 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Надвор'е.
**8.30** Пяць хвілін на жарты.
**8.35** Кола дзён. Сустрэча са збіральніцай і выканаўцай народных песень Марыляй Крупавес.
**8.55** Тэлебачанне — школе. Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс сярэдняй школы.
**9.00** «Сенсацыя». Тэлесерыял. 3-я серыя.
**9.55** Здароўе.
**10.25** Паказвае Віцебск.
**11.25** Тыдзень планеты.
**11.40** «Ванільна-клубнічнае марожанае». Маст. фільм (Францыя).
**13.15** «Сталіца». Тэлечасопіс.
**13.35** «Мой маленькі поні».
**14.05** Да 70-годдзя «Беларусьфільма». «Канстанцін Заслонаў». Маст. фільм (1949 г.)
**15.35** Дзесяць запаведзяў. Перадача 6-я.
**16.05** Шматгалоссе. Народы Беларусі: іх абрады, традыцыі, культура.
**16.50** «Нові К»-топ-10.
**17.50** «Чарапашкі ніндзя».
**18.25** Гандбол. Мужчыны. Чэмпіянат Еўропы. Беларусь — Расія.
**19.55** Студыя «Тэлесябрына». «Гэта проста любоў».
**20.30** Пяць хвілін на жарты.
**20.35** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.35** Пад купалам Сусвету.
**21.45** «Зоркі» на экране. «Віла «Архідэя». (Югаславія).
**23.20** НІКа.
**23.35** «Каскад». Спадарожнікавыя антэны.
**23.50** Відзьма-нявідзьма.

**Канал «Астанкіна»**

**6.30** Ранішняя размінка.
**6.45** Суботняя раніца дзелавога чалавека.
**7.15** Азартныя гульні.
**7.45** Слова пастыра.
**8.00** «Марафон-15» прадстаўляе... Покліч джунгляў.
**8.30** Тэлерадыёкампанія «Мір» прадстаўляе: «Цік-так». Праграма для дзяцей; Цыкл «Іншыя»; «Спектр». Інфармацыйны выпуск аб важнейшых падзеях тыдня краін СНД.
**10.00** Ранішняя пошта.
**10.30** Медыцына для цябе.
**11.00** Навіны культуры.
**11.10** Смак.
**11.25** «Яго вялікасць футбол».
**11.55** «Кашачая лухта пра сэра Джэфры». Мультфільм.
**12.10** Адэскай кінастудыі — 75. Маст. фільм «Вернасць».
**14.00,** 23.00 Навіны.
**14.25** Масква і садружнасць.
**14.50** Мультфільм «Таямнічы свет Ог» (Аўстралія). 3-я серыя.
**15.15** Тэлескоп.
**15.45** Кола гісторыі.
**16.15** «Жыццё заапаркаў».
**17.00** Шчаслівы выпадак.
**17.50** Да і пасля...
**18.40** Маст. фільм «Нешта з іншага свету». 3-я серыя.
**19.40** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Навіны плюс.
**20.45** Маст. фільм «Нешта з іншага свету». 4-я серыя.
**21.40** Што? Дзе? Калі?
**22.45** Праграма «Х».
**23.10** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.

**Канал «Расія».**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**7.25** Мульці-пульці. «Пра Веру і Анфісу».
**7.55** Студыя «Рост».
**8.25** Парламенцкі тыдзень.
**8.55** Казкі для бацькоў.
**9.25** Пілігрым.
**10.10** Тэлеэрудыт.
**10.15** Як жыць будзем?
**11.00** «Здрадніца». Маст. фільм.
**12.25** Час Таркоўскага.
**12.40** Сялянскае пытанне.
**13.20** «Славянскі базар» запрашае сяброў.
**13.50** Сігнальны экземпляр.
**14.00** Ізабэль. Забаўляльная віктарына.
**14.45** Залатая шпора.
**15.15** «Прафесія — рэжысёр».
**16.05** Футбол без граніц.
**17.00** Шарман-шоу.
**18.05** Свята кожны дзень.
**18.15** Вуснамі дзіцяці.
**18.45** «Міша». Мультфільм.
**19.25** «Маці па кантракце». Маст. фільм (Паўднёвая Карэя).
**21.20** Тэлеэрудыт.
**21.25** Зусім сакрэтна.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Праграма «А».
**23.55** «Развітанне восені». Маст. фільм (Польшча).

**Санкт-Пецярбург**

**7.35** Чароўная лінія.
**7.50** «На парозе ночы». Маст. фільм. Заключная серыя.
**9.00** «Нямецкая хваля».
**9.30** «Вячэрні звон».
**10.30** Хуткая дапамога.
**11.00** Канцэрт па заяўках.
**11.30** Тэледоктар.
**11.45** Чароўная лінія.
**12.00** «Руслан і Людміла». Маст. фільм.
**14.30** «Прыгажосць». Музычны фільм.
**14.45** Вынікі XX стагоддзя.
**15.30** Спартыўны агляд.
**16.00** Зебра.
**16.45** Вялікі фестываль.
**17.00** Аўтапілот.
**17.15** Крымінальнае дасье.
**17.35** Фестываль кінастудыі «Выбар». «Дух, душа, цела».
**18.10** Экспрэс-кіно.
**18.30,** 21.45 Інформ ТБ.
**18.55** «Мёртвы сезон» на экране і ў жыцці.
**19.35** «Мёртвы сезон». Маст. фільм.
**22.00** Ваш стыль.
**22.10** «Парыжскі калейдаскоп». Тэлефільм (Францыя).
**23.05** Адам і Ева +.

**8 канал**

**15.00** Мультсерыял «Трансформеры».
**15.50** Праграма аб здароўі. «Доктар... доктар».
**16.15** Забаўляльная праграма «Гульня».
**17.00** Прапаведнік Кенет Коупленд.
**17.30** Прыгодніцкі серыял «Заліў «Небяспечны», «Сур'ёзная небяспека».
**18.00** Журнал падарожжаў: «Партугалія, Грэцыя».
**18.30** Опра Уінфры шоу: «Чаму мы разводзімся».
**19.30** «Лёс». 66-я, 67-я серыі.
**21.00** СОЛТЭК. Спартыўная мазаіка.
**21.30** Сем хвілін з «Хрыстафорам».
**21.40** «Кветка страсці». 16-я, 17-я серыі.
**23.10** Музычная праграма.

## Нядзеля, 5 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00** Раніца рэспублікі.
**8.10** Пад купалам Сусвету.
**8.20** Пяць хвілін на жарты.
**8.25** Слова да чалавека.
**8.55** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Справы вайсковыя.
**9.40** «Чарапашкі ніндзя».
**10.10** АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі.
**10.25** Студыя «Існасць». Нядзельная пропаведзь свяшчэнніка Алексія Шынкевіча (г. Жодзіна).
**10.35** «Нясвіжскія партрэты». Тэленарыс.
**10.55** MTV. Лепшыя хіты.
**11.25** Аэробіка.
**12.00** Запрашальны білет. Знаёмства са студыяй маладых выканаўцаў «Вольны вецер».
**12.45** Кінаэкран-94. Чэрвень.
**13.50** Міні-футбол. Таварыскі матч. Зборная Беларусі — зборная Украіны.
**14.30** Вяскоўцы. Вёска Лілень Асіповіцкага раёна.
**15.00** Вобраз. Літаратурны тэлечасопіс.
**16.00** Тэлекрама.
**16.10** «ПапЦіп»-TV». Музычная праграма.
**16.55** Тэлеклуб «Гаў-гаў».
**17.20** «Гінес-шоу».
**17.50** Дзелавы веснік.
**18.05** «Чарапашкі ніндзя».
**18.35** Чараўнік вялікага экрана. Творчы вечар народнага артыста Беларусі І. Дабралюбава.
**20.00** Панарама.
**20.35** Гандбол. Мужчыны. Чэмпіянат Еўропы. Беларусь — Румынія. Уперапынку (21.05) — Калыханка.
**21.50** «Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар».
**22.00** Пад купалам Сусвету.
**22.10** Пяць хвілін на жарты.
**22.15** Рэклама.
**22.20** «Кеома». Маст. фільм (Італія).

**Канал «Астанкіна»**

**6.45** Ранішняя размінка.
**7.00** Гадзіна сілы духу.
**8.00** Раным-рана.
**8.30** «Марафон-15».
**8.45** Тыраж «Спортлато».
**9.00** Палігон.
**9.30** Пакуль усе дома.
**10.00** Ранішняя зорка.
**10.50** Зямля людзей.
**11.20** Авіякасмічны салон.
**11.35** Тэлесерыял «Кантрольная для дарослых». 1-я серыя.
**12.30** Вагон 03.
**13.00** «Піф і Геркулес».
**13.10** «Падводная адысея каманды Кусто».
**14.00,** 17.15, 22.55 Навіны.
**14.20** Дыялог у прамым эфіры.
**15.00** Жывое дрэва рамёстваў.
**15.05** Панарама.
**15.35** Клуб падарожнікаў.
**16.25** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**17.25** Бамонд.
**17.40** Шпаргалка.
**17.45** «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
**18.40** Тэлелоцыя.
**18.55** Надвор'е.
**19.00** КВЗ-94.
**21.00** Нядзеля.
**21.45** Спартыўны ўік-энд.
**22.00** Паэзія. «Пушкіну прысвячаецца...»
**22.20** Тэніс. Адкрыты чэмпіянат Францыі.
**23.00** Футбол. Таварыская сустрэча. Зборная Канады — зборная Бразіліі.

**Канал «Расія»**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20 Весткі.
**7.25** Студыя «Рост».
**7.55** «Снеданне для чэмпіёнаў».
**8.25** Лепшыя гульні НБА.
**9.25** Белая варона.
**10.10** Аты-баты...
**10.40** «Дэ факта». Міжнародная праграма.
**11.10** «Дама з сабачкам». Маст. фільм.
**12.40** Сялянскае пытанне.
**13.20** Не высечы...
**13.35** «Барыс Гадуноў». Праграма В. Няпомняшчага.
**14.30** Хакей. Фінал кубка Стэнлі.
**17.00** «Гуфі і яго каманда», «Чорны плашч».
**18.00** Аншлаг і КЁ.
**19.25** Свята кожны дзень.
**19.35** «Заняць яго месца». Маст. фільм.
**21.25** Каробка перадач.
**21.40** У Ксюшы.
**22.40** Аўтаімгненне.
**22.45** Зоркі гавораць.
**22.50** Спартыўная карусель.
**22.55** Цішыня № 9.

**Санкт-Пецярбург**

**7.30** «Гаючае слова». Праграма-набажэнства.
**8.00** Анталогія зарубежнага кіно. «Франкенштэйн-2000, ці Уваскрашэнне з мёртвых» (ЗША).
**9.40** Куток Расіі. «Пенза — мая натхняльніца».
**10.00** Экспрэс-кіно.
**10.15** Мая музыка.
**11.00** Нядзельны лабірынт.
**12.30** «След Сокала». Маст. фільм.
**14.10** Сямейная праграма.
**14.40** Гістарычны альманах.
**15.25** «Планета не толькі людзей». Тэлефільм.
**16.25** «Грэк Зорба». Балет на музыку М. Тэадаракіса пры ўдзеле У. Васільева.
**18.30** Інформ ТБ.
**18.55** «Слова Андронікава». Фільм 3-ці.
**20.05** Наша кіно. «Дом на пяску».
**21.30** Ваш стыль.
**21.40** Кана-94. «Залатая галіна поспеху».
**22.40** Футбол. «Змена-Сатурн» (СПБ) — «Сокал» (Саратаў).

**8 канал**

**15.00** Мультсерыял «Трансформеры».
**15.10** Спартыўная паралель.
**17.00** Прапаведнік Кенет Коупленд.
**17.30** «Сілуэт забойцы» з цыкла «Зігзагі жыцця».
**18.00** СОЛТЭК. Тэлефэн. Вуліца.
**18.30** Дзікая Амерыка.
**19.30** Спорт-сакрэт.
**20.00** Камедыйнае шоу «Скрытая камера».
**20.20** «Кветка страсці». 18-я, 19-я, 20-я серыі.
**22.40** Foxy music.







У ХУТКАПЛЫННЫМ часе (толькі ўдумайцеся ў гэтае слова — плынь і хутка!) мы сапраўды плывем — не, імчымся з шалёнай хуткасцю, супакойваючы сябе думкай, што вось-вось яшчэ троху намаганняў, і мы супынімся, адпачнём, агледзімся і, нарэшце, адчуем сябе дзецьмі вялікай Прыроды, якая стварыла кожную нашу клетку і таму, хочам мы гэтага ці не, уздзейнічае сапраўды на кожную клетку.

Тыя, хто ўмеюць прыслухоўвацца да сябе, да голасу мноства сістэмаў, што забяспечваюць бесперапынную працу нашага арганізма, ведаюць няхітрае правіла: кладучыся спаць, пажадайце (або папрасіце) вашы клеткі, ваша сэрца, лёгкія (і ўсё астатняе), каб яны добра працавалі ўначы, пакуль вы будзеце спаць. І калі ваш імпэт і імпульс да здароўя дастаткова моцны, вы ўстанеце ў лепшым стане, больш здаровыя, чым заўсёды... Гэта значыць — ваш арганізм паслухаўся вас, бо яму хочацца вас слухацца — але толькі ў тым выпадку, калі вашы пажаданні разумныя. Часцей жа гэтыя пажаданні, наадварот, прыносяць шкоду.

Што, сапраўды, застаецца вашаму арганізму, калі вы п'яце шклянкамі моцную каву і не менш моцную гарбату (мы вас запрашаем толькі на кубачак, а ніяк не на літры гэтага, сапраўды, цудоўнага напою, які ў празмернай колькасці, як і ўсё іншае, прынясе шкоду)? Калі злоўжываеце цыгарэтамі і, магчыма, больш моцнымі наркотыкамі, накшталт алкаголю? Пакуль арганізм можа, ён будзе выводзіць гэтыя шлакі і атруту. Але наступае час, калі ён — усё, змогся, яго рэзервы вычарпаныя. І тады наступае расплата — хваробы.

Урачы і эколагі, можна сказаць, крычаць крыкам. Доўгія гады, пакуль газеты пераможна трубілі аб вялікім гонары быць вялікім свінарнікам краіны, нашы глебы, вада, паветра атручваліся нітратамі. Сёння на ўсёй Беларусі практычна няма чыстых калодзежаў, падземныя воды таксама з вялікім перавышэннем нормы шкодных рэчываў. А тут яшчэ радыяцыя, «брудныя прадукты», дрэннае, незбалансаванае харчаванне... Нашы хворыя дзеці, нашы маладыя людзі, якія ўжо не адпавядаюць стандартам ваенкаматаў і прызываюцца на службу з парушэннем усіх медыцынскіх правілаў — таму пацверджанне.

А калі дадаць, што лекі цяпер сталі недаступнымі ці іх няма — застаецца... не, не ўпадаць у адчай, але энергічна брацца за сябе і сваё здароўе. І ў гэтым нам дапамогуць разумныя кнігі, дзе няма нічога звышнатуральнага, а нагадваюцца простыя, усім даступныя рэчы, якія дапамагаюць нашаму здароўю.

(Дарэчы, я забараніла б продаж усіх кніжачак па магіі, акультызму і іншых звышнатуральных момантах лекарства. Здароўе гэтым не паправіш. У што ўмешваецца «чараўнік усёй Расіі» ці іншыя магі і экстрасэнсы, па сутнасці, не ведае ніхто, але няўмелыя заняткі нават, здавалася б, бяскрыўднай ёгай і дыхальнымі практыкаваннямі — пранаямай — могуць, як сведчаць многія лекары, прывесці проста ў вар'яцкі дом.)

Я нагадваю пра тыя кніжкі, дзе гаворыцца аб еднасці з маці-Прыродай, Зямлёй і Паветрам, дзе падкрэсліваецца, што чалавек павінен правільна харчавацца і перыядычна ачышчаць сябе ад шлакаў. Напрыклад, пра трохтомнік Г.Малахава «Гаючыя сілы», выдавецтва АТ «Камплект СПб» у Пецярбургу.

Давялося назіраць, як немаладая жанчына спынілася каля кніжнага кіёска, дзе прадаваўся гэты трохтомнік і, запытаўшыся пра цану, паморшчылася — «Дорага!» Але тут жа, побач, у іншым камерцыйным кіёску купіла яркую памаду, якая перавышала кошт трохтомніка — за 100 тысяч.

Я глядзела на яе са шкадаваннем — твар у яе быў азызлы, пад вачыма — глыбокія цені, жоўтыя абясколераныя валасы і гэткая, як толькі што купленая, памада на вуснах. Ясна, што яна пакутуе і ад хваробаў нырак, і ад хваробаў печані, і мае хворы страўнік. Ніякімі, самымі найлепшымі замежнымі фарбамі не схаваеш ні ўзросту, ні стомленасці на твары, ні хваробаў. І ўся справа, мабыць, у нашай інерцыі — рабіць ачышчальныя працэдуры доўга, на гэта патрабуецца час, жаданне, сіла волі (таму што першыя спробы могуць быць цяжкімі і пакутлівымі з-за вялікай колькасці шлакаў), а вось касметыка ці лекі патрабуюць часу нашмат менш, і не трэба прымушаць сябе на высілкі. Між тым, успаміналіся і дагледжаныя замежныя бабулькі, на тварах якіх, як правіла, не ўбачыш ніякай касметыкі, затое бачна, што яны клапоцяцца пра сваё здароўе, харчуюцца правільна і рацыянальна, у выпадку нейкіх парушэнняў тут жа прымаюць неабходныя меры. І вельмі часта справа нават не ў дарагіх леках, як могуць мне адразу ж запярэчыць мае апаненты. Справа ў саміх адносінах да здароўя і ў прапагандзе здаровага ладу жыцця, які дае свае вынікі. Вядома, напрыклад, што Амерыка амаль перастала паліць — затое прыгожая рэклама пра сапраўдных мужчын, якія дасягаюць поспехаў з цыгарэтай у зубах, назойліва спакушае нашых маладых і немаладых «суперменаў» адведаць замежнай і сваёй атруты. І труцяцца! І купляюць неймаверна дарагія прыгожыя пачкі і прывучаюць сябе да спакуслівага дыму, што навявае спакой... А пасля, для дзяўчатак — паталагічныя роды, неданошаныя дзеці, а для хлопцаў — ранняя сексуальная нямогласць і таксама тыя ж алергічныя, перапоўненыя атрутнымі рэчывамі немаўляты...

Нам, старэйшаму пакаленню, неабходна вучыць нашых дзяцей беражлівым адносінам да свайго здароўя. Таму што мы ведаем тое, на што пакуль не звяртаюць увагі яны — у Расіі, краінах Балтыі, на Беларусі катастрафічна скарачаецца колькасць народжаных, Смерць пачынае перамагаць Жыццё, бо нават тыя, што нараджаюцца, часта маюць нейкую паталогію, якая не дае ім стаць паўнавартаснымі грамадзянамі. І тыя з нашых дзяцей і ўнукаў, хто выжыве, атрымае адукацыю і прафесію, вымушаны будуць працаваць на вялікую армію псіхічна хворых, невылечных членаў грамадства, чые хваробы можна і трэба было б папярэдзіць.

Чаму я загаварыла менавіта пра гэтую кнігу (дакладней, гэтыя тры кнігі)? Таму што ўжо выходзіла невялічкая, як папярэдняя кніга гэтага аўтара, «Ачышчэнне арганізма і здароўе», па якой рабілі ачышчальныя працэдуры некаторыя мае знаёмыя, атрымаўшы добрыя вынікі. У гэтых жа трох тамах аўтар дае парады — калі і як трэба рабіць гэтыя ачышчальныя працэдуры, што можа перашкодзіць, якія цяжкасці сустрэнуцца. Кожны арганізм, як і Асоба, унікальны, кожны на адно і тое ж рэагуе па-рознаму. Г.Малахаў сабраў мноства ўнікальных выпадкаў аздараўлення, і, можа, самае цікавае ў яго трохтомніку, гэта якраз лісты людзей, якія зняверыліся ў леках і сучасных сродках дапамогі хворым людзям і самі сталі змагацца за сябе. Дзякуючы лістам аўтар змог напісаць трэці том, і, як ён піша, рыхтаваць новую кнігу, таму што, аналізуючы чужыя памылкі, ён змог аналізаваць і дапаўняць урачэбныя парады, якія дае на кожны выпадак сам. Нездарма трохтомнік «Гаючыя сілы» раздзяляецца на тры часткі —«Ачышчэнне арганізма», «Біясінтэз і біяэнергетыка», «Біярытмалогія і урынатэрапія».

Новае, у параўнанні з тым, што мы досыць добра ведаем — якую ежу ўжываць найлепей, якімі зёлкамі лячыцца ў тых ці іншых выпадках, у Г.Малахава раздзел — «Біярытмалогія». Менавіта тут даведваемся, у якія дні, гадзіны, у якую пару года трэба рабіць тыя ці іншыя працэдуры, як і калі збіраць зёлкі, як арыентавацца па фазах Месяца — тое, што заўсёды ведалі вясковыя траўнікі і лекары. Траўнікаў і лекараў, як «чужды элемент», павыводзілі, і сёння на вёсцы амаль няма гэтых мудрых і дасведчаных людзей, якія дапамагалі ціха і непрыкметна, якія тонка і чуйна слухалі Прыроду і чулі яе голас, амаль заглушаны сённяшняй жалезнай хадой цывілізацыі.

І, дапіваючы наш кубачак гарбаты (спадзяюся, што зрабілі яе вы з зёлак — ну, такіх, напрыклад, як сумесь чабору, душыцы, святаянніка, мяты альбо рабіны, шыпшыны, лістоў сунічніка ці малінніка), мы задумаемся над тым, як нам вярнуцца да Прыроды, яе рытмаў, як вярнуцца да законаў Космасу, які нас падтрымлівае альбо знішчае, гледзячы па тым, успрымаем мы сябе ягонай часцінкай ці наіўна спадзяемся, што нас абароняць ад яго машыны, складаныя лекі, дасягненні нашага веку, які, аднак, усё роўна бяссільны перад Вечнасцю...

**Таццяна ДАЛГОВА.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66



Індэкс 63875
Агульны наклад 8000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

